должна инициировать работы по консервации Замковой горы и добиваться выделения фондов до тех пор, пока городские и государственные структуры не поймут, что ситуация угрожающая”[8].

В середине февраля 1928 г. состоялась конференция с участием старосты Гродненского повета Робакевича, генерала Клеберга, президента города Рогалевича, начальника строительства третьего военного округа подполковника Еленевского, ксендза Кристена, главного хранителя музея Ядковского и начальника Управления водных путей Белицкого. В повестке дня стоял вопрос реставрации и восстановления королевского Старого замка и катастрофического состояния Замковой горы, угрожающего общественной безопасности.

Конференция постановила назначить администратором Старого замка директора музея Юзефа Ядковского и доверить ему весь комплекс вопросов, связанных с реставрацией и восстановлением замка, учитывая его значение как памятника истории и архитектуры общегосударственного значения, а также его предназначение в будущем как представительского здания и хранилища государственных культурных ценностей[9].

Замок по-прежнему оставался в распоряжении военных властей, более того, весь комплекс реставрации и восстановления должен был быть реализован куратором по согласованию с военным командованием.

В том же 1928 г. были созданы замковый Кураториум, возглавляемый генералом Клебергом, а также комиссия для укрепления Замковой горы. В результате работ, которые производились в 1928 – 1929 гг., возводится каменная набережная и создается новый красивый бульвар у подножья Замковой Горы. Кроме этого, замковый Кураториум организует и проводит работы, направленные на укрепление и консервацию Замковой горы. Эти работы начались в конце 1931 г. под наблюдением Ядковского[10]. Тогда же была создана и подпорная стена под Новым замком.

После окончания Второй Мировой войны уже советские городские власти предприняли меры по озеленению Замковой горы, прилегающих улиц и набережной Немана. По “Плану древонасаждений по городу Гродно” с 1 апреля по 1 мая 1946 г. планировалось посадить 200 деревьев в районе лестницы Замковой горы и на самой горе, по улице Старозамковой – 160, набережной правого берега Немана – 600[11].

В течение 50-60-х годов XX столетия работы по озеленению и укреплению склонов холмов продолжались. В “Приложении № 1” к решению горисполкома № 264 от 25 апреля 1964 г. нашли свое отражение “Предложения и рекомендации граждан города Гродно в связи с рассмотрением на 9-й сессии городского Совета депутатов трудящихся вопроса “О красоте родного города”. В пункте 42 записано: “Благоустроить набережную реки Неман, отремонтировать имеющуюся лестницу-спуск к реке Неман. Засадить деревьями и кустарниками Замковую гору”.[12]

В результате активной работы по озеленению замковых холмов и набережной этот уголок нашего города превратился в излюбленное место отдыха горожан. А отрезок набережной от пивзавода до т.н. “Лестницы любви”, а затем и до Нового моста, стал одним из самых любимых гродненцами городских променадов. В выходные дни полюбоваться водами Немана, подышать свежим воздухом и посидеть в тени деревьев стекалось большое количество горожан. Но прежде всего на десятки лет исчезла проблема оползней склонов замковых холмов.

В 90-е годы набережная стала не столь популярным местом прогулок. А в начале XXI века, после того, как были вырублены практически все деревья, как на набережной, так и на обоих замковых холмах и улицах под ними, эти места и вовсе обезлюдили. Сейчас отдыхающих на набережной можно увидеть лишь в районе корчмы – бывшего речного вокзала.

Отсутствие гродненцев в некогда излюбленном уголке города – не самая большая беда. Вырисовывается проблема гораздо серьезнее. **Склоны холмов Старого и Нового замков, некогда укрепленные корнями кустарников и деревьев сегодня находятся в угрожающем состоянии. Особенно тревожит вид холма Нового замка. В результате частых и сильных ливневых дождей этого года правее подпорной стены формируется огромный оползень. Для предотвращения подобной драмы, которая разыгралась в середине 1920-х годов прошлого столетия, необходимо принимать безотлагательные меры по укреплению склонов обоих холмов.** Для этого можно использовать уже проверенные временем технологии. Иначе мы можем вновь лишиться значительной части Нового замка, а вместе с ней и Областной библиотеки.




Замковая гора. Начало XX в.



Новый замок. Начало XX в.



Госпитальный переулок в 20-е годы носил название "Подзамче."



Работы по укреплению горы Старого замка. Вторая половина 1920-х гг.



Замковая гора после одного из обвалов 1920-х гг.



Ремонт склона горы Старого замка. Вторая половина 1920-х  гг.



Ремонт склона горы Старого замка. Вторая половина 1920-х гг.



Ремонт склона горы Старого замка. Вторая половина 1920-х гг.



Набережная Немана. 1958 г.



Улица Старозамковая. 1950-е гг.



Набережная Немана в воскресный день. 1969 г.



Гора Нового замка. 1960-е гг.





Формирующиеся оползни горы Нового замка. 17 августа 2012 г.

*Примечания*

[1] Национальный исторический архив Беларуси в г. Гродно (далее НИАБ). Ф. 8, оп. 1, д. 1374, л. 2.

[2] Там же. Л. 2, 2 об.

[3] НИАБ. Ф. 8, оп. 1, д. 1374, л. 4.

[4] Nowy dziennik Kresowy. 1926. 9 maja.

[5] Ibidem.

[6] Nowy dziennik Kresowy. 1926. 5 lipca.

[7] Ibidem.

[8] Nowy dziennik Kresowy. 1927. 19 kwietnia.

[9] Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej. 1928. 12 lutego.

[10] Ю. Ядковский. Режим доступа: http://www.grodno.by/grodno/history/biblio/jozef_jodkowski.html. Дата доступа 2012.08.14.

[11] Государственный архив Гродненской области. Ф. 372, оп. 1, д. 11, л. 22-25.

[12] Там же. Ф. 484, оп. 1, д. 327, л. 304-310.

# Старонкі гісторыі горада

## Горадня 1916 г. на старонках Дзённіка ротмістра Курта Кламрота

У красавіку 1916 г. у для службы ў гарадской адміністрацыі акупаванай нямецкім войскам Горадні прыбыў ротмістр Курт Кламрот. Да канцы кастрычніка 1916 г. гэты ўраджэнец горада Хальберштадта ў Саксоніі, фактычна, быў першым памочнікам обэр-бургамістра Вайсэнборна. Ён непасрэдна адказваў за нарыхтоўку і размеркаванне прадуктаў харчавання і сыравіны і павінен быў вырашаць задачу як неабходных паставак у Нямеччыну, так і харчовага забеспячэння гараджанаў.

Увесь гэты час ён рабіў запісы ў сваім Дзённіку, які прызначаўся для ягонай сям'і. Месцазнаходжанне арыгінальнага рукапіснага тэксту невядомае. Але, дзякуючы намаганням гісторыка Фелікса Акермана ў рукі даследчыкаў трапіла машынапісная копія Дзённіка. Гэты ўнікальны гістарычны дакумент дазваляе ўбачыць пэўныя рэгіянальныя аспекты палітыкі ў г.зв "Обэр Осце", што з'яўляўся пэўным мілітарна-палітычным утварэннем на чале якога, фактычна, стаяў фельдмаршал Людэндорф.

У томе 18 "Гістарычнага Альманаха" (2012) быў апублікаваны артыкул нямецкага гісторыка Маціаса Баціса "Обэр Ост і нямецкая акупацыя Гародні ў Першую сусветную вайну паводле Дзённіка Курта Кламрота" (пераклад Раісы Крывальцэвіч). Працягваючы гэтую тэму, прапаную чытачу нашага зборніка пазнаёміцца з гарадзенскімі старонкамі Дзённіка Курта Кламрота, арыгінальная назва якога *Meine Erlebnisse im Weltkriege. Nach meinem Kriegstagebuche fuer meine Kinder niedergeschrieben*.

Але напачатку неабходна выказаць некаторыя метадалагічныя заўвагі адносна спецыфікі гэтага гістарычнага дакумента.

Зразумела, што ацэнка падзеяў у Дзённіку мае суб'ектыўны характар. Вызначальным з'яўляецца ўласная пазіцыя і крытэры аўтара. Адпаведна, Дзённік і асабліва старонкі, прысвечаныя

гарадзенскаму перыяду службы Курта Кламрота, патрабуюць крытычнага стаўлення.

Пры ўсім гэтым Дзённік дае каштоўную інфармацыю пра функцыянаванне нямецкага вайсковага кіраўніцтва *Обэр Ост* у адным з яго гарадоў. Цікава, што нямецкае кіраванне тут выглядае не як комплексная сістэма адміністрацыйнай улады, а як яе канкрэтная рэалізацыя на практыцы.

Курт Кламрот як найважнейшы памочнік обэр-бургамістра Горадні ўдзельнічаў у стварэнні гэтай адміністрацыі. Ён ведаў адносіны на месцы з уласных назіранняў, а дзякуючы шэфу быў добра інфармаваны і пра стасункі з вышэйшымі нямецкімі ўладамі. Ён знаёміўся з афіцыйнымі распараджэннямі, але таксама бачыў, як яны ўспрымаліся мясцовымі жыхарамі. Кламрот штодзённа кантактаваў з імі ў службовым кабінеце або на пасяджэннях Гарадской рады, падчас якіх уплывовым гараджанам даручалася выкананне розных адміністрацыйных мерапрыемстваў; таксама на вячэрах у заможных гараджанаў, дзе заходзіла гаворка пра вайну; на прагулках па Горадні, падчас якіх ён фатаграфаваў прахожых; пры пакаранні асобаў, што парушылі загады альбо пры чытанні скаргаў людзей на голад і здзекі з боку акупацыйных уладаў.

Усё гэта старанна дакументавалася Кламротам і занатоўвалася ў Дзённіку, упарадкаваным тэматычна і храналагічна ад моманту прыезду ў Варшаву ў сярэдзіне жніўня 1915 г. і да ад’езду з Горадні ў кастрычніку 1916 г. Гарадзенскія фрагменты Дзённіка маюць наступныя падзагалоўкі: *У Горадні*; *Нямецкая адміністрацыя Горадні*; *Нямецкае кіраванне Горадняй*; *Праца гарадзенскай гарадской адміністрацыі*; *Мой аддзел у гарадскім кіраўніцтве Горадні*; *Асаблівыя падзеі майго жыцця ў Горадні*; *Ганс Вайсэнборн*. Да Дзённіка прыкладаліся фотаздымкі і іншы дакументальны матэрыял, у прыватнасці грошы і ўсялякія друкаваныя выданні з *Обэр Ост*.

У Горадні Кламрот пісаў Дзённік ад рукі. Яшчэ падчас вайны ён зрабіў чатыры машынапісныя копіі Дзённіка, па адной для кожнага са сваіх дзяцей. Кламрот ужо да вайны быў сямейным архіварыусам, і гістарычна важны ваенны перыяд ён хацеў пакінуць у сямейнай хроніцы. Гэта павінна было выглядаць па магчымасці наглядна, грунтоўна і займальна. Нават знешняе ўражанне ад надрукаванага Дзённіка перадае тую стараннасць і педантычнасць, з якой ён ствараўся.

У Дзённіку можна знайсці партрэты калегаў, а таксама мясцовых жыхароў, якія, нягледзячы на дамінуючы нацыяналістычны і антысеміцкі падыход, часта надзіва адрозныя. Гэта яскрава праявілася ў яго стаўленні да мясцовага габрэйскага насельніцтва. У прыватнасці, Кламрот пісаў, што сумленне большасці ўсходніх габрэяў, з якімі ён пазнаёміўся, "бруднае". Пры гэтым Кламрот спасылаўся на "мярзотныя спосабы вядзення справы", бо габрэйскія гандляры лічаць "прадпрымальніцкай спрытнасцю і камерцыйнай знаходлівасцю тое, што  для нас – подлае ашуканства".

Але зусім іншы вобраз габрэяў прысутнічаў у яго разважаннях пра асаблівасці іх сямейнага жыцця. Кламрот пісаў пра высокамаральны лад жыцця габрэйскіх жанчын і дзяўчат, пры выдатна адукаваных габрэйскіх жанчын, сярод іх спявачку Рахісу Крынскую, якая "ў чароўнай манеры выконвала пераважна сумныя рускія песні". У Дзённіку згадваліся "выхаванне і парадак" у габрэйскіх школах. Таксама ён вельмі станоўча ацэньваў габрэйскую дабрачыннасць. Дзве старонкі Дзённіка Кламрот прысвяціў апісанню мовы ідыш і габрэйскай паэзіі, якая "пераважна меланхалічная і сумная, выказвае трывогі габрэйскага народа".

Адносіны Кламрота да палякаў, другой па колькасці групы насельніцтва ў Горадні, не былі такімі супярэчлівымі. Гэта адчувальна ўжо пры апісанні тых палякаў, з якімі Кламрот сустракаўся ў Гарадской радзе. Высновы, якія Кламрот рабіў з гэтых сустрэчаў, добра перадаюць тэндэнцыі свайго часу. Гэта, напрыклад, сцвярджэнне, што "габрэй" успрымае некалькі ўдараў бізуном у якасці пакарання як "выключна заслужаныя;" альбо што "адсутнасць энергічнасці і легкадумнасць – загана, якая ляжыць глыбока ў польскім характары, магчыма, яна абвастрылася праз чужое панаванне і наўрад ці калі-небудзь будзе пераадоленая".

Відавочна, што Кламрот імкнуўся як мага дакладна апісаць сваю дзейнасць і жыццё, амаль не распавядаючы пра ўласны эмацыйны ўнутраны свет. Пра неспакой, страхі альбо сумненні няма і размовы. Вядучай тэмай і галоўным сродкам самарэалізацыі і самаідэнтыфікацыі аўтара з'яўляецца праца. У Дзённіку яна паказаная шматграннай, напоўненай амаль што пакутамі Сізіфа: "Праца ўзвышалася як гара. Як толькі я хацеў трохі ўзняцца ўверх, гара таксама ўздымалася". Але былі і прыемныя моманты: "Праца пачала прыносіць радасць". Праца таксама была абавязкам, які можна было не любіць, але трэба было сумленна выконваць. Яна ж трактавалася як нямецкі ўнёсак у развіццё краю.

Працоўная этыка Курта Кламрота цалкам адпавядала ягонаму пратэстанцкаму і прускаму паходжанню, а таксама пазіцыі нямецкага вайсковага кіраўніцтва ў *Обэр Ост*. У гэтай пазіцыі тагачасныя ўяўленні пра спецыфічную нямецкую культурную місію зрасталіся з вільгельмаўскім мілітарызмам. Яны ўзаконьвалі і баранілі нямецкія прэтэнзіі на панаванне на Усходзе. Паводле гэтых уяўленняў нямецкая праца стварала культуру, а нямецкая зброя бараніла дасягнутае.

Для шырокіх колаў нямецкай эліты ў маладой імперыі, якая імкнулася да развіцця, паняцці плуг, меч і пяро ў сусветнай вайне ядналіся супраць "легкадумнай і павярхоўнай" заходняй цывілізацыі і "жахлівага варварства Усходу". Нямецкія мары пра сусветную ролю і каланіяльную ўладу накіраваліся на Усход, які ўспрымаўся месцам, дзе вырашалася будучыня Нямеччыны. Вырашальным фактарам ставілася "праца".

Цікава, што ў Дзённіку правамернасць дзеянняў нямецкай гарадской адміністрацыі і вышэйшага вайсковага камандавання ніколі не выклікае сумненняў у аўтара. Але ж ён быў разумным чалавекам, і такія думкі не маглі не наведваць яго. Тым больш, што з пачаткам яго службы перыяд нямецкіх поспехаў на Усходнім фронце мінуў, і паражэнне Расеі не было відавочным. У лісце з Горадні да сына ад 4 жніўня 1916 г. ён пісаў: "Гэта дурнота – што-небудзь рабіць. Часта здаецца, што ўсё бессэнсоўна. Але ж трэба выконваць свой доўг".

Напрошваецца пытанне, што хаваў ад чытача Кламрот? Дзякуючы багаццю і шматграннасці інфармацыі, якую ўтрымлівае тэкст і дадаткі, узнікае ўражанне цалкам поўнага і закончанага апісання жыцця ў Горадні. Але гэта ілюзія. Ні ў якай іншай адміністрацыйнай акрузе *Обэр Ост* не было да сакавіка 1917 г. такой вялікай колькасці крымінальных і грамадзянскіх працэсаў[1]. Наогул, для Гародні існавала асобная падсуднасць. Але ні пра працэсы, ні пра судовыя спрэчкі, не кажучы ўжо пра пакаранні смерцю ў Дзённіку гаворкі, практычна, няма.

Пра прызначэнне ў аддзел харчавання і адказнасць за размеркаванне прадуктаў, ён згадваў двума сказамі: "Тады сабраны ўраджай, сена, авёс, зерне, бульба былі канфіскаваныя і размяркоўваліся афіцэрамі, якія займаліся гаспадаркай. Любы гандаль гэтымі таварамі забараняўся і караўся". Пра апісаны ў іншых крыніцах гвалт, якім звычайна суправаджаліся рэквізіцыі, мы не знаходзім у Дзённіку ані слова.

Кламрот паведамляў, што яму былі даручаныя як асаблівая сфера дзейнасці нарыхтоўка і размеркаванне дроў, а таксама кіраванне лясным аддзелам. Пра тое, што загатоўка дроў была звязаная з цяжкай фізічнай працай і мабілізацыяй мужчынаў у працоўныя батальёны, дзе яны не атрымлівалі ні дастатковай аплаты, ні харчавання, і што гэта абарочвалася ўцёкамі ў лес і далучэннем да "бандаў", Дзённік таксама маўчыць.

Ужо ўводныя словы Кламрота кажуць пра межы інфармацыйнасці Дзённіка: "Маё перажытае ў сусветнай вайне. Запісанае паводле майго ваеннага дзённіка для маіх дзяцей. Ротмістр запасу 7 кірасірскага палка". Праблема суб'ектыўнасці крыніцы палягае ў матывах яго запісаў. Кламрот пісаў для нашчадкаў, для ўласных дзяцей, пісаў як бацька і сямейны архіварыус. Нягледзячы на ўсю дэманстратыўную любоў Кламрота да праўды, было б няправільна лічыць, што аўтапартрэт аўтара цалкам ідэнтычны яго асобе, а адлюстраванне нямецкай адміністрацыйнай дзейнасці поўнасцю супадае з рэчаіснасцю.

Дзённік не можа быць больш падобным на рэчаіснасць, чым фотаздымак, які паказвае пэўны эпізод у пэўным ракурсе. У залежнасці ад выбару ракурсу адна і тая ж падзея можа выглядаць цалкам па-рознаму. Але ў гэтым ракурсе адчуваецца пазіцыя аўтара, якая дазваляе ставіць у цэнтр даследавання менавіта яго. З гэтага пункту гледжання Дзённік мае вялікую каштоўнасць як крыніца па гісторыі менталітэту ўсходняй каланізацыі ў Першую сусветную вайну, як голас прускага ротмістра, які ведаў імперскую ўсходнюю палітыку не толькі з мемарандумаў, але і з уласнага досведу, і які пасля яе паразы не адмежаваўся ад яе.

Дзённік сведчыць, што Кламрот прызнае сябе прыхільнікам нямецкай палітыкі на Усходзе або прынамсі нямецкай культурнай місіі. Яго голас – гэта голас той эпохі, калі многія немцы ўспрымалі сябе як народ паэтаў, мысляроў і салдатаў і хацелі, каб такімі іх успрымаў свет. Дзённік паказвае, як успрымаліся і транслiраваліся нямецкія нацыяналістычныя і імперыялістычныя ідэі, а таксама як гэтыя ідэі і стэрэатыпы ўплывалі на дзеянні і погляды дзяржаўнага чыноўніка ў *Обэр Ост*.

Гэта і ёсць зыходная кропка для разумення прынцыпу дзеяння рэжыму *Обэр Ост* і ягонай ідэалагічнай надбудовы. У выпадку з Кламротам ідэалогія выдатна выканала сваю ролю. Аўтар старанна хаваў ці наогул адмаўляў несправядлівасць нямецкай акупацыйнай

улады, падкрэсліваючы высокую каштоўнасць усяго нямецкага. Гэтым можна патлумачыць, чаму Кламрот не заўважыў (ці не пажадаў заўважыць) розніцы паміж тым, чаго ён спадзяваўся дасягнуць уласнай працай (ці хацеў нас запэўніць, што спадзяецца) і тым, што яго праца азначала ў рэчаіснасці.

Тэкст друкуецца з невялікімі купюрамі, якія пазначаныя шматкроп'ем у квадратных дужках. Купюры не змяняюць сэнсу аўтарскага тэксту. У якасці ілюстрацый да тэксту выкарыстаны фотаздымкі з архіва Курта Кламрота, а таксама з калекцыі Фелікса Варашыльскага.

*Падрыхтоўка да друку і заўвагі Алеся Смаленчука (Горадня), пераклад Раісы Крывальцэвіч (Менск), метадалагічныя заўвагі Маціяса Баціса (Берлін)*

## У Горадні

[…] Цягнік павольна рухаўся над разбураным рускімі чыгуначным мостам праз Нёман, якім раней так ганарыліся гарадзенцы, па збудаваным нашымі чыгуначнікамі драўляным мосце, сапраўдным шэдэўры ваеннай архітэктуры. Прывабна выглядаў горад з яго шматлікімі цэрквамі і кляштарамі ў сонечным бляску, быццам хацеў зрабіць на мяне асаблівае ўражанне. На вакзале мяне чакаў мой новы шэф нямецкі обэр-бургамістр Горадні капітан Вайсэнборн разам з яшчэ адным жыхаром Хальберштадту капітанам Д.Л.Хайнікe, у цывільным жыцці першым юрысконсультам нашай гандлёвай палаты, а цяпер кіраўніком гарадзенскай газеты.

Горадня прывабна раскінулася па абодвух стромых берагах Нёмана, на паўднёвым беразе – прадмесце Занёманскае, на паўночным – старая частка горада. На захадзе горад аточаны цёмным сасновым борам, на ўсходзе – цудоўным букавым гаем і дубравай. Другога такога чыстага горада на Усходзе я не сустракаў за выключэннем Варшавы, якую, вядома, нельга параўнаць з Горадняй. Відаць, тут адыгрываюць ролю добрыя ходнікі, пакрытыя, у супрацьлегласць ходнікам іншых гарадоў, чыстымі цэментнымі плітамі, кожная з якіх нясе на сабе падпісанае рускімі літарамі імя "Гродно".

[…] Наогул вуліцы ў Горадні робяць вельмі прыемнае ўражанне, многія ўпрыгожаныя дрэвамі. Ёсць мілы гарадскі парк. Рынак і плошча перад ратушай маюць дагледжаныя кветнікі. Праз горад з яго ўзгоркамі, у глыбокай даліне, перасечаная многімі высокімі

мастамі, цячэ ў Нёман рачулка Гараднічанка. Даліна гэтай ракі ў яе верхняй частцы выкарыстаная пад утульныя прысады.

Найвялікшую ландшафтную прывабнасць стварае, вядома, цудоўная даліна Нёмана. Чароўны від на даліну і раскінуты па абодвух берагах ракі горад адкрываецца ад старажытнай Каложы. Гэтая збудаваная з дрэва і камню царква з яе цудоўнымі скульптурамі[2] выдатна ўпісваецца зялёнай і шара-рудай фарбамі ў наваколле. Яна знаходзіцца на паўночным беразе Нёмана ў заходняй частцы горада, на ўзгорку, які з двух бакоў абсыпаўся. З усходу ўзгорак абмываецца Гараднічанкай, якая тут уліваецца ў Нёман, а паўднёвы склон яго ўтварае бераг Нёмана. Якраз насупраць, на другім баку Гараднічанкі знаходзіцца вялікі стары замак, у якім цяпер абсталяваны лазарэт. Справа ад яго погляд упіраецца ў старую частку горада, выгляд якой, дзякуючы шматлікім і рознастылёвым вежам, набывае своеасаблівую прыгажосць, а справа ад замка відаць даліну Нёмана.

На паўднёвым беразе ракі прасціраецца прадмесце Занёманскае з беласнежным кляштарам францысканцаў і цёмнай арыгінальнай сінагогай[3]. Сінагога поўнасцю пабудаваная з амаль зачэрненай драўніны і стварае сваім трох'ярусным пірамідальным дахам незвычайнае ўражанне. Яно яшчэ болей узмацняецца, калі ўваходзіш у паўзмрок будынка і бачыш за малітваю старазапаветныя постаці барадатых, апранутых у паласатае малітоўнае адзенне габрэяў.

З гарадзенскіх цэркваў больш за ўсё кідаецца ў вочы Сафійская. Гэта бялюткае збудаванне, верхняя частка адцененая шараватым, з высокай, пакрытай светла-блакітнай фарбай вежай і пяццю меншымі вежамі, якія ўзносяць цёмна-сінія купалы з блішчастымі залатымі зоркамі. Пышна стаіць гэты архітэктурны твор, афарбоўкай сваёй і сілуэтам насупраць неба, што прасціраецца яркім блакітам у сонечных праменях альбо зацягнутае хмарамі. Але наймацнейшае ўражанне ён робіць увечары, калі сонца абдорвае белы сабор чырванаватым адценнем. Насупраць Сафійскага сабору на другім баку рынкавай плошчы знаходзіцца збудаваны езуітамі рымска-каталіцкі прыходскі касцёл, які архітэктурна моцна пераўзыходзіць Сафію. Унутранае ўбранне таксама сведчыць пра вялікае мастацкае пачуццё айцоў-езуітаў.

Акрамя гэтых дзвюх галоўных цэркваў, Горадня мае яшчэ цэлы шэраг цэркваў і кляштараў, такіх як базыльянскі жаночы кляштар, бернардзінскі і брыгіцкі кляштары, рускую Аляксандраўскую царкву з Андрэеўскім крыжам на даху, шэрую, з узнесеным угору шпілем

нямецка-эвангельскую царкву і царкву св. Георгія з яе залатымі цыбулістымі вежамі[4].

Найпрыгажэйшы з публічных будынкаў Горадні – губернатарскі дом – згарэў пры заняцці горада. З іншых збудаванняў для грамадскасці некаторыя былі яшчэ вельмі добрыя, напрыклад, будынак, які займае зараз губернатар Яго Высокасць фон Хэльд. Нядрэнна збудаваныя таксама ратуша і некаторыя школьныя будынкі. Найменш удалай здаецца мне самая новая з гэтых пабудоў, а менавіта ўзведзены ўсяго за некалькі гадоў да вайны "Сялянскі банк".

Жылыя і адміністрацыйныя будынкі большай часткай будаваліся проста, толькі зрэдку вытыркнецца сучаснае фанабэрыстае, што нявыгадна выбіваецца з асяроддзя, як, напрыклад, мадэрновы будынак гатэлю на Рынкавай плошчы, які адразу ж разбурае ўсю яе прыгожую цэласнасць. Мноства вуліцаў, што спускаюцца ўніз і падымаюцца ўгору, надаюць гораду разнастайнасць.

І па гэтых вуліцах цякло цяпер суцэльным патокам стракатае жыццё ўсходняга горада: габрэі ў сваіх кафтанах, беларусы ў кажухах і сялянскіх чаравіках, бабы ў паласатым адзенні, дзіўныя сялянскія вазы і тыповыя рускія дрожкі, а пасярод гэтага – элегантна і модна апранутыя пані і паны.

Як новапрыбыламу нямецкаму афіцэру, мне кінулася ў вочы, што ўсе мясцовыя мужчыны вітаюць нямецкіх афіцэраў. Гэта быў загад Яго Высокасці Калэвэ, які потым доўга раскайваўся, бо, натуральна, што гэтае вітанне было часта супраць волі, але загад быў аддадзены, і яго трэба было выконваць. Гэта стала прычынай незадаволенасці з абодвух бакоў. Яго высокасць Калэвэ шукаў магчымасці адмяніць загад, але, калі я з'язджаў, ён усё яшчэ дзейнічаў.

Заняцце немцамі абышлося для Горадні яшчэ даволі шчасліва. Праўда, чыгуначны вакзал быў дашчэнту знішчаны, а будынак губернатара быў поўнасцю спалены, пра што я ўжо згадваў, гэтак жа як і некаторыя казармы. Прыгожыя масты над Нёманам былі ўзарваныя, і ўсё ж горад панёс не самыя вялікія страты. Пры ўзяцці горада 3 верасня 1915 г. з прадмесця Занеманскага, калі на пантонах адбылося фарсіраванне Нёмана, былі толькі кароткія баі ля бровара Крэткоўскага. Якраз тады агнём з кулямётаў і снарадамі была прычыненая шкода суседнім дамам. Калі ж праз некалькі дзён рускія паспрабавалі зноў узяць Горадню з усходу, адбыліся больш жорсткія баі, падчас якіх былі моцна разбураныя казармы.

Відаць, рускія, пакідаючы Горадню, спадзяваліся вярнуць горад з падыходам новых частак, таму разбурылі мала. Так, хаця ў бровары Крэткоўскага да катлоў і машынаў былі дастаўленыя патроны ўзрыўчаткі, але да запальвання не дайшло. Гэтаксама станкі вялікай цыгарэтнай фабрыкі Шарашэўскага не былі панішчаныя. Упраўляючы распавядаў, што унтэр-афіцэр павінен быў размясціць тут патроны з узрыўчаткай, але, атрымаўшы 400 рублёў “чаевых”, сышоў, задаволены. Але галоўнае для горада было тое, што водаправодная станцыя, як і насосная ўстаноўка, а таксама воданапорная вежа ацалелі. Цяпер на воданапорнай вежы была ўстаноўленая зенітка. Але падставаў для дзеяння ў яе не было.

Насельніцтва Горадні скарацілася на адну трэць ў параўнанні з даваенным станам. Згодна з праведзенымі ў чэрвені 1916 г. падлікамі яно складала 24 460 чалавек, з іх 7 853 мужчыны, 9 749 жанчын і 7 558 дзяцей. Па нацыянальнасці насельніцтва складалася з 31 немца, 21 латыша, 113 літоўцаў, 67 велікаросаў, 465 беларусаў, 570 “іншых рускіх”, 7600 палякаў, 15 583 габрэяў і 1 грэка. Па веравызнанні насельніцтва дзялілася наступным чынам: пратэстантаў – 163, рыма-каталікаў – 7 651, праваслаўных – 1 049, іудзеяў – 15 583, мусульманаў – 15.

## Нямецкае кіраванне Горадняй

Калі варожая тэрыторыя занятая, то напачатку кіраўніцтва ёю пераймаюць вайсковыя ўлады. Яны абслугоўваюць тылавыя камендатуры і абмяжоўваюцца вайсковымі патрэбамі. Неабходна наноў устанавіць спакой і парадак, тылавая частка павінна гарантаваць франтавому войску надзейную сувязь з радзімай. Уласныя ўнутраныя справы самой краіны могуць спачатку разглядацца як другасныя. Толькі калі акупацыйнае войска рушыць далей і пройдзе пэўны час, можна ўдзяліць гэтым справам неабходную ўвагу. Для гэтага неабходна прывезці кваліфікаваны, навучаны на радзіме персанал. […]

На тэрыторыі Обэр Ост нямецкая адміністрацыя мела выключна вайсковы характар. Галоўнакамандуючы Гіндэнбург разам з начальнікам штаба генералам Людэндорфам трымалі ўладу ў сваіх руках. Вялікія военачальнікі праявілі сябе стараннымі і дальнабачнымі адміністрацыйнымі геніямі. Іх надзвычай дакладныя загады былі напісаныя заўсёды ў энергічным, захаплялыным стылі.

Адміністрацыйная акруга Горадня мела пяць раёнаў: Горадня, Плянты, Васілішкі, Радунь, Ліда. Цэнтрам адміністрацыі была Горадня. Шэф адміністрацыі займаў прыкладна такую ж пасаду, як начальнік акружнога кіравання (рэгірунгспрэзідэнт), а яго ўпраўляючыя акружнога кіравання (ландраты) былі начальнікамі раёнаў.

Першае прызначэнне на пасаду кіраўніка адміністрацыі Горадні было няўдалым. Пра спадара, які 1 красавіка 1916 г. быў адпраўлены на радзіму, хадзілі ўсялякія дзіўныя чуткі. Яго лёс падзялілі знятыя з пасады начальнік Гарадзенскай акругі, якому таксама на той час быў падначалены горад, і бургамістр Горадні.

Месца звольненага шэфа адміністрацыі заняў у красавіку 1916 г. галоўны ўрадавы дарадца (обэррэгірунгсрат) капітан запасу Упфэнбах, месца кіраўніка Гарадзенскай акругі атрымаў ротмістр у адстаўцы фон Лірэс, а бургамістрам Горадні, якая з 1 красавіка 1916 г. была выключаная з акругі і ўтварыла самастойны гарадскі раён, быў назначаны капітан доктар права Вайсэнборн.

Пры галоўнай адміністрацыі ў Горадні быў створаны Цэнтральны аддзел, пазней з'явіліся Гаспадарчы аддзел і Аддзел сыравіны і гандлю. Акрамя таго, ёй падпарадкаваліся Акруговы суд і Пракуратура, быў далучаны Аддзел жандармерыі. Кіраўніком Цэнтральнага аддзела быў пастаянны прадстаўнік шэфа суддзя доктар Зыгерт. Ён не быў вайскоўцам і ганарова насіў зялёную уніформу чыноўніка з залатымі маёрскімі пагонамі. Доктар Зыгерт знаходзіўся ў Горадні з самага пачатку нямецкага кіравання, меў вялікі асабісты досвед і спрыт, добра ведаў, як з кім абыходзіцца. Пад яго кіраўніцтвам у Цэнтральным аддзеле працавалі трое чыноўнікаў, мытны інспектар, штабны доктар, штабны ветэрынар, два суддзі, адказныя за пэўны ўчастак працы і адзін стажор у якасці дапаможнага работніка.

Гаспадарчы аддзел узначальваў вядомы кансерватыўны дэпутат рэйхстагу маёр у адстаўцы Вебель, які меў двух памочнікаў. Яму падпарадкоўваліся чатыры гаспадарчыя сектары, якія ахоплівалі ўсю Гарадзенскую адміністрацыйную акругу і клапаціліся пра дзяржаўныя каштоўнасці і маёмасць, што мелася на той час. Усе сельскагаспадарчыя пытанні вырашаліся ў гэтым аддзеле.

Аддзелам сыравіны кіраваў старшы дзяржаўны чыноўнік (рэгірунгсрат) капітан запасу доктар права Фрышмут. З двума памочнікамі капітан Фрышмут займаўся, звычайна, зборам і вывазам прамысловай сыравіны.

Калі Вайсэнборн быў назначаны нямецкім бургамістрам Горадні, то дзеля таго, каб падкрэсліць вайсковы характар гарадской адміністрацыі, ён атрымаў тытул “штатхауптман”. Перад ім стала даволі цяжкая задача, пакінутая папярэднікам. Той быў не здольны выконваць свае функцыі, разумеў сваю пасаду як рэпрэзентатыўную. Ва ўсялякім разе, поўнасцю адпусціў лейцы і перадаў усю адміністрацыйную працу без усялякага кантролю “гарадскому камітэту”.

Калі рускія пакінулі горад, чыноўнікі расейскай адміністрацыі, прыхапіўшы найважнейшыя дакументы і касу, збеглі як ненадзейныя пастухі, што пакінулі статак, як толькі ўварваўся воўк. У гэтым бядотным становішчы ўтварыўся г.зв. “гарадскі камітэт”. Кіраўніком камітэта гарадзенцы выбралі князя Сапегу, які выдатна спраўляўся са сваімі задачамі. Ён паходзіў з славутага польскага шляхецкага роду, вучыўся ў нямецкай гімназіі, потым доўга жыў у Францыі і Англіі, а падчас заняцця Горадні – у адным са сваіх памесцяў недалёка ад горада. І хаця ён не меў папярэдняй падрыхтоўкі ў публічных справах кіравання, але добра ў ім разбіраўся, дзякуючы ўпраўленню сваёй вялікай маёмасцю. Гэта быў мужчына ва ўзросце каля 30 гадоў, высокі і стройны, гладка выбрыты, вельмі прыемнага выгляду, ён рабіў хутчэй уражанне англічаніна, чым паляка. Ён падзяліў камітэт на аддзелы, наладзіў амерыканскую бухгалтэрыю, пазычыў гарадской казне з умовай даўгавога абавязацельства немалую суму.

Папярэднік Вайсэнборна зусім не клапаціўся пра сістэму кіравання. Увесь ягоны адміністрацыйны персанал складаўся з лейтэнанта доктара права Гаснера, які ў цывільным жыцці быў галоўным мытным інспектарам, і двух пісараў. З імі ён апрацоўваў галоўным чынам справы, звязаныя з рэквізіцыямі ды пашпартнай праблемай. Усё астатняе прадпісваў да ўладжвання “гарадскому камітэту”, не надта турбуючыся пра выкананне. Так, напрыклад, я знайшоў наступны дакумент. З бальніцы для прастытутак уцяклі дзве прыгожанькія “лялькі”. Органы тылавой інспекцыі схапілі іх і даставілі ў ратушу ў “гарадскі камітэт”. Яго Высокасць тылавы інспектар Калэвэ наклаў на горад штраф у памеры 20 тыс. марак і загадаў паклапаціцца, каб такое больш не паўтаралася. Папярэднік Вайсэнборна проста падпісаў гэты дакумент гарадскому камітэту “да выканання”, не дапамагаючы яму ні парадай, ні справай і не пытаючыся пра выкананне.

Апраўданнем для спадара можа быць наступнае. Напачатку прытрымліваліся думкі, што Горадня можа быць занятая толькі

часова. Цяпер жа ва ўсіх арганізацыйных мерапрыемствах выразна сыходзілі з таго, што Горадня і тэрыторыя Обэр Ост застаюцца нямецкімі альбо ўвойдуць у доўгія, трывалыя сувязі з Нямеччынай. Паколькі ж у "гарадскім камітэце" не было кваліфікаваных чыноўнікаў, было зразумела, што некаторыя памылкі могуць здарацца, але гэта не былі гучныя справы.

Патрабавалася велізарная энергія і надзвычайны арганізацыйны талент, уласцівыя Вайсэнборну, каб у гэтай неразбярысе за кароткі час навесці парадак. Задача ўскладнялася яшчэ і тым, што не было наладжанае належным чынам вядзенне дакументаў і значная частка інструкцыяў і агульных распараджэнняў зусім адсутнічала ў памяшканні гарадской адміністрацыі, таму што напачатку яны датычылі адміністрацыі раней існаваўшага раёну.

Такім чынам, Вайсэнборн вельмі залежаў ад інфармацыі, што паступала ад памочніка яго папярэдніка лейтэнанта Гаснэра. Калі я прыбыў 26 красавіка 1916 г., ён ужо стварыў невялікае бюро, у якое камандзіраваў кадры з ваенна-будаўнічага батальёна, перш за ўсё вельмі стараннага банкаўскага работніка па прозвішчы Тэц у якасці касіра і неабходнага для кіравання бюро чалавека па прозвішчы Мантэ, а таксама некалькіх пісараў. З іх дапамогай ён навёў парадак у дакументацыі і атрымаў уяўленне пра сітуацыю. Яго першым клопатам стала ўрэгуляванне да гэтай пары незразумелага становішча "гарадскога камітэта", якому ён надаў назву "гарадская рада" згодна з яго функцыямі ў адносінах да нямецкай гарадской адміністрацыі.

З гэтай мэтай ён выдаў спецыяльнае распараджэнне для гарадской рады, асноўнае назначэнне якога вызначаецца параграфам 1: "Агульнае адказнае адміністрацыйнае кіраванне Горадняй знаходзіцца выключна ў руках нямецкага обэр-бургамістра. Ён адзіны прадстаўляе горад ў яго ўнутраным кіраванні і ў знешніх зносінах, гэтак жа як і не двухсэнсоўна перакладае асобныя паўнамоцтвы на іншыя органы. Такімі органамі з'яўляюцца, з аднаго боку, падпарадкаваныя яму нямецкія службовыя асобы, акрамя таго, Гарадская рада з яе пададдзеламі, секцыямі, гэтаксама як і службоўцы, назначаныя са згоды нямецкага обэр-бургамістра". Такім чынам, Вайсэнборн адным узмахам зноў моцна ўхапіў лейцы ў свае рукі, вырашаючы, наколькі адпусціць, наколькі пакарыстацца сваім правам у перадачы адміністрацыйных паўнамоцтваў названым органам.

Гарадская рада складалася з 6 секцыяў. Секцыя 1 мела справу з агульным кіраваннем і фінансамі, секцыя 2 – з гарадской

гаспадаркай, секцыя 3 – з забеспячэннем прадуктамі харчавання, секцыя 4 – з санітарнай справай, секцыя 5 – з дабрачыннасцю, секцыя 6 – са школьнай адукацыяй. Ні адна з шасці секцыяў не ўваходзіла ў круг дзейнасці ні обэр-бургамістра, ні каго-небудзь з нямецкіх службоўцаў. На пасяджэннях Гарадской рады (усяго 17 чалавек), што адбываліся раз на тыдзень, рашэнні не прымаліся. Пры гэтым старшынстваваў обэр-бургамістр, сябры адміністрацыі прымалі ўдзел. Паседжанні асобных секцыяў вёў адпаведны сябра адміністрацыі. Тут прымаліся рашэнні. Сябра адміністрацыі меў права апеляваць да обэр-бургамістра супраць прынятага рашэння. Тое ж самае магло адбывацца з мэтай абароны нацыянальнай ці канфесійнай меншасці двумя яе прадстаўнікамі.

Хаця Вайсэнборн адразу ж запатрабаваў многіх сяброў адміністрацыі, але доўгі час я заставаўся яго адзіным вышэйшым службоўцам, акрамя памочніка лейтэнанта Гаснера. Апошні быў больш заняты справамі папярэдняга перыяду, таму напачатку Вайсэнборн дзяліў са мной працу ва ўсіх аддзелах. Ён пераняў секцыі 1, 2, 4, а мне перадаў 3, 5, 6. Гэтыя першыя тыдні былі для мяне страшэнна цяжкімі. Я зусім адвык ад працяглай канцылярскай працы. Адміністрацыйная руціна была для мяне чужая, да таго ж трапіў у незвычайныя ўмовы, не разумеў мэты дзейнасці. Увесь дзень паступалі пісьмовыя просьбы ад грамадзянаў і бесперапынна прыходзілі людзі, якія з усходняй гаварлівасцю імкнуліся выказаць свае жаданні. Калі іх выкідалі за адны дзверы, яны ўваходзілі ў другія.

Хаця Вайсэнборн самым ласкавым чынам прасіў пытацца ў яго пра ўсе незразумеласці, але сам ён увесь дзень быў настолькі заняты, што я не мог падысці да яго. Тады з вечара ў вечар, паеўшы, ішлі мы з ім зноў у ратушу і разам дараблялі справы, якія я адклаў удзень. Часта мы заседжваліся да позняй ночы. Праца ўзвышалася як гара. Як толькі я хацеў трохі ўзняцца ўверх, гара таксама ўздымалася. Вельмі абцяжарвала і тое, што многія перамовы маглі весціся толькі з дапамогай перакладчыка. Праз некалькі тыдняў я быў блізкі да адчаю. Я патлумачыў Вайсэнборну, што ён можа быць расчараваны ва мне, я не спраўляюся з працай, і папрасіў яго адаслаць мяне назад. Ён высмеяў мяне. Увечары мы не пайшлі, як заўсёды, у ратушу, а ён прагуляўся са мной, умацаваўшы маю мужнасць.

Сапраўды, з гэтай пары пайшло нашмат лепш, я ўцягнуўся, і праца пачала прыносіць мне радасць. Да таго ж, нарэшце, з’явіліся новыя сябры адміністрацыі. Першым з адказных кадравых работнікаў

адміністрацыі Обэр Ост быў прысланы ландрат (начальнік акруговага ўпраўлення) фон Брокхузэн, стары бургамістр у адстаўцы з Рэйнскай зямлі. Ён вызваліў мяне ад секцыі 5 "Дабрачыннасць" і секцыі 6 "Школьная справа". Апошняя, праўда, не была працаёмкай, бо па дамоўленасці з Вайсэнборнам гэтыя пытанні я адкладаў. На жаль, стары бургамістр не вытрымаў працоўнага напружання. Ён не мог звыкнуцца з гарадзенскімі абставінамі і таму ў хуткім часе быў адпраўлены Вайсэнборнам як непрыдатны. Яго наступнікам стаў рэгірунгсрат Ф. Той мог добра працаваць, але не любіў працы.

У сярэдзіне траўня прыбыў таксама дарадца па справах горадабудаўніцтва Зынінг з Хальберштадту. Зынінг не служыў і быў прызваны як апалчэнец у 27 год. Вайсэнборн запатрабаваў яго адначасова са мной, але сутыкнуўся з пэўнымі цяжкасцямі. Нарэшце, усё ўдалося, і апалчэнец Зынінг зняў сваю ахоўнага колеру ўніформу і адзеў зялёную форму чыноўніка. Яму здавалася вельмі дзіўным, што цяпер не трэба вітаць унтэр-афіцэраў як начальнікаў, наадварот, яны вітаюць яго.

Ён узяў адказнасць за секцыю "Гарадская гаспадарка" і актыўна заняўся станам водаправоднай станцыі. Яна не была разбураная, насосная станцыя і воданапорная вежа дзейнічалі. Але пра бездакорнае водазабеспячэнне горада не было і гаворкі. Ваду бралі з Нёмана і трошкі паляпшалі з дапамогай цалкам нездавальняючых пясочных фільтраў. З прычыны таго, што вада была шкодная для здароўя, яе спрабавалі па меншай меры абеззаражваць праз дабаўленне хлорнай вапны. Зразумела, гэта была вымушаная мера, і Зынінг адразу ўзяўся разбіраць і перарабляць фільтравальныя ўстаноўкі. Адначасова ён шукаў магчымасці знайсці крынічную ваду і меў у сваіх пошуках нечаканае шчасце. У многіх месцах ён знайшоў не толькі багатыя крыніцы пітной вады, але і прабурыў жалезістую крыніцу, якая пад ціскам узнімалася над зямлёю на вышыню да чатырох метраў. Гэтая крыніца давала выдатную, карысную для здароўя сталовую ваду. Я запусціў яе потым у гандаль як "Гарадзенскую гарадскую мінеральную ваду", што прынесла гораду добры прыбытак.

Замест рэгірунгсрата, які хутка быў адклікaны айчыннымі ўладамі, секцыю 5 "Дабрачыннасць" узначаліў обэр-лейтэнант запасу Ян, гарадскі радца (*штатрат*) з Дэсау. Ён аказаўся старанным і добрым работнікам.

У Школьны аддзел шэфам быў прысланы кваліфікаваны школьны інспектар, так што занядбаны мною аддзел трапіў

у надзейныя рукі. Калі для гарадскога раёна ўтварылася асаблівая юрысдыкцыя, пасада гарадскога міравога суддзі была дaвераная адвакату з Кёнігсберга апалчэнцу Госэ. На гэтым будаўніцтва гарадскога адміністрацыйнага корпуса было завершана. Обэр-бургамістр і кіраўнікі аддзелаў маглі ўзяцца за больш інтэнсіўнае выкананне сваіх задачаў.

## Праца Гарадзенскай гарадской адміністрацыі

Вайсэнборн любіў яснасць у адносінах. Каб яе дабіцца, ён не цураўся ніякай працы, ніякай барацьбы і вострых канфліктаў з уладамі. Было зусім натуральна, што падчас кіравання яго папярэдніка кола паўнамоцтваў ураду і гарадской адміністрацыі згубіла свае дакладныя абрысы. Бургамістр выпусціў з рук стырно ўлады. Вайсковая ўлада не магла згадзіцца з такім ходам справы і ўмяшалася са свайго боку. Яго высокасць губернатар Горадні фон Хэльд быў рэзкім чалавекам. Яшчэ больш жорсткім быў начальнік тылавой інспекцыі яго высокасць фон Калэвэ.

Прадстаўнік шэфа адміністрацыі ўчастковы суддзя доктар Зыгерт (галоўны ўрадавы дарадца *(обэррэгірунгсрат)* Умпфэнбах у той час яшчэ не заступіў на сваю пасаду) настойліва раіў не кранаць пытанне кампетэнцыі. Ён быў пэўны,што Вайсэнборну лепш моўчкі перацярпець умяшальніцтва ў паўнамоцтвы.

Але Вайсэнборн ухапіўся моцнымі рукамі, вёў перамовы з урадам і дасягнуў таго, чаго хацеў. Інспектар тылу таксама згадзіўся з прапанаваным размежаваннем паўнамоцтваў. Відаць, спадары заўважылі, што новы обэр-бургамістр злеплены не з такога, як яго папярэднік, цеста. Тады ж было выдзелена 10 жандараў са складу батальёна жандармерыі ў Горадні і перададзена ў падпарадкаванне обэр-бургамістру ў якасці “гарадскіх паліцыянтаў“.

Другі бой разыграўся ўнутры адміністрацыі Горадні. Праблемай стала вызначэнне межаў Гарадзенскага гарадскога раёна. Кіраўнік раёна (крайсхаўптман – *перакл.*) фон Лірэс прытрымліваўся пункту гледжання, што Горадня павінна ўключаць толькі гарадскую тэрыторыю з найбліжэйшым атачэннем. Падобна было, што шэф гарадской адміністрацыі згаджаўся з яго думкай. Але Вайсэнборн прадставіў перспектыўны план разбудовы Горадні (які намаляваў

Зынінг) з падрабязнай распрацоўкай магчымасцяў развіцця горада (квартал з віламі, індустрыяльны квартал, рабочыя прадмесці), распавёў пра адмоўныя наступствы моцнага абмежавання межаў горада і г.д. і дасягнуў таго, што яго прапановы былі прынятыя амаль цалкам і атрымалі згоду як шэфа гарадзенскай адміністрацыі, так і галоўнакамандуючага Обэр Ост. Гэтае вызначэнне межаў гарадскога раёну дадало Горадні вёскі Пяраселку і Солы, шмат хутароў, маёнтак Станіслава князёў Друцкіх-Любецкіх і лясы каля Пышкаў і Сакрэту.

Пасля гэтага Вайсэнборн накіраваў асноўную ўвагу на паляпшэнне фінансавага становішча горада, якое ў красавіку 1916 г. было надзвычай бязрадасным. Тут, з аднаго боку, патрабавалася мэтанакіраванае абмежаванне новых выдаткаў, а з другога – павялічэнне даходаў, і, нарэшце, больш зразумелая арганізацыя касавай і бухгалтарскай справы, асабліва датычна секцыі харчавання і далучанай да яе Гандлёвай камісіі.

Каб пазбегнуць новых непрадугледжаных выдаткаў, Вайсэнборн накіраваў галоўнакамандуючаму Обэр Ост просьбу адрэгуляваць пытанне размежавання сфераў дзейнасці цывільнай адміністрацыяй горада і мілітарнымі ўладамі. З боку ваенных уладаў раптам прыходзілі нейкія патрабаванні, напрыклад, пра пастаўкі драўніны, якія змянялі ўвесь гаспадарчы план. Обэр Ост задаволіў просьбу, і цяпер можна было і ў гэтай галіне планаваць выдаткі.

Асваенне новых крыніцаў паступленняў Вайсэнборн усклаў галоўным чынам на мяне. Да выканання гэтага задання я яшчэ вярнуся. Пераўтварэнне бухгалтарскага ўліку было ўскладзена на мяне і касіра Тыца. Хаця амерыканская бухгалтэрыя князя Сапегі вялася дакладна і правільна, але яна не давала яснай карціны для гаспадарчага плана. Па прычыне таго, што ад часу заняцця горада патрабавалася справаздача пра ўсе выдаткі гарадской адміністрацыі, мы з перакладчыкам селі і расклалі ўсю бухгалтэрыю, якая вялася па-польску ад 3 верасня 1915 г. і ўпарадкавалі яе ў адну главу, атрымаўшы адпаведную нямецкім паняццям фінансавую справаздачу.

У далейшым для касы гарадской адміністрацыі быў уведзены неабходны ў гэтай справе камеральны бухгалтарскі ўлік. Для Харчовай секцыі і Гандлёвай камісіі я загадаў, з прычыны патрэбы ў спісанні з балансу, агаворванні стратаў і г.д., весці рэгулярную гандлёвую бухгалтэрыю. Неабходны абаротны капітал быў унесены

ў гарадскую цэнтральную касу, і ў залежнасці ад штомесячнага выніковага балансу я накіроўваў пэўныя сумы ў якасці даходу ў гарадскую цэнтральную касу. Так я прыйшоў да стварэння свайго ўласнага аддзела.




Старонка Дзённіка з фотаздымкам сяброў нямецкага ўпраўлення падчас абеду. Здымак К.Кламрота.




Кіраўнікі нямецкага ўпраўлення перад будынкам магістрата. 1916 г. З архіва К.Кламрота.

## Мой аддзел у гарадской адміністрацыі Горадні

Вайсэнборн даручыў мне асаблівую сферу працы, у якую ўваходзілі загатоўка і размеркаванне прадуктаў, бойня, загатоўка і размеркаванне драўніны, аддзел лясной гаспадаркі, гандаль і індустрыя. Пасля быў дададзены яшчэ гарадскі нарыхтоўчы пункт сыравіны. Да 1 красавіка 1916 г. нарыхтоўкай і размеркаваннем прадуктаў і сыравіны кіравала без умяшальніцтва папярэдніка Вайсэнборна секцыя 3 “гарадскога камітэта”.

Пры заняцці Горадні “гарадскому камітэту” былі перададзеныя пэўныя запасы са здабытых рускіх складоў. Потым сабраны ўраджай, а таксама сена, авёс, зерне, бульба былі рэквізаваныя і размяркоўваліся афіцэрамі гаспадарчых частак. Усялякі прыватны гандаль гэтымі прадуктамі быў забаронены і караўся. Кіраўнікі размяркоўвалі штотыднёва ў сваіх раёнах

зерне і бульбу па колькасці жыхароў. Нормы былі ўстаноўленыя галоўнакамандуючым Обэр Ост.

У Горадні размеркаваннем займаўся “гарадскі камітэт”. Секцыя 3 паспрабавала арганізаваць раздачу праз увядзенне хлебных і прадуктовых картак, але з-за недахопу вопыту і арганізацыйнага таленту, без усялякай падтрымкі з боку нямецкай адміністрацыі нічога добрага з гэтага не атрымалася. Секцыя бачыла сваю задачу ў тым, каб выкарыстаць манаполію, што была ў яе руках, для здабыцця грошай для гарадской адміністрацыі, што, вядома, было неабходна, але яна зусім не кантралявала гандляроў і булачнікаў, якім нават не трэба было здаваць адрэзаныя часткі прадуктовых і хлебных картак. Здараліся неверагодныя рэчы. Квітнела спекуляцыя. Багатыя спажывалі за большыя кошты болей, чым належала, а бедныя за свае карткі не маглі атрымаць нічога.

Прадуктовыя карткі, уведзеныя гарадскім камітэтам, утрымлівалі наступны нямецкі тэкст:

*Гарадскі камітэт Горадні*

*Картка-купон*

*Для атрымання прадуктовых тавараў у магазінах, вызначаных гарадскім камітэтам.*

*Перад продажам дадзенага прадуктовага тавару павінна быць вывешаная аб’ява, па якой цане, у якой колькасці і на працягу якога часу мае адбыцца продаж па купонах. У магазіне пры пакупцы можа быць абрэзаны толькі купон (з літарамі), пра які паведамляецца праз аб’яву. Кожная асоба можа валодаць толькі адной купоннай карткай.*

*У выпадку згубы купонная картка не ўзнаўляецца.*

Бухгалтарскі ўлік у секцыі 3 быў горш не прыдумаеш. Хаця з кніг можна было дакладна бачыць, колькі грошай паступіла і колькі было здадзена ў касу гарадской рады, адсутнічала інвентарная кніга і інвентарны кантроль. Я спадзяваўся прыкласці свае намаганні для паляпшэння размеркавання хлеба і бульбы. Пасля таго, як Вайсэнборн згадзіўся з маімі планамі, я склікаў харчовую і дабрачынную секцыі, якімі тады яшчэ кіраваў, на агульнае паседжанне.

Цяпер я хацеў бы спачатку прадставіць сяброў гэтых секцыяў. Гэта перш за ўсё старшыня харчовай секцыі пан Е. фон Класоўскі, польскі землеўладальнік з вытанчанымі манерамі. Вельмі

старанны, разумны, але палахлівы і марудны. Тое, што сёння ён лічыў правільным, назаўтра здавалася яму сумнеўным.

Іншага характару намеснік старшыні секцыі – уладальнік млына габрэй Касоўскі, пранырлівы мярзотнік! Ён быў з багатых габрэяў, увесь час хадзіў добра апрануты, і ягоны апраўлены кароценькай рыжай бародкай твар выглядаў заўсёды бездакорна белым, чым ён выгодна адрозніваўся ад сваіх суродзічаў. Але сумленне яго было ў такой жа ступені брудным, як і ў большасці усходніх габрэяў, з якімі я быў знаёмы. Ён закончыў бясслаўна, адправіўшыся з гарадской камісіі ў турму з-за вялікага махлярства. Вядома, прайшоў пэўны час, перш чым ён быў настрашаны.

Касоўскі заўсёды ведаў выйсце. Заўсёды мог даць параду, і, мушу прызнацца, напачатку ён быў мне вельмі карысны. Сваё вялікае багацце ён нажыў на пастаўках для расійскай ваеннай адміністрацыі (відаць, праз недапастаўкі таксама), дык чаму я не мог меркаваць, што ён не захоча паспрабаваць абдурыць таксама і нямецкую адміністрацыю? Ён меў вадзяны млын у Ласосне і па-сучаснаму абсталяваны новы паравы млын у Горадні з прыгожымі элеватарамі і складскімі памяшканнямі.

Наступны сябра камісіі – стары атупелы габрэй па прозвішчу Ёфэ, які ніколі не браў слова. Асаблівым экспертам па скотабойні ў камісіі быў габрэй Талочка. Увесь мясны гандаль у Горадні быў у габрэйскіх руках. Нарэшце, там быў яшчэ адзін сябра, польскі ксёндз Курыловіч. Ён ні слова не ведаў па-нямецку, таму ўдзельнічаў у абмеркаванні праз іншых сяброў камісіі.

Гэты вельмі разумны ксёндз уваходзіў таксама ў Дабрачынную камісію. Старшынстваваў тут польскі доктар фон Гідрое. Гэта быў цудоўны чалавек,трошкі цырымонны, але надзейны. На жаль, ён настолькі быў заняты ў сваёй прафесіі, што хутка папрасіў выключыць яго са складу камісіі. Пасля гэтага старшынства пераняў фон Крэткоўскі, сапраўдны паляк з чорнымі кучаравымі валасамі і чорнымі як смоль вусамі. Ён меў бровар на Нёмане, пра які я ўжо згадваў. З гэтым разумным чалавекам я ахвотна размаўляў пра польскія справы і раскажу яшчэ пра яго погляды на розныя рэчы.

Габрэямі-сябрамі Дабрачыннай камісіі былі зубны доктар Анцалевіч і карчмар Хозэ. Анцалевіч быў хітрая змяя. Не паспеў я заступіць на пасаду, як ён прыйшоў з візітам у канцылярыю. Ён убачыў маю простую чарніліцу на пісьмовым стале, а побач

імправізаваныя згорнутыя на канцылярскі лад падсцілкі з кардону для асадак і алоўкаў: “Што я бачу? Гэта так абыходзяцца з нашым новым спадаром бургамістрам? Зараз жа пайду і паклапачуся, каб быў прыбор, як належыць”. Я спрабаваў спыніць яго, але дарэмна. Праз паўгадзіны ён вярнуўся з вельмі прыгожым новым пісьмовым прыборам. Я даў яму зразумець, што было б недапушчальным, каб для мяне купляўся такі дарагі пісьмовы прыбор за кошт адміністрацыі. Ён бліснуў  на мяне сваімі маленькімі вочкамі: ”Калі я буду купляць чарніла і прыналежнасці за кошт горада, дзе я буду ставіць такія непатрэбныя рэчы ў сваёй гасцёўні? Лічу за гонар і задавальненне пазычыць пану бургамістру прыбор”.

Тады я пакінуў прыбор, а на наступны дзень купіў просты за кошт горада і адаслаў прынесены назад. Для Анцалевіча было характэрна тое, што на пытанне ён ніколі не даваў яснага адказу, заўсёды адказваў пытаннем. Аднойчы ён даў указанне майму загадчыку склада спецыяльна для свята габрэйскай абшчыны выдаць цукру. Я запытаўся ў яго, ці даваў ён такое ўказанне. Ён адказаў: “Ці магу я рабіць тое, што не ў маёй кампетэнцыі?” На што я: ”Я хацеў бы ведаць, ці казалі Вы Ляйпунскаму, што ён павінен выдаць цукар? Адказвайце: “так” ці “не”. Адказ: “Што я магу зрабіць, калі чалавек няправільна разумее мае словы?” Гэта быў Анцалевіч.

Зусім іншы чалавек быў карчмар Хозэ. Ён таксама быў габрэй, але ціхі, адукаваны чалавек, які меў найшырэйшыя веды па гісторыі Горадні і немалы апавядальніцкі талент. Безумоўна, ён меў сімпатычны характар.

На аб’яднаным паседжанні Харчовай і Дабрачыннай секцыяў я распавядаў пра тое, якую нацэнку збіраюся зрабіць на пастаўкі зерня і бульбы на карысць адміністрацыі, і што я не магу прызнаць справядлівым, калі самыя неабходныя для бедных людзей прадукты павінны з-за гэтага так моцна падаражаць. Таму я меў намер увесці хлебныя карткі для бедных, а да купонных картак, якія ў змененай форме хацеў захаваць (“карткі пакупніка”), дадаць “дадатковыя карткі”, за якія бедныя маглі б  набываць па нізкіх коштах хлеб, бульбу і іншыя прадукты. Але, каб прытрымлівацца разлікаў у асобнай частцы гаспадарчага плана, Дабрачынная камісія павінна была выплаціць розніцу ў цэнах. Харчовая камісія палічыла гэта хаця і няпростай справай, якая прывядзе да дадатковай працы, але неабходнай. Па-іншаму – Дабрачынная камісія. Яе сябры былі пэўнымі, што нічога не палепшыцца, бедныя застануцца цяжарам, бо не будуць атрымліваць

хлеб з булачнай. А Дабрачынная камісія павінна будзе яшчэ і вяртаць Харчовай секцыі выдаткі за хлебныя карткі.

Я чакаў гэтых папрокаў і загаварыў пра кантроль. Выпечку хлеба я хацеў узалежніць спецыяльным дазволам, бо колькасць пераважна маленькіх пякарняў перавышала патрэбу і рабіла немагчымым кантроль. Пры выдачы хлебных картак на кожную хатнюю гаспадарку ў паліцэйскай акрузе яе атрымальнік павінен быў падаць інфармацыю, у якога пекара ён хацеў бы набываць хлеб. На гэтае імя і афармлялася картка. Хто не падасць звестак пра булачную, таму яна будзе ўказаная. Такім чынам, будзе ўстаноўленая кліентура кожнай упаўнаважанай выпякаць хлеб пякарні. Кожнай пякарні адпаведна будзе выдавацца мука. Пякарня павінна быць абавязаная на кожную хлебную картку з яе назвай выдаваць хлеб па ўстаноўленай цане. Перад новым атрыманнем мукі пекары павінны здаваць часткі хлебных картак за мінулы тыдзень, у адпаведнасці з колькасцю якіх ім будзе выдадзеная мука. Каб пекар быў зацікаўлены ў забеспячэнні сваіх кліентаў, пакупнік хлеба павінен мець права пры новай выдачы хлебных картак запатрабаваць змянення пякарні.

Мае прапановы задаволілі Секцыю дабрачыннасці, а ў сяброў Харчовай секцыі выклікалі сумнеў. Задумліва хістаў галавою спадар Касоўскі. Хістанне ўзмацнілася, калі я ўнёс новыя прапановы наконт кантролю вагі зерня і атрыманай з яго колькасці мукі, а таксама пра памер платы за памол. Гэта было натуральна, бо сам ён быў гарадскім млынаром. Ён выказваў усялякія пярэчанні, якія я адкінуў, сказаўшы, што можам абмеркаваць гэтыя пытанні пазней, бо я ўжо дамовіўся з інтэндантцвам пра пастаўкі мукі. Інтэнданцтва мела дастатковыя складскія запасы, а я ўзамен хацеў пастаўляць ёй зерне. (У інтэнданцтве я папярэдне даведаўся пра страты ў вазе пры памоле і пра памеры прыстойнай аплаты млынарскай працы).

Цяпер мая прапанова была прынятая абедзвюма камісіямі і пасля некаторых пачатковых цяжкасцяў добра запрацавала. “Пекары і багатыя сварацца, а бедныя задаволеныя, так што наведзены парадак”, - сказаў ксёндз Курыловіч, і я думаю, меў рацыю.

Выдача бульбы таксама была вялікім клопатам. Заўсёды былі вялікія страты ў вазе. Палякі абвінавачвалі габрэяў, габрэі – палякаў. Тады я прыдумаў выйсце: паставіў у якасці кантралёраў бульбасховішча на грамадскіх пачатках заможных гараджанаў, якія з улікам адпаведных стратаў павінны былі адказваць

сваёю маёмасцю. Я разважаў так: калі хітрыя габрэі знаходзяць сродкі і шляхі забяспечваць свае ўласныя справы праз прыўлашчванне, то, калі гэта будзе каштаваць ім грошай, навучацца кантраляваць бульбяны склад у інтарэсах горада. Спачатку, вядома, яны не ішлі насустрач, але навошта тады моц загаду? “Ну, і што ты тут зробіш?” Урэшце яны прымірыліся з гэтым, і страты бульбы вярнуліся да сваіх натуральных аб’ёмаў.

Калі клопаты па дзяльбе прадуктаў харчавання прынеслі мне напачатку шмат працы, а таксама варожасці, бо насельніцтва не разумела неабходнасці нармавання, а ўспрымала мізэрнае размеркаванне прадуктаў харчавання як хітрыкі пераможцаў, то усё ж паступова я знайшоў прызнанне сярод кемлівых людзей.

Я загадаў саліць рыбу, абсталяваў гароднінасушыльню, каб мы маглі дапамагчы сабе ў цяжкі зімовы час, увёў у прадукты харчавання тое, што яшчэ можна было ўвесці і перш за ўсё сачыў за справядлівым размеркаваннем. Хутка спробы прыгожых полек здабыць для сябе трохі болей цукру сталі рэдкімі, а лісты накшталт таго, які тут прыкладаецца[6], больш ужо не прыходзілі. Да мяне пачалі адчуваць давер.

Толькі з гарадзенскімі гандлярамі мусіў я вытрымаць цяжкую барацьбу. Хутка пасля заняцця Горадні Гарадская рада заснавала Гандлёвую камісію. Кіраўніцтва камісіі складалася з шасці гандляроў, вядома, габрэяў. Узначальвалі Лейб Язерскі, упраўляючы вялікай цыгарэтнай фабрыкай “Шарашэўскі і К”. Мне быў даручаны нагляд за Гандлёвай камісіяй, і хутка я заўважыў, што гэтая інстытуцыя не з’яўляецца карыснай для ўсіх. Гэта была пэўная шайка гандляроў, якія мелі камерцыйныя долі ў Гандлёвай камісіі, і тавары, што ўвозіліся, прадаваліся толькі для іх, потым ішлі на перапродаж прытым без устанаўлення прадажнай цаны. Такім чынам, Гандлёвая камісія пад прыкрыццём агульнакарыснай установы спрыяла ўзбагачэнню некаторых коштам усяе супольнасці.

Спачатку я даследаваў, якім чынам падняць невялікі абарот Гандлёвай камісіі. Высветліўшы, якія тавары могуць быць увезеныя з Германіі, узяўся за справу і змяніў статус камісіі. Падобна як пры праведзеных обэр-бургамістрам Вайсэнборнам зменах у сітуацыі з Гарадской радай, я аддаў усе паўнамоцтвы обэр-бургамістру альбо ім прызначанаму чыноўніку. Тады пачаўся жаласны лямант сярод пайшчыкаў і кіраўніцтва. Кіраўніцтва прыйшло да мяне і склала з сябе паўнамоцтвы, бо яно было “не ў стане пры змененых абставінах бараніць інтарэсы гандляроў”.

Я з шкадаваннем прыняў складанне абавязкаў, прадставіў мною рэкамендаванага стараннага маладога паляка Георга фон Чытарчынскага як упраўляючага, дадаў яшчэ дваіх сяброў Гарадской рады – паляка фон Класоўскага і габрэя Клемпнера ў якасці дарадцаў.

Потым я адкрыў новую эру Гандлёвай камісіі дзякуючы выставе тавараў, якія атрымаў праз Берлінскую гандлёвую палату, і ў збыце якіх былі зацікаўленыя нямецкія фірмы. Многія нямецкія прадпрыемствы мелі вялікія склады тавараў на экспарт, якія не маглі збыць, напрыклад, танныя сцізорыкі, расчоскі, шкляныя пацеркі, абразкі, карты для гульні, кішэнныя люстэркі, танныя ўпрыгожанні і г.д. Нямецкія фірмы былі зацікаўленыя ператварыць свае запасы ў грошы, а гарадзенцы і акруга прагнулі тавараў. Так нечакана развілася камерцыя адносна ўсіх магчымых прадметаў гандлю.

У хуткім часе я паехаў у Кёнігсберг і закупіў там, што было лішняга, прыгоднага для экспарту, і абарот вырас ужо на другі месяц пасля таго, як я перадаў кіраванне Гандлёвай камісіяй, больш чым на паўмільёна марак. Аддаючы ў сярэднім 10% даходу у касу гарадской адміністрацыі, я нічым не рызыкаваў, бо імпарт адбываўся толькі праз пастаянную замову і дастатковую аплату тавараў. Вялікі штомесячны прыбытак яшчэ болей вырас дзякуючы даходам Харчовай секцыі і пазнейшаму ўвядзенню манаполіі на алкагольныя вырабы.

Такім чынам, я ў дастатковай меры адкрыў для горада так пажаданыя Вайсэнборнам новыя крыніцы даходаў, што той мог у сваім дакладзе для Обэр Ост ад 30 чэрвеня 1916 г. паведаміць: “Удалося так арганізаваць паступленне прыбытку, што яго хапае для пакрыцця штодзённых расходаў. Падобна, гэта будзе магчыма і ў будучым, улічваючы санкцыянаваныя шэфам адміністрацыі дадатковыя выплаты падаткаў для Обэр Оста, калі размова пойдзе пра чарговыя немалыя выплаты. Фінансавае становішча горада можна лічыць ад гэтага часу ўпарадкаваным”.

Бухгалтарскі ўлік я арганізаваў вельмі проста і наглядна. Прычым было вельмі дарэчы, што ўдалося аднаго са служачых Гандлёвага дому ў Хальбэрштадце, які быў прызваны ў войска шарагоўцам, адклікаць у Горадню. Бухгалтар Вілі Лодаль добра ведаў мае пажаданні наконт вядзення бухгалтэрыі, быў надзейны і надзвычай падтрымаў мяне. Заўсёды было вялікай радасцю, калі ў першыя дні новага месяца я мог прадставіць Вайсэнборну заканчэнне папярэдняга ростам прыбытку.

Асаблівае задавальненне прыносіла мне выцягванне з насельніцтва золата ў манетах. Трэба было імкнуцца да таго, каб як на радзіме, так і ў тыле дастаўляць золата імперскаму банку для ўмацавання нямецкай валюты. Але залатая крыніца цякла павольна. Тады я паспрабаваў за гандаль асабліва неабходнымі таварамі патрабаваць з удзельнікаў гандлю у якасці аплаты золата.

Да тавараў, якія карысталіся вялікім попытам, адносіліся спіртныя напоі. Обэр Ост усталяваў манаполію на выраб алкаголю, і мне быў перададзены збыт для Горадні і Гарадзенскага раёна. Калі ў першыя тры дні пасля адкрыцця продажу, які ішоў бутэлька за бутэлькай, пабачыў, як пакупнікі збіраюцца перад гандлёвай кропкай, я вырашыў зрабіць продаж гарэлкі залатой крыніцай, зачыніў краму і прымацаваў на яе дзвярах кавалак паперы, на якім можна было прачытаць, што невялікія запасы, якія яшчэ засталіся, будуць рэалізоўвацца толькі ў абмен на залатыя манеты. На наступны дзень пайшоў залаты дождж! Як я быў рады, калі ў хуткім часе мы сабралі першыя 20 000 рублёў грашыма з чыстага золата, якое паслалі імперскаму банку праз адміністрацыйную касу.

Тон размовы з гандлярамі-габрэямі быў для нас, немцаў напачатку непрыемна дзіўны. Я быў уражаны тым, што трэба казаць гэтым людзям, каб не выглядаць у іх вачах ідыётам у справе гандлю, але гэтыя “тонкасці ў абыходжанні” хутка былі засвоеныя. Вайсэнборн быў вельмі здзіўлены, калі аднойчы зайшоў у момант, калі я выпісваў нагайкай “квітанцыю” за паводзіны на спіне габрэйскага гандляра Бэр Бурдэ, які хацеў мяне падмануць.

Метад падаўся главе гарадскога кіравання даволі сумнеўным, але праз некалькі дзён я ўбачыў яго прымяненне адносна аднаго гандляра рыбай, які бессаромна прыгнятаў беднае насельніцтва, нягледзячы на папярэдне выдадзенае распараджэнне. Сябра нашай гарадской рады паляк Крэткоўскі меў рацыю, калі казаў, што габрэй лічыць такое абыходжанне абсалютна справядлівым, і што яно дзейнічае лепей, чым грашовыя штрафы, якія накладаюцца на яго за парушэнне распараджэнняў.

Так і Бэр Бурдэ аднойчы з’явіўся аднойчы ў маім рабочым кабінеце з новымі прапановамі. Гэты чужы нам тып габрэя робіць яго несімпатычным для нас, таму некаторыя асобы ў адміністрацыі лічылі, што габрэйскі гандаль, якому яны не давяралі з самага пачатку, павінен быць спынены. Кіраўнік Гарадзенскага раёну паспрабаваў правесці такі эксперымент, чым

нанёс вялікую шкоду. Пры невялікай шчыльнасці насельніцтва буйны землеўладальнік самотна сядзіць у маёнтку, таксама сярэдні і дробны землеўладальнік у параўнанні з Нямеччынай выглядаюць на вёсцы адзінокімі. Існуюць пераважна малыя і адзінкавыя вялікія гарады. Транспартныя магчымасці абмежаваныя з-за невялікай колькасці чыгуначных шляхоў. Ніякае гандлёвае жыццё не было б тут магчымае, калі б побач з немабільнай часткай насельніцтва не было іншай, больш рухомай, калі б яна не перасоўвалася ад двара да двара, ад горада да вёскі і не забірала ў людзей лішняе, прыносячы тое, у чым яны маюць патрэбу. Большасць габрэйскіх гандляроў перамяшчаліся па краіне як вандроўная універсальная крама, земляроб атрымліваў ад іх усё, што яму неабходна, ім жа ён мог збыць усе свае вырабы. Забарона гэтага гандлю паралізавала б эканамічнае жыццё, бо ўстановы і органы, якія замянілі б габрэя, не маглі быць створаныя ў адзін момант.

Гэта выразна можна было пабачыць на прыкладзе з загатоўкай яек. Я меў задачу даслаць сабраныя ў раёне лішнія яйкі ў Нямеччыну, і ў гэтай справе карыстаўся паслугамі гандляра-габрэя, якому плаціў па 11 пфенігаў за яйка. Хоць гэта была добрая цана ў параўнанні з даваеннымі коштамі, але ж я меў поспех, бо ўжо ў першы тыдзень змог паслаць у Германію 70 000 штук яек. Кіраўнік раёна не згадзіўся з маім спосабам дзеянняў і патлумачыў, што яйкі са свайго раёну будзе пастаўляць мне сам. Насуперак маіх уяўленняў ён выдаў распараджэнне, якое забараняла гандлярам продаж яек і прадпісвала здаваць іх жандарам па 6 капеек за штуку. Няўдача была ашаламляльнай. У першы тыдзень пасля выдання распараджэння мой вываз яек паменшыўся на 6 000 штук.

Задачы Секцыі ваеннай сыравіны, што былі таксама ўскладзеныя на мяне ў красавіку 1916 г., без дапамогі габрэйскага гандлю я б не вырашыў зусім. Толькі дзякуючы яго ўвядзенню ўдалося выцягнуць з краіны такія матэрыялы як скуры, алей, дубільныя рэчывы, металы і г.д.

У канцы траўня 1916 г. харчавацца насельніцтву стала вельмі цяжка. Краіна пацярпела ад праходу войскаў і рэквізіцыяў з боку дзвюх арміяў, акрамя таго, пры адступленні рускія спляжылі ўсё, што маглі спляжыць. Жыхары Горадні маглі ўзяць з вёскі столькі харчоў, каб неяк пратрымацца да наступнага ўраджаю. Я мусіў звярнуцца па дапамогу да нямецкага інтэнданцтва. Зразумела, што яно пастаўляла для жыхароў акупаваных тэрыторый толькі

самае неабходнае харчаванне, бо Германія сама пакутавала ад яго недахопу з-за спробы блакады англічанамі!

У адпаведнасці з гэтым пачынаўся загад Людэндорфа адміністрацыйным уладам Обэр Оста:

*"Рашучае выкарыстанне краіны для рэгламентаванага харчавання войска, насельніцтва і Германіі ёсць найпершай задачай адміністрацыі. Усё іншае адступае на другі план. Хто ад гэтага пакутуе, дык гэта перш за ўсё насельніцтва акупаваных тэрыторыяў. Я чакаю энергічнай загатоўкі запасаў ад прызначаных на гэта сяброў адміністрацыі пры адтэрміноўцы мясцовых інтарэсаў перад жыццёвымі інтарэсамі нямецкага народа. Гэтая загатоўка і правільнае размеркаванне адпавядаюць выключна патрэбам нашага становішча…"*

Сапраўды, рацыён для жыхароў Горадні моцна зменшыўся. На дзень на аднаго чалавека прыходзілася: 200 г мукі ў пераліку на спечаны з гэтай колькасці хлеб, 250 г бульбы, 12 г цукру, 30 г крупы, 40 г варэння. Тыднёвая норма мяса на чалавека складала 200 г разам з касцямі, дзеці ж да 12 год пры размеркаванні мяса не ўлічваліся.

Раздача напачатку прынесла мне шмат цяжкасцяў, таму што насельніцтва было абсалютна недысцыплінаванае. Толькі паступова прывыкала яно да парадку. Сярод бедных людзей я назіраў вельмі сумныя карціны, многія пісалі лісты, як тая "маці, што галадае", ускладаючы на нямецкае вайсковае кіраўніцтва віну за жабрацтва. Наколькі было магчыма, я спрабаваў дапамагаць бедным арганізацыяй харчавання вялікай колькасці насельніцтва.

Тут я знайшоў поўную паразумення дапамогу ў некаторых гарадзенскіх дамах, асабліва ў спадарыні Яханы Кунц, швагеркі фон Крэткоўскага. Муж яе як аўстрыйскі падданы на пачатку вайны быў прымусова вывезены рускімі. Больш яна пра яго ніколі не чула. Цяпер яна імкнулася заглушыць свой боль самаадданай міласэрнай працай. Кожны раз у абед дзяліла яна ежу ваеннага часу на 2 000 бедных палякаў, а вечар прысвячала бедным дзецям. Яна была галоўным апірышчам Секцыі дабрачыннасці.

Такім чынам, у мяне была шматбаковае цікавае поле дзейнасці, якое, акрамя вялікіх намаганняў і клопатаў, прыносіла радасць стварэння.

## Асаблівыя падзеі ў Горадні

Мой час у Горадні даў мне мноства цікавых перажыванняў як у адносінах з насельніцтвам, так і ў сяброўскім коле. Я ўжо ўпамінаў, што па прыбыцці ў горад акрамя Вайсэнборна мяне вітаў яшчэ адзін хальбэрштарац, капітан Хайнікэ. Ён быў у батальёне апалчэння г. Ашэрслебэна і кіраваў рэдакцыяй "Гарадзенскай газеты" ("Grodnoer Zeitung"). Улада друку паказала сябе ў гэтай вайне так пераканаўча, што вайсковае кіраўніцтва не магло ад яе адмовіцца.

Камандуючы Обэр Ост сваімі загадамі заснаваў шэраг газет мясцовага характару, якія звярталіся не толькі да шэрых шынялёў, але яшчэ болей да тутэйшага насельніцтва. Гэта было прычынай таго, што "Гарадзенская газета" друкавалася па-польску, па-нямецку і на ідыш. Пра гэты "жаргон" я яшчэ скажу пазней. Хайнікe рэдагаваў сваю газету надзвычай удала. Гэтак званы "юбілейны нумар" за 3 верасня 1916 г. з дадаткам "Горадня год як нямецкая" прыкладаю да гэтых успамінаў як дадатак[7]. Карэспандэнты газеты часта прыходзілі да мяне і вельмі ўдала выкарыстоўвалі тое, што чулі і бачылі, каб са свайго боку зрабіць унёсак у лепшае разуменне насельніцтвам нашых распараджэнняў.

Акрамя Хайнікe, Вайсэнборна, Зынінга і мяне ў Горадні болей ці меней часу знаходзіліся іншыя хальбэрштадцы альбо людзі з ваколіцаў Хальбэрштадту. І мы вырашылі ладзіць час ад часу ў афіцэрскім казіно на Парадняй плошчы г.зв. "Хальбэрштацкія вечары", на якія запрашалі праз "Гарадзенскую газету". У газетнай абвестцы ў далёкім горадзе на Усходзе ганарова красаваўся наш старажытны хальбэрштацкі герб.

30 красавіка 1916 г. увечары апалчэнскі батальён Ашэрслебэна святкаваў арыгінальнае свята, на якое мы атрымалі запрашэнне ад Хайнікe. На 1 траўня было прызначанае ўвядзенне летняга часу і апоўначы з 30 красавіка на 1 траўня павінны былі пераводзіць гадзіннікі на гадзіну назад. Свята павінна было адбыцца ў старым парку на беразе ракі Гараднічанкі. Быў добры травеньскі пунш і каля 12-ці ўся кампанія рушыла з паходнямі і спяваннем "Май прыйшоў…" праз парк, каб абыйсці яго. Калі працэсія падышла да вузкай шчыліны ў скале, адтуль з шыпеннем вылецела ў паветра ракета, расколіна заззяла чырвоным святлом і з'явілася з віншавальным крыкам жахлівая зграя ведзьмаў на веніках. Яны падпалілі два стосы з дровамі, між якімі ўскочыў  на каменную глыбу сам князь

пекла, апрануты ў чырвонае трыко. Тады неўтаймоўныя ведзьмы супакоіліся, маляўніча разлягліся на сваіх месцах, і той, хто штогод праводзіць гэтую ноч на Брокэне, вітаў сыноў Гарца на далёкім Усходзе ў стылі Валенштайна цудоўнай жартоўнай пропаведдзю, у якой папракаў іх ва ўсіх грахах і агрубелых за час вайны норавах. У якасці пакарання яны павінны былі яшчэ раз перажыць апошнюю гадзіну, і так гадзіннікі былі пераведзеныя назад. Ролю д'ябла выдатнейшым чынам сыграў актор з батальёна апалчэння.

Таксама я мог падтрымліваць адносіны з маімі старымі сябрамі маёрам фон Брэдаў і ротмістрам Тойберам. Першы быў у блізкім Беластоку, а апошні – афіцэрам па гаспадарцы маёнтка Краснасток недалёка ад Горадні. Асабліва ўдзячны я быў маёру фон Брэдаў, які выканаў маё жаданне, прыслаўшы мне абодвух маіх коней "Нэлі" і "Лорда" ў абмен на коней гарадскога афіцэрскага складу. Цяпер я зноў мог ездзіць на добрых старых ваенных конях, якія насілі мяне ўжо колькі кіламетраў па варожай зямлі на Захадзе і Усходзе, цешыцца наваколлем Горадні і не пазычаць болей у Хайніке каня з апалчэнскага батальёна.

Гэтыя конныя прагулкі былі выдатныя! Наваколле Горадні было прыгожае ва ўсіх накірунках, і лясы ля Пышак і Сакрэту, што моцна адрозніваліся між сабою, кожны па-свойму былі цудоўныя. Пры даўжэйшых прагулках па нядзелях мы наведвалі таксама і навакольныя вёскі, здзіўляючыся прымітыўным хаткам, якія нагадвалі мне халупы неграў ў Пуэрта-Рыка і Кюрасао. Прылады працы, якімі сяляне апрацоўваюць тут зямлю, ледзь не дапатопныя. Мы часта бачылі, напрыклад, цалкам драўляныя бараны. Асобныя драўляныя часткі былі змацаваныя вярбовым галлём. Выкарыстоўваліся нават драўляныя плугі без адзінай жалезнай часткі. Што атрымаецца з гэтага краю, калі нямецкая культура засвоіць гэтую глебу!

Часта кіраўнік акругі фон Лірэс скакаў на кані разам з Вайсэнборнам і мною, і падчас гэтых конных прагулак якая-небудзь службовая справа, якая несла ў сабе зерне канфлікту, вырашалася таварыскім спосабам і дасягалася згода. Інтарэсы гарадскога і вясковага раёнаў натуральным чынам час ад часу разыходзіліся. Але Лірэс быў шляхетны чалавек, які добра ўмеў адмяжоўваць службовае ад асабістага, таму нягледзячы на ўсялякія цяжкасці, якія ляжалі ў прыродзе рэчаў, мы выдатна ладзілі. Ён набываў некаторыя рэчы, якіх не было ў акрузе, праз мяне ці праз маю Гандлёвую

камісію, і пры гэтым нядрэнна рабіў справу. Таму мы з гарадской адміністрацыяй вельмі шкадавалі, калі фон Лірэс быў адкліканы для дзейнасці на радзіму, і яго месца заступіў актыўны маёр.

Спадар маёр быў заўсёды недаверлівы адносна гарадской адміністрацыі, і адносіны паміж горадам і вёскаю змяніліся адным махам. Ён быў упэўнены, што Гандлёвая камісія, робячы закупкі, абдзяляе раён і таму стварыў уласны закупачны пункт. Але не хапала кампетэнтнага кіраўніцтва і з прычыны таго, што парадамі мясцовых гандляроў ён пагарджаў, ён закупляў тавары, якія потым нельга было прадаць, і здараліся непрыемныя страты. У сваіх распараджэннях ён думаў толькі пра свой раён, і ніколі пра тое, што горад і вёска залежныя адно ад другога. Так, ён выдаў загад, у якім гаварылася: "Вываз яек і масла з Гарадзенскага раёна ў Гародню забаронены". Недарэчным аказаўся афіцыйны дакумент інтэнданцтва да гарадской адміністрацыі, каб тая разлічыла для насельніцтва рацыён харчавання на 1000 калорыяў. Гаварылася, што для штодзённага харчавання дарослага неабходна 1700 калорыяў і сцвярджалася, што "астатнія 700 калорыяў можна будзе лёгка здабыць праз закупку яек і масла".

Поўная блакада горада ад увозу прадуктаў харчавання з вёскі папсавала мне нямала крыві і прывяла да ажыўленага кантрабанднага гандлю. Я атрымліваў шмат ананімных лістоў накшталт ліста ад "маці, якая галадае", у якіх усходняй вобразнай мовай выказваліся скаргі на распараджэнні немцаў. Так, адзін ананім пісаў: "Блакада мае практычную мэту адносна горада, што знаходзіцца ў асадзе – прымусіць яго здацца, але ж Гародня не ў такім стане. Карткі і забарона ўвозу граюць тут у чатыры рукі жалобны марш". На маё хадайніцтва да шэфа адміністрацыі было выдадзенае распараджэнне, што вясковы раён павінен пастаўляць гарадскому раёну пэўную колькасць яек і масла, якія я аддаваў у бальніцы, хворым паводле заключэнне доктара, мацярам, якія кармілі і г.д.

Затое ў нас былі вельмі добрыя адносіны як службовыя, так і пазаслужбовыя са спадарамі з адміністрацыі. Мы абсталявалі казіно ў верхніх пакоях Сялянскага банка і, нягледзячы на мізэрную ежу ваеннага часу і ўвядзенне дзён без мяса, цудоўна бавілі час у сяброўскім коле. У першым пакоі віселі карты тэатру ваенных дзеянняў. Тут падрабязна прасочваліся падзеі, і асабліва Вайсэнборн быў удалым аматарам-стратэгам. Шырокамаштабнае наступленне аўстрыйцаў супраць Італіі было нанесенае на карты і назіралася з вялікай надзеяй, якая знікла ў чэрвені 1916 г., калі

Брусілаў прарваў аўстрыйскі фронт пад Луцкам і ў Букавіне. Яго абучанаму французскімі, англійскімі і японскімі афіцэрамі войску супрацьстаялі, як скалы падчас марскога прыбою, арміі фон Ботмэра і фон Лінзінгена.

Поўныя веры сачылі мы за ваеннымі паведамленнямі пра наступленне англічан паміж Сомай і Анорай, дзе наш дарагі пляменнік Альбрэхт Бертольд з Хальбэрштадту шчаслівым чынам атрымаў толькі лёгкае шрапнельнае раненне ў руку. Ворагі на Заходнім фронце змаглі дасягнуць толькі невялікіх перамогаў, якія ім дорага каштавалі. Але больш жорсткія словы прыпадалі на нашых саюзнікаў, якія напачатку пасля такога шматабяцальнага наступлення супраць Італіі пакінулі перадмостнае ўмацаванне і горад Гёрц, калі Брусілаў усё бліжэй падыходзіў да Лемберга і войскі фон Ботмэра і фон Лінзінгена былі акружаныя з абодвух флангаў і вымушаныя да адступлення.

У жніўні 1916 г. ваеннае становішча выглядала нядобрым. Антанта цешылася, чуючы пракляцці ад ляжалага ў апошніх канвульсіях смяртэльна параненага звера. Румынія вырашыла, што настаў яе час, і 27 жніўня 1916 г. абвясціла пра ўступленне ў вайну. У гэтую крытычную часіну, калі здавалася, што стрэлка вагаў схіляецца на бок Антанты, наш кайзер паставіў генерал-фельдмаршала Гіндэнбурга і яго начальніка генеральнага штаба Людэндорфа на чале арміі, і ўжо праз некалькі дзён здзіўлены свет пачуў, што замест чаканага пераможнага шэсця румынаў нямецкія і балгарскія батальёны авалодалі крэпасцю Тутракан, і што нямецкія эскадроны прасунуліся далёка ў Дабруджу. Хуткая катастрофа Румыніі змяніла сітуацыю. Але мы згубілі Гіндэнбурга і Людэндорфа на чале адміністрацыі Обэр Ост.

Усе гэтыя ваенныя падзеі, як і звесткі пра прыбыццё нямецкай гандлёвай падводнай лодкі "U–Deutschland" у Амэрыку і пра вялікую марскую бітву пры Скагераку, ажыўлена абмяркоўваліся не толькі ў нашым сяброўскім коле, але і сярод гарадзенскага насельніцтва. Не раз пасля вячэры мы бавілі час у сем'ях некаторых сяброў Гарадской рады. Там у нязмушанай гутарцы можна было пачуць шмат з таго, што нам важна было ведаць для ацэнкі адносінаў, і што заставалася нявыказаным у ратушы.

Найчасцей я бываў у спадара Крэткоўскага і яго швагеркі Яханы Кунц. Гэта былі вельмі разумныя і прыемныя людзі. Яна была душою польскіх дабрачынных памкненняў, арганізоўвала дні

кветак і дабрачынныя спектаклі, не цуралася зайсці сама ў самыя брудныя халупы, каб прыгледзець за кінутымі без нагляду дзецьмі, зусім знясіленых забірала ў свой дом, каб памыць, пераапрануць і накарміць.

Ён быў добрым знаўцам польскіх адносінаў, і я атрымаў ад яго нямала добрых парадаў. Калі я аднойчы паскардзіўся, што сяброў Гарадской рады цяжка падахвоціць да нечага новага, і яны вельмі павольныя ў прыняцці рашэнняў, ён паспрабаваў патлумачыць мне гэта гістарычна. У "Заходніх губернях" [Расейскай імперыі] мясцовыя жыхары ніколі не прыцягваліся да кіравання і судовага права. Хто з немцаў, літоўцаў ці палякаў хацеў паступіць на расейскую дзяржаўную службу, той павінен быў добра разумець, што, згодна з расейскімі законамі, ён не будзе выкарыстаны на сваёй радзіме. Нават у самых ніжэйшых інстанцыях працавалі толькі "истинно-русские люди".

У "Заходніх губернях" не была ўведзеная земская канстытуцыя, якая дзейнічала ў астатняй Расіі. Не было нават намёку на самакіраванне. Спачатку жыхары краю маглі ўносіць прапановы ва ўрад, калі мелі пажаданні. Але на іх не давалася адказу, а калі ён і прыходзіў, то нічога не мянялася. Тады яны спыніліся з падачай непатрэбных прапаноў і жаданнем супрацоўніцтва. Пад доўгім ціскам расейскага прадажнага чынавенства паступова знішчалася здольнасць да прыняцця рашэнняў і энергія польскай нацыі. Узнікла думка "вшыстко едно", і, сапраўды, на пасяджэннях Гарадской рады мы часта чулі гэтае пакорлівае "вшыстко едно".

На думку Крэткоўскага, гэта стала злым рокам польскай нацыі. Калі Каралеўства Польскае, пра чыё адраджэнне шмат гаварылася, зноў уваскрэсне, то з'явіцца патрэба ў актыўных мужчынах з мэтанакіраванай энергіяй. З-за недахопу разумовай актыўнасці развіццё Каралеўства будзе перажываць цяжкасці і запаволіцца. Гэта будзе цягнуцца доўга, пакуль не выгадуецца новы род палякаў, які пераадолее шкодныя вынікі чужога панавання рускіх. Не ведаю, ці меў фон Крэткоўскі рацыю у сваіх поглядах. Мне падалося, што адсутнасць энергічнасці і легкадумнасць – загана, якая ляжыць глыбока ў польскім характары, магчыма, яна абвастрылася праз чужое панаванне і наўрад ці калі-небудзь будзе пераадоленая.

Паміж палякамі і габрэямі панавала вялікая варожасць, ва ўсялякім выпадку паміж арыстакратычнымі палякамі і габрэямі. Мы (Вайсэнборн і я) былі некалькі разоў дома ў Касоўскага,

пакуль не заўважылі, што гэты габрэй, які хоча быць арыстакратам, мае прынцыпы, якія не дазваляюць нам уваходзіць у яго дом. Усходнія габрэі наогул не маюць пачуцця прыстойнасці ў дзелавых адносінах. Яны лічаць прадпрымальніцкай спрытнасцю і камерцыйнай знаходлівасцю тое, што  для нас – подлае ашуканства. Таму для нас усялякія стасункі з імі немагчымыя. У Касоўскага мы сустрэлі некалькі выдатна адукаваных габрэйскіх жанчын і дзяўчат, сярод іх спявачку Рахісу Крынскі, якая ў чароўнай манеры выконвала большай часткай сумныя рускія песні.

Зусім адваротным у адносінах да агіднага габрэйскага вядзення справаў было ўнутранае сямейнае жыццё і вытрыманы ў строгай маралі лад жыцця жанчын і дзяўчат, які ў полек часта быў даволі свабодны. Таксама выдатна была арганізаваная габрэйская дабрачыннасць. На дабрачынных вечарынах выконваліся вельмі добрыя акцёрскія пастаноўкі, была цудоўная дэкламацыя і музыка. Вядома, усё было на “жаргоне”, найбольш на “ідыш”. “Ідыш” гэты – вельмі арыгінальная мова. Спадар Хозэ, з якім я падрабязна размаўляў на гэтую тэму, патлумачыў мне, што аснова гэтае мовы –  сярэднянямецкая мова, на якой размаўлялі нюрнбергскія і аўгсбургскія патрыцыі ў часы Фугераў[8], і ў якой можна знайсці няшмат габрэйскіх і яшчэ менш славянскіх элементаў.

Мова гэтая пішацца габрэйскімі пісьмовымі знакамі. Для нас яна гучыць напышлівай і часта дзіўнай. Так, напрыклад, калі стары габрэй распавядае нам пра сваю сям’ю і кажа, што ён мае дома чатыры “фройляйн”, то гэта значыць, што ў сям’і чатыры незамужнія дзяўчыны. Кожны нежанаты мужчына – “кавалер”. Кавалер не прагульваецца з фройляйн, а “гуляе”, гэтаксама як Гётэ ўжывае ў “Фаўсце” гэтую форму: “З Вамі, спадар доктар, пагуляць…”

Да гэтага дыялекту лёгка прывыкаеш і вывучваеш у хуткім часе выразы на чужой мове. Таму праз нейкі час мне не было ўжо так дзіўна, калі перад ратушаю да мяне звярнуўся габрэй: “Прабачце, міласцівы пан, ці магу я памяняць тут хлебныя карткі?”  Альбо калі габрэй прыйшоў скардзіцца на паліцэйскага, што рэквізаваў у яго кантрабандныя тавары: “Хуйх, гвалт, палісмэн адабраў у мяне мяшок моншкі і два пакеты зэф!” Што “моншкі” азначае цукар-пясок, а “зэф” – мыла, я даведаўся ў першыя дні ў Горадні. Калі габрэю патлумачылі, што рэквізіцыя была справядлівай, бо ён парушыў прадпісанні штатхаўптмана, ён сказаў:”Майце рахмоніс, я меў тоес!” (“Пашкадуйце, я памыліўся!”) Нарэшце ён пайшоў, паціскаючы плячыма, са словамі: “Ну што ты тут скажаш, што тут зробіш!” Але за

дзвярыма прамармытаў у сваю доўгую бараду пракляцце на ідыш: “Каб ты праваліўся!” Ці нешта накшталт: “Каб ты скруціўся!”

Вельмі своеасаблівай падаецца паэзія на ідыш, якая большай часткай меланхалічная і сумная, і выказвае трывогі габрэйскага народа. Хачу прывесці тут некаторыя ўзоры з яе:

**Абрахам Райзэн. Хадзем, брат!**
Хадзем, брат, хадзем вандраваць
Куды – не пытайся, ці ж важна
Ад месца да месца мы пойдзем блукаць
У свет той страшны й неабсяжны.

Мо страцім там шчасце, была не была
Любоў, чысціня ў нас не згіне
Бы вольныя птушкі
Паляцім аднойчы ў вышыні
[…]

Пры лічэнні ўсходнія габрэі карыстаюцца маленькімі лічыльнікамі, якія адрозніваюцца ад прынятых у сістэме нашай пачатковай школы. Гэтымі маленькімі лічыльнікамі яны здзяйсняюць хутка і ўпэўнена самыя складаныя множанні і іншыя дзеянні. У школах гучыць пацешна, калі настаўнік пытаецца не так, як у нас “Колькі *ёсць* сем памножыць на пяць?” а “Колькі *будзе* сем памножыць на пяць?”, і вучань адказвае: ”Сем памножыць на пяць *будзе* трыццаць пяць”. Школьны работнік Тыль расказваў нам некаторыя смешныя рэчы пра габрэйскія школы, але хваліў выхаванне і парадак, якога там прытрымліваюцца.

Вельмі перашкаджалі шматлікія ўрачыстасці. На габрэйскія святы палова служачых нашай установы не працавала, а на каталіцкія адсутнічалі палякі. Тады кіраўнік горада, параіўшыся з рабінам і каталіцкім святарствам, падзяліў святы на вялікія і малыя і загадаў працаваць падчас малых.

Трэба аддаць належнае гарадзенцам, святкаваць яны ўмелі. Да вялікіх працэсіяў вельмі прыстойна ўпрыгожвалі горад. Трывалыя магутныя гірлянды з лісця працягваліся па-над вуліцамі, абрамлялі фасады дамоў, з балконаў ці вокнаў якіх святочна звісалі яркія дываны. Асобныя куткі горада ўпрыгожваліся па-мастацку. У працэсіях можна было пабачыць нашых шляхетных сяброў Гарадской рады, спадара Класоўскага, што крочыў, зняўшы шапку, далей цягнуліся шэрагі вяскоўцаў, часткова ў маляўнічым адзенні, спяваючы адным тонам ці паўтараючы малітвы.

Гэта стварала прыгожую, яркую карціну, раскошнае богаслужэнне. Касцёл выходзіў на вуліцу і працэсіямі прыцягваў вялікую колькасць людзей. Пратэстанцкая царква адмаўляецца ад такіх сродкаў нават пры вялікіх магчымасцях.

У нядзелю 1 чэрвеня 1916 г. кайзер быў у Горадні і з прычыны таго, што не хацеў адмаўляцца ад палявой імшы, яна была назначаная ў гарадзенскім гарадскім парку. Гэта было вельмі простае, але поўнае ўражання свята. Магутныя старыя дрэвы атачалі лужок у гарадскім парку.Тут збудавалі просты палявы алтар, каля яго стаялі дзве гарматы, піраміды з стрэльбаў і барабаны. Перад алтаром на лужку быў пакладзены дыванок. Войскі і вольныя ад службы афіцэры, а таксама сёстры выстраіліся адкрытым простакутнікам. Было рана. Сонца дасылала свае першыя прамяні праз лісцяны дах старых дрэваў.

Раптам загучалі знаёмыя гукі клаксана кайзераўскага аўтамабіля, крыкі камандаў. Чутно было, як салдаты павярнулі вочы направа, афіцэры віталі падняццем рукі. Пругкім крокам ішоў кайзер, за ім Фалькенхэйн, Капеле і ўся світа. Пасля кайзер у адзіночку абышоў тры бакі простакутніка, пільна ўглядаючыся ў вочы кожнага. Потым стаў на месца перад алтаром, світа стоўпілася за ім. Па супольна спяваным харале, у якім чуліся ясныя галасы сясцёр, што хораша перамешваліся з мужчынскімі галасамі шарашынэльнікаў, прагучала добрае казанне. Пасля заключнага спеву святар сказаў кароткую малітву, просячы Божага блаславення. Падчас імшы кайзер ні разу ні кінуў поглядам у бок святара, потым жэстам паклікаў яго да сябе і размаўляў яшчэ нейкі час са святаром і іншымі спадарамі.

Потым, коратка вітаючы ўсіх на ўсе бакі, зноў пайшоў да аўтамабіляў і з’ехаў у горад. Там агледзеў стары Замак і выдатны від адтуль на Нёман і Занёманскае прадмесце.

Прыезд кайзера зрабіў на гарадзенцаў вялікае ўражанне. Падчас імшы яны стаялі цесным натоўпам за войскам і былі вельмі здзіўленыя, што так мала было аховы. Цар у мірныя часы не рашаўся рабіць тое, што наш кайзер рабіў на захопленай тэрыторыі. Мы яшчэ часта прымалі высокіх гасцей у Горадні. Прыязджалі кароль Фрыдрых-Аўгуст Саксонскі і вялікі герцаг Саксонскі-Ваймарскі. Вайсэнборн рабіў абодвум даклад пра Горадню ранейшую і сённяшнюю. Завіталі таксама памочнікі дзяржаўнага сакратара Хэфэрых і Дрэўс, дэпутаты, прадстаўнікі прэсы ўсіх накірункаў і многія іншыя цікаўныя людзі, якім мы павінны былі распавядаць пра краіну і людзей, прадукцыю краіны і нашыя адміністрацыйныя высілкі.

Вельмі прыемныя зносіны, якія давалі пажаданы адпачынак, звязвалі мяне з сёстрамі з ваеннага лазарэту 126. Праз некалькі дзён пасля прыезду ў Горадню на сваё здзіўленне я сустрэў на вуліцы сястру Кэтэ, якая даглядала мяне ў Беластоку. Лазарэт быў пераведзены ў Горадню. Яна вельмі ўзрадавалася, зноў пабачыўшы мяне абсалютна здаровым, і запрасіла на гарбату. Потым разам з іншымі сёстрамі яна часта прыходзіла да мяне на вячэру, куды я запрашаў Вайсэнборна, Ліpэса і Зынінга. Тыя, як і я, сумавалі па падобных сабе нямецкіх жанчынах. Гэтыя сёстры былі якраз высокаадукаваныя мілыя дзяўчаты, з якімі мы ахвотна гутарылі. Потым мы вельмі шкадавалі, калі лазарэт перамясціўся ў Ліду.

Я часта выязджаў з Горадні ў Вільню і Беласток, каб кантактаваць з адказнымі за пастаўку харчавання. У Беластоку я, вядома, наведваў маёра фон Брэдаў, які па-ранейшаму жыў у старой кватэры банкаўскага дому з капітанам Хільгерам. Сейфы і незгаральныя шафы былі запоўненыя дакументамі тылавых падраздзяленняў, яны выцеснілі каштоўныя паперы гэтак жа, як рубель Обэр Осту – стары расейскі рубель. Фон Брэдаў меў заданне наладзіць старую тэкстыльную індустрыю ў Беластоку і перараблць тут мясцовую сыравіну. Гэтую справу ён здзяйсняў з вялікай абачлівасцю і ўмельствам. Разам з Брэдаў і Хільгерам мы ішлі ў казіно тылавой інспекцыі, дзе за абедзенным сталом бываў прынц Аўгуст-Вільгельм, які ўцягваў мяне ў ажыўленую размову пра Англію і Амерыку, калі даведаўся, што абедзве краіны я ведаў з уласнага вопыту.

Некалькі разоў я выязджаў з Горадні ў Кёнігсберг, каб закупіць тавары для Гандлёвай камісіі. Аднойчы ў сувязі з кароткім адпачынкам разам з жонкай я вазіў нашага старэйшага сына Ханса-Георга ў Кёнігсберг у ягоны полк. У ліпені 1916 г. Ханс-Георг здаў неабходны экзамен у саборнай гімназіі і пасля многіх намаганняў знайшоў добры полк, першых драгунаў. Як усе маладыя людзі, ён не жадаў доўга чакаць і наогул хацеў стаць салдатам. Праз нейкі час, 14 кастрычніка 1916 г. я зноў наведаў яго ў Кёнігсбергу ў казарме ягонага эскадрона і быў рады, калі маёр фон Мандэльзых добра пра яго адгукнуўся. Першы раз бацька і сын выйшлі разам у горад як салдаты, і хто з іх ганарыўся болей?

16 кастрычніка я вярнуўся ў Горадню. Вайсэнборн сустрэў мяне з кісла-салодкай усмешкай. Я запытаўся, што здарылася. Ён адказаў, што прыйшоў ліст ад намесніка генеральнага камандавання ў Магдэбургу, згодна з якім мяне адклікаюць у Магдэбург. І цяпер, - сказаў ён, - мы мусім развітацца, бо я ахвотна захачу вярнуцца ў родны край і працаваць

там. Яму будзе вельмі не хапаць мяне. Я быў як з печы зваліўшыся. Калі я зайшоў у будынак адміністрацыі, дзе было наша казіно, каб паесці, са мной загаварыў таксама пра гэта галоўны ўрадавы дарадца Умпфэнбах, загадаў прынесці ліст і паказаў мне яго. Я быў запатрабаваны ў якасці кіраўніка камісіі аддзела XV E па пытаннях харчавання. “Для гэтага надзвычай важнага паста ротмістр Кламрот падыходзіць асабліва добра з-за ведаў усіх абставінаў у правінцыі Саксонія, не раз даказанага ім шырокага погляду і вялікага досведу ў гандлёвых справах. Таму прашу даць згоду на перавод ротмістра Кламрота, як толькі знойдзецца замена яго дзейнасці”. Так было напісана ў лісце Яго Высокасці Лінкера, і шэф адміністрацыі сказаў: ”Так, дарагі Кламрот, мы павінны прымірыцца з тым, што Вы выбываеце з нашага круга. Але спачатку Вы павінны паклапаціцца пра замену”. Вядома, гэта заняло пэўны час, з дапамогай дзядзькі Хайнрыха ў Крэфэльдзе быў знойдзены мой наступнік, уладальнік фабрыкі Оскар фон Бэкерат, а потым адміністрацыя Обэр Оста ў Коўне па хадайніцтву галоўнага ўрадавага радцы Упфэнбаха дала згоду на маё перамяшчэнне ў Магдэбург.

Навіна пра тое, што я пакідаю Горадню, хутка распаўсюдзілася сярод насельніцтва, і тут габрэі і палякі, якія напачатку сустрэлі мяне з вялікім недаверам, паказалі, што ўсё ж з цягам часу адчулі, што я хацеў ім дабра і стараўся абыходзіцца з імі справядліва. Многія прыйшлі, каб развітацца са мною. Шмат разоў я пачуў: “Дзенькі, пане бурмістж, довідзэня!”, і некаторыя знакі прыхільнасці сустракаў яшчэ доўгі час.

Яхана Кунц была несуцешная; ці будзе мой наступнік гэтак жа з разуменнем ставіцца да яе клопатаў пра бедных, да масавага харчавання? Сваю ўдзячнасць яна выказала на Свята Раства Хрыстова 1916 г. і нават на Раство 1917 г. тым, што праз адпускніка даслала ў Хальбэрштат святочную смажаніну ў выглядзе прыгатаванай ёю самой індычкі!

У дзень ад’езду прыйшла святочным чынам уся секцыя 3. Старшыня спадар Е. фон Класоўскі выступіў з салідная прамовай, якая суправаджалася многімі кіўкамі і іншымі знакамі згоды з боку іншых спадароў. Потым на маё здзіўленне людзі перадалі мне ўпрыгожаную манаграмай цяжкую срэбраную цыгарэтніцу, на ўнутраным баку якой стаяла наступнае прысвячэнне: “Шаноўнаму кіраўніку на памяць пра супольную працу. Сябры секцыі III гарадской рады г. Горадні 31.10.1916. Е. фон Класоўскі”.

31 кастрычніка 1916 г. я ад’язджаў з Горадні. Развітанне з дзейнасцю, якую палюбіў, з маімі сябрамі, а таксама з маімі коньмі далося мне нялёгка, але наперадзе чакала радзіма!

*Заўвагі*

[1] Das Land Ober Ost. Deutsche Arbeit in den Verwaltungsbezirken Kurland, Litauen und Białystok-Grodno. Bearbeitet von der Presseabteilung Ober Ost. Stuttgart, 1917. S. 243.

[2] Вельмі рэдкая згадка пра “цудоўныя скульптуры” Каложы пачатку XX ст. Іншыя аўтары пра іх нічога не згадваюць (заўвага рэд.).

[3] Сінагога згарэла падчас Другой сусветнай вайны (заўвага рэд.).

[4] Маецца на ўвазе Сафійскі сабор, у які расейскімі ўладамі былаператворана “Фара Вітаўта” (касцёл Унебаўзяцця Маці Божай) (заўвага рэд.).

[5] Відавочна, К.Кламрот мае на ўвазе Пакроўскі сабор (вул. Ажэшкі).

[6] *Літасцівы спадар! Пан Езус сказаў у Святым Евангеллі, што “не хлебам адзіным жывы чалавек”, а я кажу, што сёння якраз толькі хлебам адзіным і жыве чалавек пад панаваннем немцаў. Абгрунтоўваю свае словы наступным: спачатку – бульба з-за адсутнасці прывозу з вёскі, які немцы забаранілі (з якой мэтай – невядома). Цяпер прывоз дазволены, але …калі ўжо з’явілася новая бульба, а старая згніла ў сялян на 9/10. Гэта поўнасцю адпавядае рускай прымаўцы “дакладны, як немец”, ці не праўда? Насельніцтва галадае, а бульба гніе ў капцах. Прыемна і мэтазгодна, ці не так? Гэта адпавядае Вашым шлемам, шэрым і жахлівым сярэднявечным шлемам… Як піша цяпер немец, які перадае звесткі пра рускіх (заўвага: з “Берлінскай газеты” на рускай мове): “У Расіі зараз забаронены ўсялякі гандаль таварамі і прадуктамі”, а тут што??*

*Урэшце горад жыве з вёскі, гэта ведае нават дзіця. А як гэтага можа не ведаць вялікі кайзер? Што застаецца цяпер насельніцтву, гэтаму пакутнаму, галоднаму насельніцтву? Ці можа чалавек, нават дзіця пражыць дзень з паловаю фунта хлеба пры няхватцы і фантастычным павышэнні цэнаў на такія прадукты як бульба, крупы, фасоля, гарох?*

*Прышчэпкі ад халеры і тыфу нельга разглядаць іначай як абарону ад заразных хваробаў усяго насельніцтва (Вы яшчэ забыліся пра шкарлятыну), але было б больш мэтазгодна расстраляць усё насельніцтва. Вы павінны былі зрабіць прышчэпкі ад голаду, а не спрабаваць пракарміць чалавека 200 грамамі хлеба на дзень.*

*Урэшце дарослых мне не так шкада, асабліва мужчынаў, яны абавязаныя… вітаць усіх нямецкіх афіцэраў. І як не павітаць такіх герояў! Кожны з нямецкіх афіцэраў – Аляксандр Македонскі…Ён добра ведае, як біць цывільных бізуном, калі*

*хто-небудзь іх не вітае, і кідаць капялюш у канавы, калі герояў, якія ўзялі, больш дзякуючы шпіёнству, 8-9 крэпасцяў і мо якіх 15 губерняў і мільёны цэнтнераў жыта, пшаніцы і медзі, не вітаюць…*

*Паўтараю: мне не шкада мужчыну, мне шкада дзіця… Яно плача і крычыць: "Мама, мама, дай хлеба!" А дзе я вазьму хлеба? Калі дзе і ёсць, то каштуе 60 пфенігаў фунт. А грошы? Адкуль іх браць? А яшчэ патрабуюць падатак "з галавы", быццам мы не людзі, а жывёла!!! Так, толькі немцы – людзі, а астатняе насельніцтва Еўропы ўсяго толькі жывёла…*

*Надзвычай цікава, ці Яго Вялікасць кайзер Вільгельм і Яго Высокасць Гіндэнбург атрымліваюць па 9 фунтаў хлеба на 14 дзён, і ці дастаўка бульбы да іхніх палацаў строга забароненая? Адказ на гэтае пытанне можа даць нам мір… Мір на могілках… Іншага адказу мы і не чакаем… і потым ніхто не зможа плаціць падатак "з галавы".*

*Хто ведае, можа Вы ўрэшце рэшт перагледзіце справу і ўстановіце 3-фунтавую дзённую хлебную порцыю, каб браць падаткі.*

*Маці, якая галадае.*

[7] Старонка 31 Дзённіка ўтрымлівае дзве газетныя выразкі наступнага зместу. Кароткая абвестка: Хальбэрштацкі вечар. Афіцэрскае казіно на Парадай плошчы. Чацвер, 19 кастрычніка. 8.1/2."

Даўжэйшы тэкст: "Новы парадак на рыбным базары захоўваецца ва ўсіх адносінах выдатна. Толькі да неабходнага спакою нашыя суграмадзяне часта яшчэ не прывыклі. Некаторыя спрабуюць праз уваходныя дзверы адразу трапіць да стойкі з рыбаю і праганяюцца адтуль дзяжурным пастом, перш чым усвядомяць, што лепш было б стаць у чаргу, якая магла б рухацца хутка і без перашкодаў. Але з цягам часу і самы ўпарты прывыкне слухацца распараджэнняў нямецкіх уладаў. Разуменне, што гэтыя распараджэнні добрыя і служаць інтарэсам гараджанаў, усё больш пракладае сабе дарогу".

[8] Фугеры (Fugger) – буйнейшы нямецкі гандлёва-ліхвярскі дом, які адыгрываў важную ролю ў XV-XVII стст. у Заходняй і Цэнтральнай Еўропе. Актыўна фінансавалі Габсбургаў, за што атрымалі права на распрацоўку срэбраных і медных руднікоў у Цыролі і Венгрыі. (заўвага перакл.)

[9] Кламрот цытуе на ідыш. (заўвага перакл.)

# Горадня ў Першую сусветную вайну. Фотаздымкі з калекцыі Ф.Варашыльскага.



Нямецкія салдаты ў Горадні.



Жыхары Горадні.



Зянітны кулямёт на воданапорнай вежы.




Нямецкі вайсковы лазарэт.



Аздоблены палац віцэ-губернатара, 1916 г.



Спалены палац Тызенгаўза, 1915 г.



Спалены чыгуначны вакзал, 1915 г.



Сустрэча кайзера Вільгельма II на гродзенскім чыгуначным вакзале.



Парад нямецкіх войскаў на гродзенскім рынку.



Узарваныя масты з 1915 года былі часткай гродзенскага краявіду.




Пабудова помніка для нямецкіх салдат на вайсковых могілках.

**Марыўш Філіповіч, Эдыта Савіцка (Беласток)**

# Савецкія рэпрэсіі супраць абаронцаў Горадні ў 1939 г.*

Горадня мае багатую гісторыю. Перад Другой сусветнай вайной яна была слаўным на ўсё Беластоцкае ваяводства культурным, асветніцкім і вайсковым асяродкам. Як заўважыў Ежы Кшыштань, "гэта быў не горад, гэта было само хараство"[1]. Паводле гарадзенца Люцыяна Вансовіча, у міжваенны час менавіта "войска і моладзь стваралі атмасферу горада"[2]. Моладзь у школах выхоўвалася ў патрыятычным духу, што абумовіла яе асабісты ўдзел у вераснёўскай абароне.

17 верасня 1939 г. Чырвоная Армія перайшла савецка-польскую мяжу. Галоўны ўдар у гарадзенскім кірунку наносіла групоўка савецкіх войскаў, якая дыслацыравалася паміж Менскам і Слуцкам. Частка тых войскаў наступала на Баранавічы, Слонім, а потым на Горадню. У горадзе і ваколіцах знаходзіліся мінімальныя сілы. Паводле плана абароны Польшчы ад нямецкай агрэсіі ("план Z") паўночна-ўсходнім тэрыторыям Польшчы не надавалася вялікага значэння.

Наступленне Чырвонай Арміі выклікала хаос і паніку. У Горадні заставаліся толькі два абарончыя батальёны (каля 1 тыс. салдат). У горад прыбывалі таксама рэзервісты, якія без зброі і абмундзіравання знаходзіліся на тэрыторыі казармаў. Няспынным быў прыток цывільных бежанцаў з Беласточчыны, а таксама салдатаў з разбітых вайсковых частак. Найвялікшым вайсковым фармаваннем на Гарадзеншчыне была брыгада кавалерыі армейскага рэзерву "Ваўкавыск". Яна складалася з чатырох палкоў і павінна

* Артыкул быў апублікаваны ў часопісе "Biuletyń Historii Pogranicza" (2005, Nr 6. S. 11-28). Перадрук са згоды рэдакцыі. Пераклад з польскай мовы Ю.Марчук. Публікацыя артыкула абумоўленая важнасцю ўзнятай аўтарамі праблемы. Аднак варта адзначыць, што трагедыю абаронцаў Горадні немагчыма зразумець выключна ў межах нацыянальнага дыскурсу, падзяліўшы ўсіх на палякаў-абаронцаў і беларусаў або габрэяў як даносчыкаў і памагатых савецкіх акупантаў. Вядома, што сярод абаронцаў былі таксама габрэі і беларусы. Апроч таго нельга не заўважыць, што вельмі часта праявы нацыянальнага (і сацыяльнага) канфлікту ў верасні 1939 г. былі таксама наступствам палітыкі кіраўнікоў міжваеннай Польшчы (заўвага рэд.).

была абараняць Вільню, аднак, не паспела дайсці да горада. Пасля захопу Чырвонай Арміяй Вільні частка брыгады прыняла ўдзел у абароне Горадні. У горадзе таксама пачалі ўзбройваць рэзервістаў. А камандзір атрада харцэраў Бруна Глябовіч яшчэ 15 верасня падчас нарады заявіў, што харцэры прымуць удзел у абароне. Гаворка ішла пра прыкрыццё тылу войскаў, якія павінны былі пакінуць горад.

Непасрэдныя баі за Горадню з іншым праціўнікам, чым думалася раней, пачаліся 20 верасня. Група савецкіх танкаў уварвалася ў горад з захаду праз нёманскі мост. Аднак пасля знішчэння двух танкаў астатнія адступілі. Раніцай 21 верасня пачалося адступленне польскіх войскаў. Вечарам эвакуіраваліся 101 і 102 палкі ўланаў.

Аднак абарона Горадні працягвалася да 22 верасня 1939 г.[3] Абаронцы ўжо тады заплацілі высокі кошт за супраціў. У апісанні вынікаў баёў 16 стралковага корпусу Чырвонай Арміі чытаем: "Здабытыя 400 вінтовак, 120 снарадаў, буйнакаліберныя і ручныя кулямёты, гранаты, патроны. Усё гэта перададзена камісару па справах здабычы. У палон узятыя 600-700 чал. Усяго забіта ворагаў больш за 200 чал. Расстраляныя 29 афіцэраў, у т.л. палкоўнік, маёры, капітаны ды інш."[4]

Дадзенае даследаванне з'яўляецца спробай апісаць савецкія рэпрэсіі ў дачыненні да абаронцаў Горадні, якія адбываліся адразу пасля захопу горада войскамі Чырвонай Арміі, а таксама ў пазнейшы перыяд. Калі ў верасні мелі месца пераважна масавыя расстрэлы, то пазней адбываліся арышты і асуджэнні.

Адразу пасля ўваходу савецкай арміі ў Горадню пачаліся расправы з яе абаронцамі. Пры гэтым рэпрэсіі закранулі і тых, хто не меў дачынення да абароны. Пакаранні адбываліся на г.зв. "Сабачай (Паляўнічай) горцы", дзе між іншым былі расстраляныя каля 20 вучняў, што баранілі Дом Стралка. Каля Панямуні былі расстраляныя падхарунжыя, магчыма з 77 пяхотнага палка з Ліды. Лічба забітых ацэньваецца прыкладна ў 300 ваенных і мірных жыхароў[5]. Трэба пры гэтым заўважыць, што забівалі не толькі салдаты Чырвонай Арміі. Гэта рабілі таксама супрацоўнікі НКУС пры актыўным удзеле мясцовых камуністаў беларускага ці габрэйскага паходжання. "Сабачая горка" і "Сакрэт", дзе расстрэльваліся абаронцы, знаходзіліся на ўсход ад заапарку[6]. Люцыян Вансовіч так апісваў іх месцазнаходжанне: "За заапаркам... два месцы: "Сакрэт" і "Сабачая горка". "Сакрэт" быў трошкі большы, а "Сабачая горка" знаходзілася паміж "Сакрэтам" і фальваркам Станіслававa"[7]. Юзэфа Аніська

паведаміла, што назва “Сабачая горка” звязаная з тым, што на гэтым месцы сабакар перад вайной забіваў сабак. Зараз там знаходзяцца закрытыя для пахавання могілкі”[8].

Караль Шлямак ва ўспамінах малюе трагічны вобраз савецкіх рэпрэсій адразу пасля ўступлення ў горад Чырвонай Арміі: “На маім падворку па вул. Сабескага, д. 3 былі арыштаваныя чатыры польскія салдаты без зброі, а затым расстраляныя. Гаспадар таксама быў расстраляны за тое, што ў яго памяшканні падчас вобыску знайшлі афіцэрскі мундзір. Я бачыў шмат расстраляных людзей, целы якіх не былі пахаваны да 4 кастрычніка 1939 г. Яны ляжалі ў трунах на вул. Пагулянцы, каля шашы на Скідзель. Менавіта такім спосабам савецкія ўлады ўводзілі свае парадкі і законы”[9].

Бруна Глябовіч прыняў рашэнне вывесці невялікую групу людзей з горада пасля заканчэння баёў. Звярнуўся да паручніка: “Я чуў, што ў пограбе пад намі хаваецца аддзел паліцыі з Быдгашчы. Уваход знаходзіцца тут. Няхай хто-небудзь пойдзе і скажа, што рэшта войск адступае, няхай ідуць з намі. Хто пойдзе?” Кажу яму: “Я пайду. Пачакайце мяне. Я ведаю, дзе той уваход, хутка збегаю”. Я выбег, а з-за плота нехта стрэліў, але ён не меў шансаў трапіць. Толькі выпадкова. Я адчыніў дзверы, увайшоў у пограб, а там яны ляжаць накрытыя коўдрай, некаторыя плашчом. Кажу ім: “Панове, апошні атрад пакідае горад. Яго занялі Саветы. Калі хочаце з намі, то хутка за мной. Цішыня. Я выбег. За мной нікога. Раніцай наступнага дня ўсіх расстралялі”[10].

Пасля таго, як Чырвоная Армія заняла Горадню, была адчыненая турма і на працягу трох дзён, пакуль не быў арганізаваны НКУС, адбываліся самасуды і забойствы. Крымінальнікі разам з чырвонаармейцамі забівалі людзей у Горадні і ваколіцах[11].

Вельмі цікавыя ўспаміны пакінуў непасрэдны сведка гэтых падзеяў Рамуальд Чушаль. Змест гэтых успамінаў паказвае памеры нянавісці савецкіх уладаў да абаронцаў Горадні, мужнасць якіх і імкненне абараняць незалежнасць яскрава высветлілі агрэсію СССР, названую савецкімі ўладамі “вызваленчай місіяй”: “Калі савецкая армія ўвайшла ў Горадню, я быў польскім салдатам у атрадзе самаабароны. Не жадаючы адступаць з рэштай польскай арміі ў Літву, я вырашыў прабрацца дадому, але напачатку нічога не атрымалася, бо на вул. Ліпавай мяне ўзялі ў палон з іншымі салдатамі. Пад моцным эскортам нас завялі ў Францысканскі касцёл. На кляштарным падворку ўжо было шмат польскіх салдат, чыгуначнікаў і некалькі

ляснічых, а найгоршым было тое, што пільнаваў нас беларус з Горадні з чырвонай стужкай і з вінтоўкай, які павінен быў распазнаваць, хто знаходзіцца сярод нас. У хуткім часе прыйшоў савецкі палкоўнік-танкіст, і пачалося разбіральніцтва, якога мы паходжання, і чаму аказваем супраціў Чырвонай Арміі, якая прыйшла вызваліць нас, рабочых ад ярма польскіх паноў, што мы павінны былі... накіраваць зброю супраць польскіх афіцэраў і паноў, а цяпер, заслугоўваем пакарання. Ён яшчэ доўга чытаў нам агітацыйную мараль, потым запісаў прозвішчы. Я падаў несапраўднае прозвішча, каб не падвяргаць небяспецы сваю сям'ю. Прыкладна праз гадзіну мне ўдалося адцягнуць увагу вартаўніка і ўцячы дадому. Было цяжка, бо рызыкаваў уласным жыццём, але, ведаючы кожны куток кляштара і кожны выхад, я ўсё ж такі вырашыў любым коштам вырвацца з рук катаў. Я добра ведаў, што мяне чакае, ці куля ў лоб, ці вываз у глыб Расіі. Як пазней аказалася, пад сценамі кляштара некаторых зняволеных расстралялі, але невядома па якіх прычынах, магчыма толькі з-за таго, што яны былі палякамі. З дому на працягу тыдня я не выходзіў, папросту баяўся, бо ў першыя дні бальшавікі, раз'юшаныя супраціўленнем, праводзілі на вуліцах масавыя арышты моладзі і былых салдатаў. Самым жахлівым было тое, што арыштаваных без усялякага суда расстрэльвалі на месцы. Асабліва жахлівым месцам была Скідальская плошча, дзе расстрэльвалі школьнікаў і рабочую моладзь. Прозвішчы я не памятаю, але гарадзенцы не забудуць гэты дзень і прозвішчы загінуўшых абаронцаў роднага горада. У горадзе панаваў тэрор. Было дастаткова, каб адзін з мінакоў данёс міліцыянеру або якому-небудзь энкавэдысту, што той ці іншы з'яўляецца афіцэрам, паліцэйскім, стралком або страляў па войскам Чырвонай Арміі і г.д., [і] той адразу ж быў арыштаваны"[12].

У сваю чаргу Раман Хіркоўскі разам з некалькімі асобамі падчас баёў адступаў у кірунку Друскенікаў па Чыгуначнай вуліцы, па якой бегла шмат цывільнага насельніцтва. На гэтай вуліцы за казармамі 76 пяхотнага палка, на сметніку ён бачыў парэшткі прыкладна 10 артылерыстаў. Усе загінулі ад стрэлаў у патыліцу[13].

Паводле Люцыяна Вансовіча, баі за Горадню адбываліся да 23 верасня. Саветы ўжо занялі горад, але супраціўленне працягвалася. У г.зв. "Новай калоніі", за каталіцкімі могілкамі ў баку "Панямуні" знаходзілася група салдатаў, што працягвалі змаганне. "Энкавэдысты атачылі іх і ўсіх забілі, расстралялі каля 40 чалавек. Акрамя таго хапалі людзей на левым баку Скідальскай вуліцы, за

Сакрэтам"[14]. На "Сабачай горцы" аказаліся абаронцы, якія адступалі з "Сакрэту" па Скідальскай шашы. Там "іх дагналі энкавэдысты, але не толькі яны, а што было значна горш, казакі. Казакі шашкамі рубілі галовы і забівалі штыкамі"[15]. Арыштаваных таксама вывозілі ў ляскі "Сабачай горкі" і "Сакрэту", дзе расстрэльвалі. Вялікая група салдатаў, верагодна кавалерыстаў была расстраляная ў прыгарадзе Горадні, у Румлёва[16].

У 1940 г. Люцыян Вансовіч працаваў тэхнікам-інвентарызатарам у Ганёндзы. Складаў планы розных будынкаў. Падчас працы над планам школы да яго быў далучаны маёр-ветэрынар з палка кавалерыі. Вансовіч выехаў з Горадні ў школьнай форме. Маёр звярнуў увагу на гэтае адзенне і запытаў, што гэта за касцюм. Калі пачуў, што гэта школьны мундзір, заўважыў: "Ведаеш, калі мы адваёўвалі Горадню, на "Сабачай горцы" былі ў такіх самых мундзірах"[17].

Як ужо адзначалася, каля "Панямуні" была расстраляная група падхарунжых. Расстрэльвалі таксама каля Фарнага касцёла, у лясках "Сакрэту" і "Сабачай горцы", куды прывялі 20 гімназістаў, а магілкі зраўнялі з зямлёй[18]. Сведкам гэтага злачынства была Яніна Ленік: "Я сваімі вачыма бачыла, як каля Горадні, у ляску "Панямунь", ляжала шмат трупаў маладых падхарунжых і гімназістаў, якіх расстралялі за тое, што яна нібыта прымалі актыўны ўдзел у абароне Горадні"[19].

Пра месца экзекуцыі напісаў у сваіх успамінах Юзаф Рапуха: "26 верасня 1939 г. асабіста бачыў магілы масавага расстрэлу школьнай моладзі абодвух палоў, якія знаходзіліся на 4-м кіламетры дзяржаўнай дарогі Горадня – Індура, на правым баку дарогі на адлегласці 250 метраў. У гэтай магіле знаходзілася каля 20 чалавек"[20].

Інфармацыяй пра пакаранне падхарунжых падзяліўся таксама Браніслаў Даўгяла: "Тэрор праводзіў мясцовы камуністычны зброд, на чале якога стаяў нейкі Стакувіч, былы зняволены, асуджаны за камуністычную дзейнасць і пасаджаны ў гарадзенскую турму (больш як на 8 год). Каля 130 вучняў і падхарунжых былі расстраляныя па загаду Стакувіча. Гэту інфармацыю я атрымаў асабіста падчас размовы з ім. Не разумеючы, з кім ён размаўляе, Стакувіч з гонарам казаў пра свае ўчынкі"[21].

Казімір Стэмпень пасля заканчэння баёў бачыў на мурах, што атачалі казармы 76 пяхотнага палка, сляды куль. Яны ўказвалі на тое, што дзе-нідзе расстрэльвалі па аднаму чалавеку, але былі месцы,

дзе павінны былі расстрэльваць па 4-6 чал. Стэмпень лічыць, што там былі расстраляныя больш за 10 чал[22].

Тагачасная вучаніца Гімназіі Купецкага Яніна Маркоўская ў 1939 г. жыла на вул. Шчыгла недалёка ад казармаў 76 пяхотнага палка. Яна паведаміла, што Саветы вывелі пяцёх ці шасцёх афіцэраў з казармаў гэтага палка на вул. Нарбута і павялі іх праз вул. Ардона па вул. Касцюшкі да "ямаў", якія знаходзіліся каля завода кафлі Станіслававова. Адтуль перад вайной завод браў гліну. Там іх забілі стрэламі ў патыліцу. Я.Маркоўская чакала цэлы дзень на вуліцы Ардона. Калі раніцай наступнага дня яна вярнулася з іншымі людзьмі, то парэштkаў ужо не было. Яна ж бачыла, як на бульбяное поле вывелі афіцэра і хацелі забраць у яго зброю. Ён не аддаў, заявіўшы, што ў жывога не аднімуць, стаў на калені і памаліўся. Яго расстралялі. Таксама невядома, што сталася з парэшткамі. Саветы не хавалі злачынстваў. Яніна Маркоўская асабіста не ведала гэтых афіцэраў. Яна не магла назваць дакладныя даты забойстваў, але памятала, што ўсё адбывалася адразу пасля заканчэння абароны Горадні[23].

Фальварак "Панямунь" у верасні 1939 г. належаў сям'і Мар'яны Штукоўскай (у шлюбе Чарвецкай), якая дапамагала адступаючым салдатам. Яна ўспамінала: "Недзе пасля 20 верасня да нас пачалі прыходзіць людзі з чырвонымі стужкамі, якія шукалі польскіх афіцэраў і пагражалі нам. Прыходзілі ўначы. Адныя адыходзілі, іншыя прыходзілі і казалі, што канец кулакам і памешчыкам"[24]. Бацька Чарвецкай, Юзаф Штукоўскі, быў арыштаваны. Яго абвінавацілі ў тым, што хаваў польскіх афіцэраў. Такі ж лёс напаткаў і яе брата[25].

Гражына Ліпіньская ў першую ноч і наступны ранак пасля захопу Горадні Саветамі чула стрэлы. Яна не магла спаць і лічыла стрэлы, якія неслі смерць. Забойствы адбываліся не толькі ў горадзе, але таксама ў ваколіцах і ў вёсках. Ахвярамі былі землеўласнікі і работнікі гмінаў. Даносчыкамі былі бальшавіцкія агенты[26]. Яна прыгадвала: "Пасля таго, як савецкая армія заняла Горадню, з'явілася шмат агентаў і даносчыкаў, якія паведамлялі пра пункты супраціўлення. З гэтых дамоў Чырвоная Армія забірала палякаў і расстрэльвала іх на месцы, на вуліцы ці ў хаце. Праз тры дні пасля захопу горада Чырвонай Арміяй прыйшоў НКУС, які праводзіў масавыя экзекуцыі абаронцаў Горадні ў ляску "Сакрэт"[27].

Менавіта адтуль даносіліся серыйныя і адзіночныя стрэлы. Аднак Г.Ліпіньская не ведала ўсіх падрабязнасцей, звязаных з пакараннямі, не ведала дакладнай лічбы ахвяраў[28]. Яна назвала

толькі некалькі прозвішчаў забітых без суда. Гэта вучань гімназіі 16-цігадовы Мікалай Ванюкевіч, дэпутат Сейму Балондзь[29], настаўнік Леапольд Палкоўскі, Уладзіслаў Лапіч. Дадаткова яна паведаміла пра арыштаваных, якія Ваенным трыбуналам НКУС былі асуджаныя на смерць. Гэта настаўнік Баркоўскі, які быў закатаваны ў турме падчас следства, капітан Дэрынг (забіты ў Горадні ў лістападзе 1939 г.) і Эдмунд Раманоўскі (забіты адначасна), пажарнік Бранішлаў Мітраш і Антон Ратынін (расстраляныя 18 кастрычніка 1940 г.)[30]

Чэслаў Платакіс падчас баёў працаваў лекарам у гарадзенскім вайсковым шпіталі. Ягонае камандаванне адправілася ў Літву, дзе было інтэрнаванае. А вось, што адбылося з іншымі: "Савецкія афіцэры загадалі вайсковым лекарам выйсці і стаць у шэраг перад будынкам. Пачаўся кароткі суд. Гучала абвінавачванне – афіцэр, а ў след за гэтым – стрэл з пісталета. Ні ў чым не вінаваты лекар не мог нават крыкнуць з роспачы"[31]. Платакіс як падхарунжы стаяў апошнім у чарзе на расстрэл. Яго пашкадавалі. Саветы адхілілі ад працы з хворымі астатніх лекараў. Іх памясцілі на агароджанай тэрыторыі без ежы. Ежу прыносілі людзі і перадавалі праз медыцынскі персанал. Платакісу дапамог камісар шпіталя, габрэй, якога ён ведаў яшчэ па Вільні. Ён атрымаў пасведчанне, што нібыта дапамагаў параненым савецкім салдатам. Пасля прыбыцця савецкіх лекараў ён быў звольнены. Аўтар успамінаў лічыць, што такім чынам ён пазбег Катыні. У спісе катыньскіх ахвяраў ён знайшоў прозвішчы людзей, якія былі разам з ім у Горадні[32].

Кінааператар Аляксандр Бандарчук таксама належаў да медыцынскага персаналу і стаяў у агульным шэрагу каля сцяны. Ён успамінаў: "Перад намі паставілі два кулямёты. Пасля вобыску па загаду савецкага афіцэра нас адпусцілі і загадалі прыступіць да працы. 23 верасня мяне звольнілі са шпіталя і зняволілі ў турме. Прычынай было тое, што я арыштаваў трох камуністаў і перадаў іх паліцыі 16 верасня 1939 г. У выніку следства і складання абвінаваўчага акту мяне выслалі ў Расію"[33].

Інфармацыя, якая датычыць шпіталя, ёсць таксама і ў савецкіх дакументах. У адным з іх адзначалася, што палякі са шпіталю стралялі па чырвонаармейцам. Калі савецкія салдаты ўвайшлі ў шпіталь, то ўбачылі толькі лекараў у белых халатах. Іх прызналі замаскіраванымі афіцэрамі[34].

Гражына Ліпіньская бачыла целы забітых абаронцаў. Яны былі ў мундзірах вайскоўцаў, чыгуначнікаў, паліцэйскіх, але ў той групе

былі таксама целы цывільных. Саветы забіралі боты і абшуквалі кішэні. За выключэннем некалькіх чалавек забітых снарадам усе іншыя мелі агнястрэльныя і штыкавыя раны. Гражына Ліпіньская прыйшла да высновы, што параненых дабівалі, а над мёртвымі здзекаваліся. Яна спрабавала разам з іншымі знайсці якія-небудзь асабістыя дакументы гэтых 133 ахвяраў. Атрымалася распазнаць толькі некалькі асоб, пошукі далі слабыя вынікі. Саветы зрабілі гэта раней і больш прафесійна[35].

Мар’ян Уладзіслаў Навіцкі ў 1939 г. жыў у Пышках каля Горадні. Ён не памятаў дакладна калі, але ў верасні ён чуў стрэлы, якія даляталі з горада. Праз некалькі дзён бачыў звязаных дзяцей, якіх вялі па пясчанай дарозе з Пярэселкі ў кірунку беразняку: “Гэта маглі быць дзеці ва ўзросце 10-15 гадоў. Гэтыя групы налічвалі па 15-20 чалавек, а было іх некалькі. Кожную групу суправаджалі ўзброеныя савецкія салдаты, які былі вышэй іх на галаву. Быў пахмурны дзень. Я бачыў іх на адлегласці 100-150 метраў і дакладна не магу сказаць, як яны былі апранутыя, ці мелі мундзіры харцэраў. Магчыма, што мелі бо маці, якая іх таксама бачыла, сцвярджала, што вялі польскіх харцэраў. Вялі іх у кірунку да гары, якая называлася “Бярозавай”. Праз нейкі час адкуль пачуліся стрэлы. Харцэры не вярнуліся. Праз некалькі дзён я трапіў туды разам з групай польскіх дзяцей. Слядоў ад крыві і цел там ужо не было. Але на могілках былі свежыя пахаванні. Я чуў, што спрабавалі расстрэльваць гэтых харцэраў на тэрыторыі старога крэйдавага кар’ера ў раёне паміж дарогай у вёску Пышкі і дарогай на крэйдавыя горы і ў маёнтак Пышкі, але з-за занадта цвёрдай глебы пакаранні перанеслі на Бярозавую гару. Мне здаецца, што прах польскіх харцэраў спачывае там па сённяшні дзень, бо падчас нямецкай акупацыі дасталі толькі частку ахвяр. Я не ведаў тых расстраляных харцэраў”[36]. Мар’ян Навіцкі таксама паведаміў, што напрыканцы кастрычніка ці лістапада 1939 г. на тэрыторыі цэментнага завода на скрыжаванні Нёманскай і Рыбацкай вуліцаў былі расстраляныя пяць палякаў, напэўна былых салдатаў”[37].

Паблізу вёсцы Пярэселка жыла Юзэфа Аніська. Перад маёнткам знаходзіўся сасновы лясок, дзе таксама адбываліся расстрэлы. Юзэфа Аніська працавала ў полі і бачыла два адкрытыя грузавікі з людзьмі ў цывільным адзенні, якіх вязлі ў тым кірунку. Юзэфа Аніська не памятае колькі іх было[38]. У хуткім часе пачуліся стрэлы. У полі тады былі таксама іншыя людзі, а менавіта Францішак Кізукевіч, сваяк Юзэфы Аніська, які сказаў, што хоча даведацца, што там адбылося.

Ён пусціў каня ў той бок і пайшоў яго шукаць: "Калі ён пайшоў туды і сказаў, што ідзе па каня, то адзін з салдатаў загадаў яму адысці, бо застрэліць яго". Людзі ў вёсцы расказвалі, што ў тым беразняку было расстраляна шмат людзей, бо шмат грузавікоў праязджалі праз вёску ў лес. Яны вярталіся пустымі. Юзэфа Аніська яшчэ раней бачыла, як праз вёску ехаў грузавік, у якім везлі манашак і напэўна аднаго ксяндза ў чорным капелюшы. У навакольных лясах у той час знаходзілася войска, і там забаранялася знаходзіцца[39].

Сведкам таго, як людзей вазілі ў бок в. Пышкі, была таксама Алена Ставецкая: "21 верасня 1939 г., калі я выйшла на вуліцу, то ўбачыла, як энкавэдысты вялі трох мужчын, сярод якіх быў ксёндз. Іх вялі ў лес у Пышках на расстрэл, як казалі людзі, але, што сталася з імі, я не ведаю. Гэтыя мужчыны былі мне незнаёмыя"[40].

Ежы Гнядак распавёў, што каля мураў нямецкіх могілак Саветы расстралялі двух мужчын. Аднаго звалі Віктарам Валюкевічам, а прозвішча другога ён не прыпомніў[41].

Звесткі пра абаронцаў Горадні Саветы атрымоўвалі ад мясцовых камуністаў, звычайна габрэйскага паходжання, якія падчас баёў падтрымлівалі савецкія войскі. Рабочы Вацлаў Кучыньскі ўспамінаў: "Пакінутую ў горадзе дэмабілізаванымі польскімі салдатамі зброю і баепрыпасы выкарыстала набрыдзь, пераважна габрэйскага паходжання, якая ўзброілася і пачала стральбу па мясцоваму польскаму насельніцтву, як па цывільнаму, так і па салдатах. Вайскоўцы далі адпор… У гэты час Чырвоная Армія ўжо была паблізу. Польскія войскі, якія былі арганізаваныя спантанна, супраціўляліся акупацыі горада, у выніку чаго баі вяліся на працягу двух з паловай дзён. Саветы захапілі горад. А калі ўваходзілі ў яго, то іх віталі камуністычныя актывісты. Мясцовыя габрэі выдавалі савецкім уладам палякаў, якія ўдзельнічалі ў баях, і гэтых палякаў Саветы, звычайна, расстрэльвалі на месцы, без усялякага следства"[42].

Сярод арыштаваных апынуўся таксама Францішак Вітуль: "У кастрычніку [19]39 г. я быў арыштаваны НКУС... Мяне выдалі габрэі, калі горад быў заняты Саветамі, і абаронцы Горадні ўжо арыштаваны. Калі я стаяў у чарзе па хлеб, падышлі двое энкавэдыстаў разам з габрэйкай і арыштавалі мяне. Яна заявіла, што я забіў яе мужа за тое, што той кідаў гранаты ў польскую аўтамашыну. Але я яго не забіваў. Мяне абвінавацілі ў тым, што я падпальваў танкі і страляў у савецкіх салдатаў, якія прыйшлі вызваліць рабочы клас ад польскага капіталізму. Выклікалі на допыты па 2-3 разы за ноч.

Пракуроры слухалі мяне, казалі, што ведаюць пра маю невінаватасць і прапанавалі выдаць тых, хто насамрэч падпальваў танкі і забіваў габрэяў. Я не выдаваў, мяне білі, саджалі ў адзіночную камеру, аблівалі вадой. На кожным допыце былі розныя людзі: то мужчыны, то жанчыны"[43].

Праз 7 месяцаў справа Францішка Вітуля была скіравана ў суд. Працэс адбываўся ў Горадні. На лаве падсудных знаходзіліся таксама 9 пажарнікаў. Яны мелі адвакатаў, прызначаных уладамі. Сведкамі абвінавачвання былі габрэі, якія сцвярджалі, што пажарнікі зрывалі вывешаныя чырвоныя сцягі і збівалі габрэяў. Вынікі працэсу былі наступныя: чатырох абвінавачаных асудзілі на смерць, у т.л. і Вітуля. З асуджаных ён запомніў прозвішча каменданта пажарнай аховы Мікульскага[44], які, аднак, быў асуджаны на смерць завочна, бо яму ўдалося ўцячы ў Літву. Астатніх абвінавачаных пасадзілі ў турму. Габрэі сустрэлі прысуд апладысментамі. Двух пажарнікаў расстралялі. А справу Вітуля паўторна разглядзелі праз 4-5 месяцаў і прызналі яго невінаватым[45].

Працэс над пажарнымі прыгадала таксама Сюзанна Юдэйка. Яна адзначыла, што гэты працэс меў вялікі рэзананс у горадзе. Пажарнікі, сапраўды, напалохалі насосамі габрэйскіх баявікоў, якія стралялі па польскіх салдатах. Суд над імі працягваўся ад раніцы да самага вечара. Габрэі, якія знаходзіліся на Плошчы Свабоды (там адбываўся суд), крычалі, асуджаючы абвінавачаных і дамагаючыся іх пакарання[46].

Захаваліся савецкія дакументы, якія тычацца гэтага працэсу. Іх можна параўнаць з успамінамі, што дазваляе больш глыбока зразумець механізм функцыянавання савецкай дзяржавы. Акт абвінавачвання быў складзены пракуратурай Беластоцкай вобласці 22 красавіка 1940 г. Сярод 13 абвінавачаных быў Францішак Вітуль, сын Тамаша. Кіруючую ролю ў апісаных здарэннях следства прыпісала намесніку мэра горада Раману Савіцкаму і Аляксандру Мікульскаму, работніку суда і адначасна кіраўніку добраахвотнай пажарнай варты. Абодва збеглі ў Літву[47].

Трынаццаць асобаў былі абвінавачаныя ў тым, што "ў верасні 1939 г. за дзень да ўваходу ў горад Чырвонай Арміі яны прынялі актыўны ўдзел у акцыі пакарання тых, хто быў салідарны з савецкай уладай. Падчас гэтай акцыі было забіта 25 габрэяў, адбыліся пагромы, габрэяў збівалі, здзекаваліся над імі, а затым арыштавалі"[48]. Кожнаму з іх дадаткова былі прад'яўлены

канкрэтныя абвінавачванні. Францішка Вітуля вінавацілі падставе паказанняў Леі Пайгіны, якая заявіла, што яе муж дробны гандляр Гораднінай Аўсей Пайгін і сын Лёва былі забітыя ў сваім доме па вул. Мяшчанскай, 34. Забойства адбылося тады, калі Чырвоная Армія заняла прыгарад. Зрабіла гэта група з пяці карнікаў. У акце абвінавачвання сцвярджалася: “Устаноўлена, што сярод пяці членаў карнага атрада, якія забілі бацьку і сына Пайгіных, знаходзіўся салдат польскай арміі Францішак Вітуль, якога апазналі Пайгіна Лея і Пайгін Хомка”[49]. У выніку чатыры абвінавачаных (Юзаф Ратынін, Борух Кэршэмбэйн, Барыслаў Мітраш і Францішак Вітуль) атрымалі найвышэйшую меру пакарання – расстрэл, тры асобы былі асуджаныя на 10 гадоў, яшчэ тры – на 8, адна – на 6 гадоў зняволення, а дваіх прызналі невінаватымі[50].

У публікацыях, якія тычацца абароны Горадні, часта фігуруе асоба кіраўніка харцэраў і добраахвотнікаў Пятра Багуцкага. Ён быў арыштаваны 21 кастрычніка 1939 г. Ягоная дачка Аліна Адамская ўспаміналa: “Я, мама і брат сядзелі за абедзенным сталом, а жылі мы ў школе. Увайшоў бацька, спехам выклаў грошы з партфеля і сказаў, што яго выклікала Выбарачная Камісія. Праз прыадчыненыя дзверы ў школьны калідор я ўбачыла аднаго чалавека ў цывільным з чырвонай стужкай на руцэ. Пасля таго, як бацька выйшаў, маці загадала брату бегчы за бацькам. Праз якую хвіліну брат вярнуўся і сказаў, што ад бацькі не засталося і следу, падобна, што яго забралі на машыне. Бацька трапіў у гарадзенскую турму. Перадачу, адпраўленую ў снежні 1939 г., ён не атрымаў, бо быў вывезены ў Менск Літоўскі. Вярнуўся ён ужо на судовы працэс, які адбыўся ў канцы 1940 г., яго вінавацілі ў абароне Горадні”[51].

Як высветлілася пазней, Багуцкі быў арыштаваны спецыяльным аддзелам НКУС на падставе артыкула 64 Крымінальнага Кодэкса БССР. У прысудзе Судовай калегіі па справах пакарання Беластоцкага абласнога суда ад 15 кастрычніка 1940 г. Пётр Багуцкі быў асуджаны за тое, што “будучы варожа настроеным супраць савецкай улады і камуністычнай партыі, 20 верасня 1939 г. у званні паручніка падчас уваходу першага савецкага танка ў Горадню, ён арганізаваў групу з 50 узброеных чалавек, у т.л. былых афіцэраў і салдатаў Польскага войска, а таксама студэнтаў, супраць Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі, і дзеля захопу савецкага танку разам з узброенай групай з 50 чалавек абстраляў савецкі танк з вінтовак. Прыцягнулі таксама гармату, якая аказалася зламанай. Калі гэта высветлілася… Багуцкі,

як арганізатар контррэвалюцыйнай групы, набыў бензін і нафту і разліваў яе ў бутэлькі. Бензін і нафту ў бутэльках пачалі кідаць у танк, які загарэўся. У выніку танк згарэў, а яго экіпаж загінуў”[52].

Пётр Багуцкі атрымаў найвышэйшую меру пакарання – расстрэл з канфіскацыяй ўсёй маёмасці. Ён падаў апеляцыю. Мінікін, памочнік пракурора БССР, які выконваў абавязкі начальніка Аддзела судовага пакарання, рашэннем ад 23 кастрычніка 1940 г. яе адхіліў. Гэта рашэнне было пацверджана пракурорам БССР Ветравым[53].

Падобны лёс напаткаў і Уладзіслава Напартага, які быў арыштаваны 2 кастрычніка 1939 г. Яго абвінавацілі ў тым, што як камендант паліцэйскага ўчастка браў актыўны ўдзел у затрыманні асобаў, якія мелі камуністычныя погляды, а таксама, што ён разам з іншымі паліцэйскімі ўдзельнічаў у баях з Чырвонай Арміяй. На падставе артыкула 74 у сувязі з артыкулам 64 Крымінальнага Кодэкса БССР 10 кастрычніка 1939 г. ён атрымаў найвышэйшую меру пакарання – расстрэл з канфіскацыяй ўсёй маёмасці[54].

Па сённяшні дзень нічога невядома пра лёс многіх салдатаў, якія ўдзельнічалі ў абароне Горадні. Гэта датычыць, напр., Яна Лахана, які служыў у атрадзе сапёраў 29 батальёна. У верасні 1939 г. яго выклікалі ў войска. Дом ён пакінуў 9 верасня. У жонкі засталася толькі паштоўка, у якой ён паведаміў пра атрыманне вайсковай формы. З таго часу ніводная арганізацыя не здолела ўстанавіць яго далейшы лёс[55].

Большасць успамінаў пераканаўча даказваюць, што мясцовыя камуністы ў перыяд з 1939 па 1941 г. часта выкрывалі тых, хто паводле іх інфармацыі – часта недакладнай – удзельнічаў у абароне Горадні. Прыкладам могуць служыць успаміны Марыі Панцэвіч, якая перажыла жахі следства толькі таму, што яе агаварылі: “Мяне арыштавалі 29 сакавіка 1940 г. і пасадзілі ў гарадзенскую турму. 29 красавіка мяне вывезлі ў Расію, у турму ў Віцебску [...] У бруднай, душнай камеры з клапамі і вошамі заўжды сядзела не менш як 40 чалавек. Зняволенне не было ўжо такім страшным, нягледзячы на ўмовы існавання, як у гарадзенскай турме. Тут я была з людзьмі, там – адна.

Змучаная доўгім следствам, я вярталася ў камеру вельмі стомленая. Следства працягвалася 3 месяцы. Цягалі мяне на допыт і ноччу, і днём. Следства вялося традыцыйна – жорстка і абразліва. Калі я не хацела адказваць на іх нахабныя, неабгрунтаваныя

абвінавачванні, сыпаліся праклёны. Яны называлі прозвішчы сведкаў (канешне ж, габрэяў), якія нібыта ведалі мяне і сцвярджалі, што я рабіла ў той ці іншы дзень. Я звярнула іх увагу на тое, што яны не маюць права мяне праклінаць. Я іх папракала Канстытуцыяй Сталіна, у якой гаворыцца "аб роўнасці народаў". Яны мне адказвалі, што роўнасць гэта толькі паміж габрэямі, беларусамі і ўкраінцамі. Палякі выключаны. Паляк прызначаны для таго, каб цягацца па турмах, працаваць у лагерах. Што нас, палякаў, адстрэльваюць як сабак, каб раз і назаўжды "сабачае племя" перастала існаваць.

Аднойчы мяне выклікалі на допыт і заявілі, што ёсць сведка, які можа пацвердзіць, што 22 верасня 1939 г. бачыў мяне над Нёманам са зброяй у руцэ, нібыта я хацела страляць па Саветах. Я не ведала гэтага чалавека. Гэта быў нехта Каўфман[56], але яго прозвішча мне таксама ні аб чым не гаварыла. Я не магла яго абвергнуць. Калі ж сама абвінаваціла іх у хлусні і сказала, што нічога не скажу і не буду адказваць на іх нахабныя пытанні, следчы ўдарыў мяне ў твар. Яны пагражалі карцэрам і патрабавалі назваць прозвішчы афіцэраў ды іншых абаронцаў Горадні. Я маўчала. Трапіла ў карцэр, не адказаўшы ні на адно пытанне. Праз 10 дзён мяне выпусцілі ўжо амаль непрытомную (у мяне была тэмпература вышэй 40˚). Я прастудзілася, бо ў пограбе быў страшны холад, пачалося запаленне лёгкіх. Калі гаворка ідзе пра медыцынскую дапамогу, то яна была нікчэмная. Тры дні я ляжала ў камеры, не больш як тры разы мне ставілі банкі і далі некалькі таблетак аспірыну. Пасля хваробы мяне вывезлі ў Расію"[57].

Не ўсе абвінавачаныя перажылі следства, падчас якога прымяняўся фізічны гвалт. Трэба дадаць, што ўмовы ў савецкіх турмах не адпавядалі ніякім санітарным нормам. Браніслаў Юрскі быў арыштаваны ў ноч з 27 на 28 красавіка 1940 г. па абвінавачванні ў сяброўстве ў Польскай вайсковай арганізацыі. Калі яго прывезлі ў гарадзенскую турму, трапіў у камеру 47, якая мела плошчу 4 на 2,5 м. Там знаходзілася ўжо 35 чалавек. Ён прыгадваў, што "…Маральным кіраўніком зняволеных у камеры быў паручнік рэзерву Енджэеўскі, бацька шасці дзяцей і вайсковы інжынер. Прыбываючым, ён даваў парады, супакойваў найбольш усхваляваных. Следства і допыты, праз якія ён прайшоў, былі вельмі цяжкімі. Яго абвінавачвалі ў тым, што ён быў афіцэрам абароны Горадні. Некалькі следчых дапытвалі яго па 8 гадзін без перапынку, адначасова білі і прыніжалі: "Польскі бандыт, польская морда, польскі фашыст" і г.д."[58] Афіцэр не вытрымаў здзекаў. 2 траўня ў 3 гадзіны раніцы ён памёр у шпіталі ў Менску.

З 5 па 8 верасня 1993 г. у Горадні была праведзена эксгумацыя. Мясцовыя палякі знайшлі месца брацкай магілы на тэрыторыі маёнтка “Друцк”. Эксгумацыя праводзілася па даручэнні Савета аховы памяці змагання і пакутаў пры супрацоўніцтве з Саюзам палякаў у Беларусі. У сувязі з будаўніцтвам у гэтым месцы станцыі тэхабслугоўвання прадстаўнікі СПБ пачалі працаваць ва ўмовах кепскага надвор’я, выкарыстоўваючы экскаватар. Яны знаходзілі косці, рэшткі адзення, абсталяванне, боепрыпасы. На жаль, не рабілі ніякіх запісаў і фотаздымкаў, а таксама не даказалі, што мелі дачыненне да трох пахаванняў у адным месцы. Пазней да працы прыступіла каманда Саюза аховы памяці[59]. Вынікі працы былі падведзеныя ў “Папярэдняй справаздачы пра эксгумацыю і даследаванне знойдзеных парэшткаў на тэрыторыі Горадні ў Беларусі”[60].

З справаздачы вынікае, што былі знойдзеныя парэшткі не менш як 84 чалавек ва ўзросце 18-25 гадоў, а таксама невялікая колькасць парэшткаў ва ўзросце 40 гадоў. Паводле ацэнак спецыялістаў стан іх захавання указваў на тое, што з моманту пахавання павінна было прайсці не менш за 50 гадоў. Механічныя пашкоджанні касцей былі атрыманыя перад смерцю і падчас эксгумацыі. На касцях не было знойдзена слядоў ад снарадаў, толькі ў некаторых выпадках прычынай смерці маглі быць снарады, аднак гэтага нельга адназначна сцвярджаць. У скрынях з парэшткамі знаходзіліся таксама элементы абмундзіравання: скураныя боты афіцэраў, сапёраў, цывільнага насельніцтва, фрагменты паясоў, гузікі вайсковага тыпу з арлом у кароне 1936 г., рэшткі скураных торбаў з расфасаванымі патронамі розных відаў і калібраў, у т.л. і да вінтоўкі Мосіна, і іншыя рэчы (партфель з неразборлівымі дакументамі на расейскай мове, металічныя і драўляныя лыжкі, адзін расейскі вайсковы гузік, некалькі манет з царскім арлом). Падчас эксгумацыі таксама былі знойдзены металічныя шпоры і польскі вайсковы знак школы падхарунжых[61].

Па меркаванню кіраўніка эксгумацыі Браніслава Младзееўскага без доступу да архіваў нельга сказаць, хто апроч польскіх абаронцаў горада, быў пахаваны ў гэтым месцы. Пасля заканчэння даследаванняў каманда знайшла парэшткі яшчэ 11 асоб мужчынскага полу. Зробленыя пошукавыя траншэі больш нічога не выявілі[62].

У адным з інтэрв’ю генеральны сакратар Саюза аховы памяці Анджэй Пшэвознік заявіў, што “насамрэч гэтыя людзі памерлі

не ад куль. Ім на шыю завязалі конскую вупраж (па 4 чалавекі на 1 вупраж), а затым цягнулі і душылі”[63]. Таксама ён паведаміў пра існаванне яшчэ двух месцаў пахавання абаронцаў, якія немагчыма знайсці без доступу да савецкіх архіўных крыніц[64].

Асобай, якую СПБ накіраваў для ўдзелу ў эксгумацыі, быў Рышард Кацынэль. Ён сабраў успаміны мясцовых жыхароў, а таксама зрабіў схему месца расстрэлу. Сабраныя ўспаміны разам з перапіскай іх аўтараў з мясцовымі ўладамі былі далучаныя да матэрыялаў, сабраных Саюзам аховы памяці, а пазней у выглядзе ксеракопій былі перададзены Аддзелу камісіі па расследаваннях злачынстваў супраць польскага народа Інстытута нацыянальнай памяці ў Беластоку[65].

У верасні 1939 г. на вул. Прыгараднай жыла Леакадзія Блох, якая таксама была сведкам забойстваў. Яна мела 11 гадоў і бачыла ўсё, стоячы за плотам бліжэйшага дома. Забойства адбылося на самым беразе Нёмана, на ўзгорку за ярам, у канцы вул. Прыгараднай. Унізе была лесапільня, а каля яе на ўзгорку быў дом, якога ўжо няма. За плотам гэтага дома ў невялікім паглыбленні паставілі каля 40 чалавек, якіх прывялі з боку маёнтка “Друцк”. Гэта месца мела назву “Новая калонія”. Забойцамі былі некалькі салдатаў з кулямётамі, кіраваў імі, як яго называлі, “камісар”[66].

Мужчына па прозвішчы Халодны распавёў, як усё адбывалася: “Пасля таго, як перад салдатамі паставілі кулямёт, усё стала ясна. Двое спрабавалі кінуцца у Нёман з вышыні прыкладна 30 м, але не дабеглі. Кулі скасілі іх перад самым абрывам. Адказам на просьбы не забіваць былі кулі, крыкі і пагрозы. Чарга з кулямёта паклала ўсіх. Сярод іх быў адзін ці два афіцэры. Пасля расстрэлу *камісар* хадзіў і дабіваў параненых з рэвальвера. Потым загадаў мясцовым жыхарам засыпаць парэшткі пяском і ад’ехаў. Але вечарам, калі сцямнела, мужчыны перанеслі целы далей ад Нёмана, недзе на 300 м і пахавалі ў месцы, якое завецца “могілкамі”, дзе некалі кагосьці хавалі. Месца пахавання было пазначана камянямі і крыжам, які шматразова знішчалі бальшавікі”[67].

Гэнавэфа Дранчэўская, якая ў верасні 1939 г. жыла на той самай вуліцы, у лістападзе 1992 г. накіравала ліст у Гарадзенскі гарадскі Савет народных дэпутатаў, у якім сцвярджала, што, паводле аповедаў, “на беразе Нёмана былі расстраляныя 30 чал. Пасля расстрэлу целы ахвяраў засталіся на тым самым месцы. Некаторыя яшчэ рухаліся. Наступнага дня целы былі перанесены і пахаваны

жыхарамі на адлегласці прыкладна 300 м ад месца расстрэлу, там, дзе былі пахаваны польскія салдаты вайны 1920 г. Месца абклалі каменнем. Трое расстраляных былі толькі параненыя, і жыхары іх выратавалі. Хаваліся яны ў Вольгі Бахэнкавай, Гені Крупскай і адзін у нас, у Савіцкіх. Маці даглядала яго паўтары тыдні. Гэты чалавек быў праваслаўным беларусам… Ён быў паранены ў плячо. Казаў, што быў мабілізаваны ў Польскае войска яшчэ да вайны. Падлячыўся і паехаў дадому”[68].

У сабраных матэрыялах знаходзіцца ліст Казловай, якая таксама ў верасні 1939 г. жыла на вул. Прыгараднай. Паводле яе аповеду, польскія вайскоўцы “былі затрыманы савецкімі салдатамі, якімі кіраваў камісар, калі яны падыходзілі да Нёману. Польскіх салдатаў расстралялі. На наступны дзень пасля гэтай трагедыі я сустрэла сваю суседку, якая расказала, што жыхары знайшлі пасля пакарання некалькі жывых салдат і апекаваліся імі. Аднаго з іх разам з суседкай мы праводзілі на вакзал, бо ён не ведаў расейскай мовы. Паехаў цягнікам Горадня – Беласток. З размовы вынікала, што гэта быў афіцэр. Ахвяры пакарання былі пахаваны на беразе Нёману, у 300-400 м ад месца расстрэлу[69].

Успаміны сведчыць пра парушэнні Саветамі ўсіх міжнародных і маральных нормаў на занятай у 1939 г. тэрыторыі Польшчы. Забівалі без следства і суда. Віна ахвяраў была толькі ў тым, што яны былі польскімі салдатамі. Аналіз інфармацыі пра рэпрэсіі ў дачыненні да салдатаў і мірных жыхароў, якія самаахвярна баранілі Горадню, патрабуе адказу на галоўнае пытанне: чым былі прадыктаваны гэтыя рэпрэсіі? Якой была іх мэта? Адказ відавочны. Горадня была адзіным горадам, які ў верасні 1939 г. так доўга супраціўляўся часткам Чырвонай Арміі. Усе пазнейшыя рэпрэсіі былі помстай гораду, помстай людзям, якія мелі поўнае маральнае права бараніць родны дом, родны горад і Радзіму[70].

*Заўвагі*

[1] Krzysztoń J. Wielbłąd na stepie. Kryż południa, Warszawa, 1987, s. 28.

[2] Wspomnienia L.Wąsowicza, k. 1 (у архіве аўтараў).

[3] Напр., Dziennik działań bojowych Frontu Białoruskiego we wrześniu 1939 r., wstęp i opr. C. Grzelaka, Warszawa, 1998; Siemiński J. Grodno walczące. Wspomnienia harcerza, Białystok 1992; Szawłowski R. [pseud. K.Liszewski]. Wojna polsko-sowiecka 1939. Warszawa, 1996; Grzelak C. Kresy w czerwieni. Agresja Związku Sowieckiego na Polskę w 1939 roku. Warszawa, 1998.

[4] Centralne Archiwum Wojskowe Warszawa-Rembertów, VIII. 800.11.120. Wyciągi z dzienników bojowych 15 Korpusu Pancernego za okres 09.09-05.10.1939 r., k. 43.

[5] Kaczorowski B. Grodno. Historia i zabytki. Warszawa, 1981, s. 19; гл. таксама: Kowalski W. U polskich stoim granic... Opowieść o żołnierzach Baonu Kop „Sejny". Suwałki, 1998, s. 205.

[6] IPN, OKŚZpNP w Białymstoku, S 17/00/ZK, t. 3. Protokół przesłuchania świadka H. Zdunek, k. 589.

[7] Wspomnienia L.Wąsowicza.

[8] IPN, OKŚZpNP w Białymstoku, S 17/00/ZK, t. 3. Protokół przesłuchania świadka J. Oniśko, k. 297.

[9] Archiwum Wshodnie, Instytut Hoovera (далей: AW IH), sygn. 91.171. Wspomnienia K.Szlamka (у архіве аўтараў).

[10] Wspomnienia B.Hlebowicza (у архіве аўтараў).

[11] OKŚZpNP w Białymstoku, S 17/00/ZK, t. 3. Protokół przesłuchania świadka G.Lipińskiej, k. 7.

[12] Archiwum Akt Nowych, Instytut Hoovera – Korpus Andersa (далей: AAN IH-KA), mikrofilm sygn. HJ/IV/28, klatki 245-448. Wspomnienia R.Czuszala.

[13] IPN, OKŚZpNP w Białymstoku, S 17/00/ZK, t. 2. Protokół przesłuchania świadka R. Chirkowskiego, k. 382.

[14] Wspomnienia L.Wąsowicza.

[15] Ibidem.

[16] IPN, OKŚZpNP w Białymstoku, S 17/00/ZK, t. 4. Protokół przesłuchania świadka B. Horbaczewskiego, k.756, załącznik do protokołu przesłuchania świadka B. Horbaczewskiego, k. 761-762.

[17] Wspomnienia L.Wąsowicza.

[18] Kowalski W. Tak broniło się Grodno // Kontrasty, 1990, Nr 1, s. 25.

[19] Biblioteka KUL. Lenik J. Rkps 1679, k. 17.

[20] AW IH, sygn. 91.171. Wspomnienia J.Rapuchi.

[21] AW IH, 5642. B. Dowgiałło, k. 6-7.

[22] IPN, OKŚZpNP w Białymstoku, S 17/00/ZK, t. 1. Protokół przesłuchania świadka K. Stępnia, k. 14.

[23] Wspomnienia Janiny Markowskiej (у архіве аўтараў); IPN, OKŚZpNP w Białymstoku, S 17/00/ZK, t. 4. Protokół przesłuchania świadka J. Markowskiej, k. 651.

[24] AW, II/1262/Zkw. M. Czerwiecka, k. 1-2.

[25] Ibidem.

[26] Lipińska G. Jeśli zapomnę o nich... Paryż, 1988, s. 30-31.

[27] IPN, OKŚZpNP w Białymstoku, S 17/00/ZK, t. 1. Protokół przesłuchania świadka G.Lipińskiej, k. 6.

[28] Ibidem, k. 6.

[29] Ежы Боландзь быў забіты мясцовымі камуністамі 21 верасня 1939 г. у Зэльве (гл. Filipowicz M. Zbrodnia w Zelwie // Biuletyń IPN. 2004, Nr 12).

[30] IPN, OKŚZpNP w Białymstoku, S 17/00/ZK, t. 1, Protokół przesłuchania świadka G. Lipińskiej, k. 9.

[31] Płatakis Cz. Relacja spisana przez E.Jozefowicza ze zbiorów B.Horbaczewskiego // Pismo K.Stępnia z dn. 17 stycznia 2001 r. (у архіве аўтараў).

[32] Ibidem.

[33] Biblioteka KUL. A. Bondarczuk. Rkps 1679, k. 12.

[34] Agresja sowiecka na Poslkę w świetle dokumentów 17 września 1939, t. 3. Działania wojsk frontu Białoruskiego. Warszawa, 1995, s. 278.

[35] Wspomnienia G.Lipińskiej, k. 38-40.

[36] IPN, OKŚZpNP w Białymstoku, S 17/00/ZK, t. 1. Protokół przesłuchania świadka M.W. Nowickiego, k. 150-151.

[37] Ibidem.

[38] Wspomnienia J.Oniśko., c. 285-286.

[39] Ibidem.

[40] IPN, OKŚZpNP w Białymstoku, S 17/00/ZK, t. 4. Protokół przesłuchania świadka H.Stawieckiej, k. 745.

[41] Wspomnienia J.Gniadka (у архіве аўтараў).

[42] Archiwum Akt Nowych, Instytut HOOvera – Ministerstwo Informacji i Dokumentacji (IH-HJ/MID), mikrofilm 249, klatka 627.

[43] IPN, OKŚZpNP w Białymstoku, S 17/00/ZK, t. 1, Protokół przesłuchania świadka F.Witula, k. 54.

[44] Гаворка ідзе пра бацьку Люцыі Грабоўскай Аляксандра Мікульскага, які перад вайной працаваў у муніцыпалітэце Горадні, быў старшынём Бюджэтнага камітэту і кіраўніком кола ветэранаў легіёнаў. Грабоўская помніла, як бацька падчас акупацыі тайна наведваў яе ў Парэччы, дзе яна тады жыла, прыязджаючы з Літвы (Успаміны Л.Грабоўскай ад 15 снежня 2000 г. Захоўваюцца ў архіве аўтараў). Мікульскі, фактычна, не быў тады асуджаны, а турэмнае зняволенне для іншых не было занадта цяжкім.

[45] Wspomnienia F.Witula, k. 54.

[46] IPN, OKŚZpNP w Białymstoku, S 17/00/ZK, t. 2, Załącznik do protokołu przesłuchania świadka Alina K., k. 337.

[47] Gnatowski M. Radzieckie dokumenty o represjach za stłumienie komunistycznych rebelii w Skidlu i Grodnie we wrześniu 1939 r. // Studia Podlaskie. T. XI. Białystok, s. 307.

[48] Ibidem, s. 320.

[49] Ibidem, s. 310.

[50] Ibidem, s. 327-328.

[51] IPN OKŚZpNP w Białymstoku, S 17/00/ZK, t. 4, Załącznik do protokołu przesłuchania śwadka A.Adamskiej, k. 700.

[52] Ibidem, t. 15. Wyrok Kolegium Sądowego do spraw karnych Białostockiego Sądu Obwodowego z dn. 15 X 1940 r., k. 2882-2883

[53] Ibidem, Orzeczenie z dn. 23 X 1940 r. Pomocznika Prokuratora BSRR, pełniącego obowiązku Naczelnika Wydziału Karno-Sądowego Minikina, k. 2884-2885.

[54] Ibidem, Wyrok Nr 00121 Trybunału Wojskowego 11 Armii w Grodnie z dnia 10 X 1939 r. K. 2887. Нельга пагадзіцца з рашэннем пракурора Гродзенскай вобласці ад 28 траўня 1996 г., які сцвярджаў, што паколькі абвінавачаны

прызнаўся ў прад'яўленых абвінавачваннях, няма падставаў, каб, кіруючыся артыкуламі 4 і 8 пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 6 траўня 1991 г. "Аб рэабілітацыі ахвяр палітычных рэпрэсій 20-80 гг. у Рэспубліцы Беларусь", адмяніць прысуд па справе Уладзіслава Напартага.

[55] Лахан Ф. Чакаю больш за 55 гадоў // Głos znad Niemna. 1995, Nr 1, s. 1.

[56] У міжваенны перыяд у Горадні жыў вядомы дзеяч камуністычнай партыі Заходняй Беларусі Бенжамін Кауфман (гл. Archiwum Państwowe w Białymstoku, Urząd Wojewódzki Białostocki 1920-1939, sygn. 60, Miesięczne sprawozdanie sytuacyjne z zakresu bezpieczeństwa publicznego, ruchu wywrotowego i ruchu zawodowego 1931 r., k. 15).

[57] AAN, IH-KA, mikrofilm sygn, HJ/IV/48, Relacja B. Jurskiego, k.360.

[58] Ibidem, mikrofilm sygn, HJ/IV/48, Relacja B. Jurskiego, k. 360.

[59] Młodziejowski B. Przywracanie pamięci o obrońcach Grodna z 20-22 września 1939 r. // Palestra. 1993, Nr 11, s. 77.

[60] IPN OKŚZpNP w Białymstoku, S 17/00/ZK, t. 3. Sprawozdanie wstępne z czynności ekshumacyjnych i badań wydobycia szczątków w Grodnie (Białoruś) we wrześniu 1939 r., k. 418-420.

[61] Młodziejowski B. Przywracanie pamięci..., s. 77-79.

[62] Ibidem, s. 79.

[63] Zambrowski A. Niebezpiecznie było być Polakiem. // Weteran. 2000, Nr 954, s. 8.

[64] Ibidem, s. 8.

[65] Гл. таксама: Kacynel R. Mówi do nas Druck // Goniec Kresowy. 1993, Nr 2, s. 6-11.

[66] IPN OKŚZpNP w Białymstoku, S 17/00/ZK, t. 3, k. 430.

[67] Ibidem, k. 519.

[68] Ibidem, k. 427.

[69] Ibidem, k. 435.

[70] Grzelak C. Kresy w czerwieni..., s. 352.

**Вольга Грамыка (Гродна)**

## Факультатыўны курс “Гродназнаўства” ў школах горада: да праблемы выкладання

Факультатыў па курсу “Гродназнаўства” шукаў сваё месца ў гродзенскіх школах доўгі час. Нягледзячы на тое, што краязнаўства ацэньвалася як моцны выхаваўчы сродак, гурткі і факультатывы дадзенай накіраванасці існавалі толькі ў некаторых навучальных установах. Звязана гэта было з недастатковай распрацаванасцю курса, з неабходнасцю складання ўласнай праграмы, а таксама з тым, што даводзілася доўга і руплiва збіраць матэрыялы, вышукваць артыкулы і публікацыі дакументаў.

Але сёння назіраецца іншая карціна. Факультатыў па азначанаму курсу рэкамендавана ўвесці ва ўсіх школах і гімназіях горада. Прапанаваная праграма курса “Гродназнаўства”, распрацаваная кандыдатам гістарычных навук Віталіем Карнелюком і прафесарам, доктарам гістарычных навук Вячаславам Шведам. Яна была зацверджаная ў 2009 г. Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь.

Праграма прадугледжвае 51 гадзіну заняткаў, з іх – 7 практычных. Але арыентавана гэтая праграма на X – XI класы. Яе стваральнікі зыходзілі з таго, што вучні ўжо маюць агульнае ўяўленне аб гістарычным працэсе аж да сённяшняга моманту. У той жа час інтарэс да вывучэння гісторыі роднага горада праяўляецца ў вучняў як адзін з першых асэнсаваных інтарэсаў. Пры тым неабавязкова гэта вучні з накіраванасцю ў гісторыю наогул. Вельмі часта такі інтарэс прысутнічае ў тых, хто паглыблена вывучае біялогію або матэматыку. Для іх “Гродназнаўства” не з’яўляецца абавязковым накірункам. Гэта хутчэй сфера адпачынку, хобі, а таксама

прастора дадатковага развіцця сваёй асобы. Такі інтарэс вельмі важна падхапіць і замацаваць, каб ён не абарваўся з атрыманнем вучнямі адказаў на існуючыя пытанні, а ставіў перад імі новыя праблемы, вабіў нязведанымі таямніцамі. Таму лічу неабходным распрацаваць праграму курса “Гродназнаўства” для кожнай паралелі ў адпаведнасці с псіхаэмацыянальнымі асаблівасцямі ўзросту вучняў і тымі ведамі, якімі яны ўжо валодаюць ці атрымаюць у гэтым навучальным годзе.

Магчыма, мае сэнс сцвярджэнне, што факультатыў рацыянальна ўводзіць з 6 класа, калі пачынаецца вывучэнне гісторыі Беларусі, але на маю думку, вучні 5 класаў больш эмацыянальна раскрытыя для новых ведаў і дысцыплін. І пісьменна распрацаваная праграма, прадуманыя формы і прыёмы заняткаў (гульні, вандроўкі, экскурсіі і г.д.) за навучальны год 5-га класа створаць у вучняў той пласт зацікаўленасці, які забяспечыць трывалы інтарэс да курсу ў наступныя гады. Такім чынам, настаўнікам, якія жадаюць займацца правядзеннем факультатыва не адзін года, трэба мець на ўвазе, што праграму неабходна вельмі грунтоўна перапрацаваць і істотна дапоўніць.

Гэта не ўяўляе вялікай праблемы з улікам той вялікай колькасці літаратуры па гісторыі горада, якую мы маем сёння. У першую чаргу звярну ўвагу, што спіс літаратуры, якой можна карыстацца пры падрыхтоўцы, рэкамендаваны ў вышэйазначанай праграме па курсу “Гродназнаўства”. Там прапануецца 70 пазіцый. Гэта энцыклапедычныя даведнікі, нарысы, артыкулы, манаграфіі беларускіх даследчыкаў Алеся Госцева, Вячаслава Шведа, Ігара Трусава, Алеся Краўцэвіча, Юрыя Гардзеева, Юрыя Кішыка, Андрэя Чарнякевіча, Андрэя Вашкевіча, Валерыя Чарапіцы ды іншых аўтараў і аўтарскіх калектываў. Акрамя таго за 2011 і 2012 гады выйшлі і працягваюць выходзіць кнігі серыі *НгопоГродна*, прысвечаныя малавядомым або забытым старонкам гісторыі нашага горада. Яны ўтрымліваюць багаты архіўны і ўнікальны графічны матэрыял. Кнігі насычаныя фотаздымкамі прываблiваюць вучняў, вызываюць высокую цікаўнасць, і тэматыка гэтых невялікіх кніг сапраўды захоплівае навучэнцаў. Сярод аўтараў гродзенскія краязнаўцы Віктар Саяпін і Ігар Трусаў.

Са сваёй практыкі падрыхтоўкі да заняткаў адзначу, што каштоўным матэрыялам з’яўляюцца зборнікі матэрыялаў навуковых канферэнцый (рэгіянальных, рэспубліканскіх, міжнародных), прысвечаных Гродна і Гродзеншчыне, Заходняму рэгіёну краіны, праблемам гісторыі Беларусі. Гэтыя матэрыялы дазваляюць сачыць за сучаснымі

поглядамі на праблемы, за новымі даследаваннямі, дазваляюць арыентаваць вучняў на пошук. Зборнікі можна знайсці ў інтэрнэце.

Вялікую ролю ў фактагалагічным і ідэйным напаўненні курса "Гродназнаўства" адыгрываюць адпаведны дапаможнік для універсітэта пад рэдакцыяй Карнелюка В.Р., Шведа В.В. 2009 г. і ягоная версія для школьнікаў, якая выйшла ў знакамітай серыі "Гарадзенская бібліятэка" ("Гродназнаўства. Гісторыя еўрапейскага горада", 2012). Выданне, сапраўды, арыентавана на маладых навучэнцаў. Апроч аўтарскіх тэкстаў тут сабраныя дадатковыя матэрыялы, фрагменты дакументаў, цікавыя факты графічна аддзелены ад галоўнага тэксту, разбітага на параграфы, прыгожа аформленыя і таму прывабліваюць вучняў, выклікаюць інтарэс нават, калі навучэнцы толькі перагортваюць дзеля цікаўнасці падручнік. Афармленне падручніка захоплівае і прымушае ўчытвацца. Кніга з'явілася ў красавіку гэтага года, але яна настолькі ўдала аформлены, напоўнена такім каштоўным матэрыялам, што зацікавіла вельмі шырокія колы гродзенскага грамадства. Падручнік шукаюць, набываюць не толькі настаўнікі, выкладчыкі і навучэнцы, але і проста жыхары нашага горада. Канешне, гэта заслуга аўтараў гэтага выдання гродзенскіх краязнаўцаў Госцева А., Дабрыян А., Карнелюка В. (рэдактар), Марозавай С., Чарнякевіча А., Шведа В. (рэдактар), якія паспяхова шмат гадоў займаюцца вывучэннем і папулярызацыяй гісторыі Гродна. Трэба адзначыць, што гэтыя навукоўцы садзейнічаюць і развіццю краязнаўчай навукі на розных узроўнях сістэмы адукацыі ў нашым горадзе. Вялікая роля ў развіцці школьнага краязнаўства належыць Алесю Госцеву і Віталію Карнелюку, якія пачыналі гэтую працу і працягваюць адпаведна ў ліцэі № 1 і гімназіі № 1 г.Гродна.

Хацелася б адзначыць выключную ролю ў выкладанні курса "Гродназнаўства" Гродзенскага дзяржаўнага абласнога Палаца творчасці дзяцей і моладзі. Яшчэ ў 1997 г. Аддзелам дзіцячых арганізацый быў створаны краязнаўчы праект "Я этим городом храним". Праект уключае краязнаўчую міжшкольную гульню і падрыхтоўчую працу. Гульня з'яўляецца моцным стымулам для дзяцей як самастойна набываць веды пра Гродна, так і быць актыўнымі на занятках па "Гродназнаўству". Шмат гадоў паспяхова кіруе гэтым праектам метадыст аддзела Таццяна Еўдакімава. Дзякуючы яе плённай працы колькасць каманд-удзельніц з кожным годам расце. А для настаўнікаў, якія выкладаюць факультатыў, выключная важная

дапамога Таццяны Анатольеўны ў арганізацыі экскурсій, цікавых сустрэч і тэматычных заняткаў па просьбе выкладчыкаў.

Школьнае краязнаўства мае мэтай садзейнічаць духоўна-каштоўнаснай і практычнай арыентацыі вучняў, сацыяльнай адаптацыі. Факультатыў "Гродназнаўства" дае магчымасць вучням не толькі пазнаёміцца з цікавымі старонкамі гісторыі свайго горада і лёсам яго жыхароў, але і адчуць сябе гродзенцамі, землякамі выдатных, знакамітых і не вельмі знакамітых, але адданых сваёй зямлі людзей.

Дачыненне да гісторыі свайго горада выхоўвае ў іх гонар за свой край. Гэта я магу адзначыць не тэарэтычна, а як практык, назіраючы за сваімі вучнямі. Веданне цікавых момантаў, фактаў не проста пашырае іх кругагляд, але і напаўняе гонарам, асэнсаваннем важкасці ведаў, носьбітамі якіх яны з'яўляюцца. Як вынік, разам з гэтымі якасцямі фарміруецца і пачуццё адказнасці за спадчыну горада, за яго лёс, за яго прызнанне і месца ў Рэспубліцы, у свеце.

Факультатыў "Гродназнаўства" паскарае складванне ў вучняў менталітэту гродзенца. Своеасаблівасць гэтага моманту ў тым, што тып асобы гродзенца складваецца пад уплывам гістарычных падзей, якія адбыліся на нашай тэрыторыі. Горад, які не быў сталіцай, быў прысутны ў лёсавызначальных момантах гісторыі: збор Вітаўтам войскаў Вялікага Княства Літоўскага для паходу на Мальбарк напярэдадні Грунвальдскай бітвы, дзейнасць выдатнага караля Стэфана Баторыя, другі падзел Рэчы Паспалітай. Гродна становіцца ўзорам развіцця для цэлага рэгіёну ў часы Антонія Тызенгаўза. Яго-ныя жыхары паказваюць незалежнасць учынкаў, мыслення пад час паўстання Тадэвуша Касцюшкі, вайны 1812 года. Прыкладам грамадскага подзвігу з'яўляюцца дзеянні такіх гродзенцаў як Ядкоўскі, Каханоўскі, Жыўна.

Гэтыя веды ставяць перад навучэнцамі пытанне аб ролі ў гісторыі звычайнага чалавека. У гэтым і асаблівасць менталітэту гродзенцаў: адказнасць за свае ўчынкі, уласны лёс, лёс свайго горада, асэнсаванне іх важнасці, нягледзячы на тое, якое месца ў грамадстве займае чалавек.

Таксама неабходна адзначыць, што курс "Гродзназнаўства" павінен весці педагог, які сам захоплены гісторыяй горада, натхнёны яго спадчынай, багаццямі, прыгажосцю, таямніцамі. Менавіта такі настаўнік найбольш жадае падзяліцца сваімі ведамі, сваёй любоўю з навучэнцамі. Акрылены сваімі пачуццямі да роднага горада, ён можа заразіць цікаўнасцю, узбудзіць дапытлівасць у вучняў, выхаваць

гродзенцаў. Калі прыпомніць адну з сучасных педагагічных задач: фарміраванне асобы адказнай перад сваёй традыцыйнай культурай, асобы, якая захоўвае гістарычную памяць і беражліва адносіцца да свайго краю, яго гісторыі, культуры, прыродзе, - можна адзначыць, што факультатыў "Гродназнаўства" дазваляе паспяхова вырашаць гэтыя складаныя педагагічныя задачы.

Акрамя вышэйазначанага "Гродназнаўства" адыгрывае станоўчую ролю для выкладчыкаў гісторыі і тым, што ў настаўніка фарміруецца актыў, які, дзякуючы матэрыялам курсу, ужо падрыхтаваны для правядзення ўрокаў па тэме "Наш край". Гэта дазваляе разнастаіць формы урока, з накіраванасцю на працу саміх вучняў, зрабіць заняткі больш цікавымі, неардынарнымі і таму больш запамінальнымі для вучняў.

Хацелася б адзначыць, што "Гродназнаўства", на мой погляд, павінна заставацца на ўзроўні факультатыва, а не абавязковага прадмету. Добраахвотнасць курса дазволіць, як і раней, успрымаць вучнямі факультатыў як самастойны інтарэс, уласны выбар, што павышае эфектыўнасць засваення матэрыялу. Гэта дапаможа настаўніку абудзіць сапраўдны інтарэс да курса. І колькасць слухачоў факультатыва будзе паказчыкам паспяховасці працы самога настаўніка, што стымулюе пошук больш разнастайных форм і прыёмаў яго працы.

На занятках па "Гродназнаўству" спалучаюцца разнастайныя формы і прыёмы работы: расказ настаўніка, работа з дакументамі, паведамленні вучняў, заняткі на мясцовасці, каля помнікаў, вывучаемых аб'ектаў, прагляд відэафільмаў, наведванне музеяў, выставаў, сустрэчы з дзеячамі гродзенскай культуры, экскурсіі.

Вучэбная дысцыпліна, сапраўды, дазваляе разгарнуцца настаўніку на ўсю шырыню яго педагагічнай творчасці. І дзеці з ахвотай падтрымліваюць гэтую дзейнасць, з задавальненнем прымаюць у ёй удзел. На факультатыве не бывае праблем з вывучэннем дадатковага матэрыялу, падрыхтоўкай паведамленняў. Вучні з азартам выконваюць заданні, асабліва, калі яны носяць характар спаборніцтва. Таму адна з самых распаўсюджаных формаў, якая найбольш часта выкарыстоўваецца, гэта гульня. Гульня не замяняе ўсе іншыя формы работы, яна разбаўляе працу і той жа час садзейнічае лепшаму засваенню матэрыялу. Напрыклад, у якасці дамашняга задання можна раздаць старыя фотаздымкі Гродна і паставіць задачу: адшукаць гэтыя мясціны ў сучасным горадзе, зрабіць фотаздымак

у якасці доказу. Дзеці падхопліваюць гэтую гульню, і атрымліваецца, што яны працуюць не толькі з фотаздымкам як з крыніцай, але і вывучаюць сучасны горад, прасочваюць дынаміку яго развіцця.

Вельмі падабаецца вучням і наступная гульня, якая адначасна дазваляе трохі адпачыць падчас заняткаў, калі дзень выдаўся вельмі складаны, і дае стымул да самастойнага пошуку ведаў: на карце горада (лепш выкарыстоўваць турыстычную, маляўнічую карту) выбіраем адну з цэнтральных вуліц. Вучні дзеляцца на каманды і кожная каманда па чарзе называе нейкія гістарычныя мясціны, будынак на гэтай вуліцы і дае аб іх звесткі. На карце выстаўляюцца фішкі каманд. Чыіх фішак больш, той і пераможца. Гэтая гульня праходзіць цікава, як непасрэдна на карце, тае і ў мультымедыйным варыянце з віртуальнымі фішкамі. Так як гэтая гульня традыцыйная, вучні назапашваюць для яе веды ўвесь час, фарміруюць уласныя зборы ведаў па Гродна і Гродзеншчыне.

Важным аспектам на занятках факультатыва з'яўляецца ўвага настаўніка да магчымасцей вучняў. Прычым маюцца на ўвазе не інтэлектуальныя і псіхаўзроставыя  асаблівасці, на якія настаўнік-прафесіянал заўсёды арыентуецца. Размова ідзе аб паважлівым стаўленні да вучня як самастойнай асобы, са сваім вольным часам, занятасцю, інтарэсамі і накіраванасцю, які вылучыў свой час (у сучасным грамадстве гэта вялікая каштоўнасць) на гэты факультатыў. Гэта галоўны прынцып адносінаў настаўніка да сваіх навучэнцаў на занятках факультатываў па выбару. Партнёрскія адносіны, дэмакратычныя прынцыпы, якія падымуць асобу вучня на ўзровень настаўніка, забяспечаць поспех у выкладанні "Гродзназнаўства" ў школе.

# З успамінаў Баляслава Грабінскага (1899-1991)

***Баляслаў Грабінскі (1899-1991)*** *– вядомы дзеяч беларускага руху ў Заходняй Беларусі ў міжваенны перыяд. Ён быў намеснікам старшыні Беларускага навуковага таварыства, адным з кіраўнікоў Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі і належаў да групы заснавальнікаў Беларускага Інстытута гаспадаркі і культуры. Пры гэтым паспяхова закончыў медыцынскі факультэт Віленскага універсітэту імя Стэфана Баторыя, меў уласную практыку як дантыст. Падчас Другой сусветнай вайны Б.Грабінскі ўваходзіў у склад Беларускага нацыянальнага камітэту ў Вільні.*

*Пасля вайны ён эмігрыраваў у ЗША, дзе спалучаў лекарскую працу з актыўнай грамадскай дзейнасцю ў беларускіх арганізацыях. Уваходзіў у Раду БНР, быў сябрам Беларускага Інстытуту навукі і мастацтва, сябрам Беларуска-Амерыканскага згуртавання.*

*Ягоны "беларускі шлях" пачынаўся ў Горадні. У 1911 г. Баляслаў Грабінскі стаў вучнем гарадзенскай гімназіі і адразу ж уступіў у Гурток беларускай моладзі (1909-1914), якім, фактычна, і распачыналася беларускае Адраджэнне ў Горадні. Для многіх яго сяброў Гурток стаўся той падзеяй, якая вызначыла ўсё далейшае жыццё.*

*Пачатак Першай сусветнай вайны прывёў да ліквідацыі Гуртка. Далейшыя ваенныя і палітычныя падзеі, варожае стаўленне савецкіх ідэолагаў да беларускага нацыянальнага руху прывялі за забыцця гэтай цікавай старонкі гарадзенскай гісторыі.*

*У пэўным сэнсе Гурток вярнулі з небыцця ўспаміны Зоські Верас (Людвікі Сівіцкай) (1892-1991). Менавіта яна на старонках "Беларускага календара" ў Беластоку (1981) упершыню распавяла пра ягоную дзейнасць. Гэтая публікацыя падштурхнула Баляслава Грабінскага да ўласнага аповеду пра Гурток і ягоных сяброў. У лісце да Зоські Верас ад 17 лютага 1988 г. ён прыгадаў, якое моцнае ўражанне зрабіла на яго публікацыя ў беластоцкім беларускім выданні і адзначыў уласнае імкненне распавесці пра Гурток усім "сьведамым беларусам, разсеяным па ўсяму сьвету". Яго ўспаміны былі апублікаваныя ў газеце "Беларус" (Нью-Ёрк) у 1987 г. (№№ 337 і 338).*

*На старонках альманаха “Горад святога Губерта” ўжо друкаваліся ўспаміны Зоські Верас (Людвікі Сівіцкай) (1892-1991) пра Гарадзенскі гурток (Горад святога Губерта. Выпуск першы. – Сейны, 2002. С. 87-95). Адчуваючы актуальнасць праблематыкі беларускага Адраджэння для сучаснай Гарадні і яе жыхароў, рэдакцыя вырашыла працягнуць гэтую тэму і пазнаёміць чытачоў таксама з успамінамі Баляслава Грабінскага. У адрозненні ад ранейшых публікацый Б.Грабінскі не толькі распавядае пра дзейнасць гурткоўцаў, але таксама дае каштоўную інфармацыю пра тое, як паступова пашыралася беларуская нацыянальная свядомасць, наколькі складаным быў працэс яе пранікнення ў публічную прастору, дзе дамінавалі або “польская”, або “руская” ідэнтычнасці...*

*У другой палове 80-х гг. падчас апошняй савецкай “адлігі” Зоська Верас і Баляслаў Грабінскі аднавілі кантакты. У адным з лістоў да сваёй віленскай сяброўкі Б.Грабіньскі прыгадаў гарадзенскі перыяд свайго жыцця і постаць выкладчыка гісторыі Гарадзенскай мужчынскай гімназіі Яўстафія Арлоўскага (1863-1913). Я.Арлоўскі па праву лічыцца адным з пачынальнікаў навуковага вывучэння мінулага Гарадні. Быў сябрам Гарадзенскага царкоўна-археалагічнага камітэту, а таксама Паўночна-Заходняга аддзелу Рускага імператарскага геаграфічнага таварыства. Менавіта ён насуперак меркаванням класікаў расейскай гістарыяграфіі Мікалая Карамзіна і Уладзіміра Салаўёва даказаў тоеснасць губернскай Гарадні з летапісным Гарадзенам (Гародняй). Аўтар кніг “К истории народного образования в Гродненской губернии” (Гродно, 1889), “Исторический очерт Гродненской гимназии” (Гродно, 1901), “Гродненская губерния в 1812 г.: исторический очерк” (Гродно, 1912) ды іншых. Найбольш вядомай ягонай працай застаецца “Гродненская старина” (ч. 1, 1910), якая стала першай спробай храналагічнага прадстаўлення ўсёй мінуўшчыны горада над Нёманам. У працы відавочныя ўплывы канцэпцыі “заходнерусізму”, тым не менш багаццем факталагічнага матэрыялу і аўтарскім замілаваннем гісторыі Гарадні яна выгодна адрознівалася ад многіх пазнейшых версій гарадзенскай гісторыі, асабліва пасляваеннага савецкага перыяду.*

*Увазе чытача прапануецца фрагмент ліста Б.Грабінскага да Зоські Верас ад 17 лютага 1988 г. Ліст быў перададзены аўтару гэтых радкоў Зоськай Верас. Зараз арыгінал знаходзіцца ў фондах гарадзенскага Музея Максіма Багдановіча. Публікацыя адбываецца на падставе ксеракопіі.*

*Успаміны друкуюцца з захаваннем граматычных асаблівасцяў арыгіналу і з нязначнымі зменамі ў пунктуацыі, якія адпавядаюць патрабаванням беларускай мовы. Купюры ў тэксце ліста пазначаныя [...]. Усе вылучэнні аўтарскія.*

*Падрыхтоўка да публікацыі і заўвагі Алеся Смаленчука.*

## Гродзенскі Гурток Беларускай моладзі (1909-1914)

Ініцыятарам заснаваньня гуртка і яго кіраўнікам праз пару першых гадоў быў кс. Франьцішак Грынкевіч[1]. У ягоным памешканьні ў Бернардынскіх мурох у кастрычніку 1909 г. (дакладная дата невядомая, бо пратаколы арганізацыйнага сходу і паседжаньняў управы былі зьнішчаныя) адбыўся арганізацыйны сход невялікай групы моладзі, пакліканае ксяндзом з вышэйшых клясаў гродзенскіх школаў. Было там ня больш за восем асобаў, як падае ўдзельніца Людвіка Войцік[2].

На гэтым першым паседжаньні быў узгоднены назоў арганізацыі – Гродзенскі* Гурток Беларускай Моладзі, выбраная ўправа ў складзе: старшыня – Адам Бычкоўскі[3], вучань 7-й клясы гімназіі, дваюрадны брат Антона Бычкоўскага, рэдактара віленскага "Беларуса"; заступнік старшыні – П.Алексюк[4]; сакратар – Зыгмунт Абрамовіч[5] і бібліятэкар Л.Сівіцкая (цяперашняя Войцік). Там-жа быў абмеркаваны плян працы ды акрэсьленая мэта: самаасьвета сяброў гуртка і шырокая сувязь з вёскай, каб пачаць там нацыянальнае ўсьведамленьне.

Першае маё знаёмства з гуртком адбылося зімою 1910 – 1911 гадоў. Жыў я тады з маім сваяком Янкам Ляўковічам[6], які быў вучнем 7-ае кл. гімназіі і быў ужо сябрам гуртка. Я асабіста ня мог належаць, бо ўвосень 1910 г. на зданым уступным экзамене не быў прыняты ў гімназію, а запісаны кандыдатам: месцаў у першай клясе было менш, як кандыдатаў на навуку і прыймалі толькі з найлепшымі адзнакамі. Мае бацькі пастанавілі паслаць мяне ў Гродна жыць разам з сваяком і рыхтавацца да экзамену ў наступным годзе. Янка меў пакоік (цэльку) у Франьцішканскім кляштары за рэпэтыцыі з братанкам пробашча тае парафіі.

* Я сьведама ўжываю назоў "Гродна", а не як часта бачу "Горадна", "Горадня", бо ўсе "Беларусы" навокала гэтага места называюць яго "Гродна" (заўвага аўт.).

Жыўшы ў Гродне, я бываў на вечарынках, ладжаных малодшай секцыяй сяброў гуртка ды горача ўспрыймаў усё беларускае, любіў слухаць лекцыі, чытаныя старэйшымі сябрамі на розныя тэмы беларусікі. Прыкладам, Бычкоўскі чытаў на тэму "Адгалосак душы беларускага народу ў ягоных песьнях, казаньнях і легендах".

Асабліва вялікае ўражаньне зрабіў на мяне паказ "Моднага шляхцюка" Каруся Каганца, на ўсё жыцьцё застаўся ў памяці гэты спэктакль. Пасьля, чытаючы ў "Нашай Ніве" вельмі добрую ацэнку дзейнасьці гуртка, напісаную Іванам Луцкевічам (які быў запрошаны і прыехаў з Вільні на вечарыну-спэктакль), мне вельмі хацелася быць сябрам гуртка, бо-ж быў я там толькі як госьць.

Нарэшце мае жаданьні збыліся. У жніўні 1911 г. прынялі мяне ў гімназію, і я зараз жа запісаўся ў сябры гуртка і пачаў браць актыўны ўдзел: належаў да хору, дэклямаваў вершы на вечарынках і да таго падобнае. Кіраўніком хору быў мой сваяк Ляўковіч, зь якім я жыў разам.

Уся беларуская моладзь вясковага паходжаньня майго часу ніякага нацыянальнага ўсведамленьня не мела. Бацькі былі "рускай" або "польскай" веры, і самыя не ведалі, хто яны. Я паходжу зь вёскі на так званым запушчанскім прасторы з выключна каталіцкім насельніцтвам. Запушчане ведалі, што яны "польскай" веры, але польскага нацыянальнага ўсведамленьня або патрыятызму там ня было, яны за Палякаў сябе не ўважалі. Наадварот, запушчане ўважалі мазуроў за Баброю (якія нас звалі "русінамі") за горшых, дурнейшых, што адлюстравалася ва ўсялякіх прыказках і жартах. Такім чынам, з дому я ніякага нацыянальнага ўсведамленьня ня меў.

Першы раз пачуў я назову "Беларусы", быўшы на другім годзе Баброўскае прыходзкае школы. Настаўнікам нашым быў малады памочнік кіраўніка школы Краўцэвіч (імя не памятаю). У нашай клясе было двух праваслаўных – "рускіх", а ўся рэшта былі каталікі – "польскія". Аднойчы Краўцэвіч, гаворачы да вучняў у часе перапынку, сказаў: "Вы ня рускія і ня польскія, а ўсе вы – Беларусы". Быў я тады ў веку 9 гадоў і хоць не зусім зразумеў, але запамятаваў гэтую заўвагу настаўніка.

Два гады пазьней, калі пачаў чытаць "Нашу Ніву", зразумеў, што Краўцэвіч быў сьведамым Беларусам ды, відавочна, належаў да Згуртаваньня Беларускіх Настаўнікаў і Беларускай Сацыялістычнай Грамады, якія ўжо існавалі ў тым часе, бо ўвосені, калі я вярнуўся на

трэйці год школы, Краўцэвіча ўжо не было. Як казалі ягоныя суседзі ў Юрыздыцы: “Улетку прыехала паліцыя з Саколкі і забрала яго, падобна за належаньне да сацыялістаў. Што сталася зь ім пазней, мы нічога ня чулі”.

Сьведамым беларусам я пачуўся як пачаў наведваць гурток. У моладзі, што належала да арганізацыі, быў вялікі энтузіязм, і ён перадаваўся кожнаму новаму сябру. Спрычыніўся да гэтага нязвычайны дар духовага правадыра-заснавальніка й кіраўніка гуртка кс. Грынкевіча.

Грынкевіч быў высака адукаваным чалавекам. Па сканчэньні Духоўнай Акадэміі ў Пецербурзе вучыўся ў Інсбруку ў Аўстрыі. Меў ён дзіўную сілу пераконваньня. Бяз розніцы, дзе і аб чым ён гаварыў, яго заўсёды хацелася слухаць.

Прыслужыліся таксама да энтузіязму гурткоўцаў здольнасьці й адданая праца некаторых старэйшых сяброў. Трох зь іх заслугоўваюць на спэцыяльную ўвагу.

**Адам Бычкоўскі**, першы старшыня гуртка, здольны арганізатар, ад самага пачатку пастараўся ўцягнуць усіх сяброў у якую-небудзь дзейнасьць: аднаму даручыў зарганізаваць хор; другому сабраць усіх, хто іграе на струнных інструмантах, і заснаваць струнны аркестр; старэйшым сябром даручаў чытаць даклады або вучыць малодшых беларускае мовы. Кожны сябра быў актыўным: хто сьпяваў, хто іграў, а ўсе вучыліся. А.Бычкоўскі пасьля закончыў юрыдычны факультэт у Пецербурзе і, працуючы адвакатам у Варшаве, быў адным з заснавальнікаў Асьветнага Таварыства беларусаў у Варшаве.

**Зыгмунт Абрамовіч**, таленавіты актор, быў душою арганізаваных сцэнічных спэктакляў. Ён выбіраў п’есу, ён рэжысэраваў, ён грыміраваў артыстаў і быў кіраўніком спэктакляў-вечарынаў. Зыгмунт Абрамовіч быў унукам Францішка Багушэвіча і меў сьведамасьць ды моцную беларускую традыцыю з дому. Пазьней ён належаў да аб’язнога тэатру Ігнату Буйніцкага.

**Людвіка Сівіцкая**, цяперашняя Войцік (паэтка Зоська Верас). Быўшы бібліятэкаркай гуртка, яна не шкадавала ні часу, ні сілаў, каб дастаць усю даступную ў тым часе беларускую літаратуру ды ўсё, што друкавалася ў беларускай мове. Навязала лучнасьць з “Нашай Нівай” і з выдавецкай суполкай “Загляне сонца і ў наша ваконца” ў Пецербурзе, даставала газэту, календары й кніжкі зь вялікай

ськідкай, каб сябры, едучы на вёску, бралі прадаваць або проста раздаваць тым, хто мог чытаць.

Дзеля таго, што гурток быў нелегальнай арганізацыя, ён мусіў ужываць нейкі камуфляж. Спачатку сходы адбываліся ў памешканьні кс. Грынквіча, які быў школьным капэлянам і мог кантактавацца з моладзьдзю бяз ніякіх арганізацыяў, а пасьля памешканьне Сівіцкай зрабілася нашым цэнтрам.

Маці Людвікі як удава па ахвіцэры царскае арміі, мела дазвол на кватэраваньне й сталаваньне школьнай моладзі. Мела яна памешканьне на Гараднічанскай вуліцы з адным вялікім пакоем, у якім адбываліся лекцыі й спэктаклі-вечарынкі. У адным канцы пакою была збудаваная сцэна, там таксама шлі рэпэтыцыі хору й аркестру.

Людвіка была вельмі актыўнай у арганізаваньні выездаў на вёску са спэктаклямі, бо ведала людзей у ваколіцах Новага Двара, адкуль паходзілі ейныя дзяды й бацькі.

На апошнюю зіму перад І-й сусьветнай вайной Сівіцкая паехала ў Варшаву на курс агароднiцтва й пчалярства. У гадох 1915 – 1918-м яна жыла ў Менску, працавала пры Камітэце помачы ахвярам вайны і ў Беларускай хатцы, дзе спатыкалася з Максімам Багдановічам, Ядвігіным Ш., Галубком, Смолічам ды іншымі ведамымі Беларусамі. Пасьля вярнулася ў Сакольшчыну й жыла ў Альхоўніках, фальварку свайго дзеда. У 1929 г. перабралася ў Вільню, дзе арганізавала Таварыства “Пчала”, выдавала “Беларускую Борць”, часапіс для дзяцей ды вяла карэспандэнцыйны курс пчалярства. Цяпер, у сярэдніх 90-х гадох свайго жыцьця, лістуецца з беларускім сьветам.

У адным з лістоў Сівіцкая піша: “Нашыя Беларусы сьпяшаюцца выцягнуць з маёй памяці ўсё, што магчымае, і то на самыя розныя тэмы”. Да Зоські Верас прыязджаюць з Гродна, Менску ды іншых гарадоў з рознымі пытаньнямі. Адзін з прафэсараў Беларускага ўнiверсітэту даў ёй мянушку – “Усіхняя Бабуля”. Мянушка прынялася, і ў Менску так яе й завуць.

Пры ўспамінах аб Гродзенскім Гуртку Беларускай Моладзі пішу шмат пра Л.Сівіцкую, бо была яна асноўнаю асобаю падчас існаваньня гуртка, і толькі дзякуючы ёй засталася памяць аб гуртку.

У 1912 г. сакратаром ГГБМ быў С.Більмін, Беларус з польскімі пераканаваньнямі, які аказаўся здраднікам, зьнішчыў пратаколы паседжаньняў управы ад самага пачатку. Пазьнейшыя пратаколы, бібліятэка й тэатральны рэквізыт загінулі ў часы Першай сусьветнай

вайны, і толькі тое, што Сівіцкая вывезла ў Менск – архіў бібліятэкі, рахункі й запіскі – дало магчымасьць ёй напісаць успаміны больш дакладна. Успаміны былі выдрукаваныя ў беластоцкай “Ніве”. Спня Войцік таксама спрычынілася да тэлевізійнае праграмы аб ГГБМ на гродзенскім тэлебачаньні ў верасьні 1985 году. Перадача была са здымкам й адпаведным тэкстам.

Першых пару гадоў гурток рос і праца ішла шпарка зь вялікім энтузіязмам. У лютым 1910 г. была наладжаная першая вечарына з паказам камедыі Крапіўніцкага “Па рэвізіі”, дэклямаваліся вершы Купалы, выконваліся песьні ды выступаў струнны аркестр. Спэктакль быў паўтораны ў Гродне, а пасьля – ў Крыштапарове каля Новага Двара. Рэгулярна адбываліся лекцыі з беларусікі для малодшых сяброў, а ўвесну гурток рабіў экскурсіі над бераг Нёмана.

На пачатку школьнага 1910-1911 году была прынята шмат новых сяброў, моладзі зь першых школьных клясаў. Гурток падзялўся на тры сэкцыі: старэйшая, сярэдняя й малодшая. У кожнай была свая праграма самаасьветы й асьветы ў беларускай мове. Вывучалі літаратуру, гісторыю й геаграфію Беларусі.

На спэктакль у гэтым годзе выбралі камэдыю Каруся Каганца “Модны шляхцюк”. Рэквізыт на грыміроўкі купілі, а касьцюмы на сцэну, арыгінальную вясковую вопратку сяброўка Сівіцкая дастала ад жанчын зь вёскі Беляны, дзе яна мела добрых знаёмых. Піша яна, што жанчыны далі ёй да выбару нават са старых бабуліных скрыняў аўтэнтычныя вясковыя рэчы, мужчынскія й жаночыя, уключна з ботамі й чаравікамі. Пазычанае вопраткі два вялікія мяхі, пару дзён перад спэктаклем, колькі старэйшых сяброў прывезьлі ў Гродна на Гараднічанскую вуліцу, дзе ў вялікім пакоі была збудаваная сцэна, нават з суфлёрскаю будкаю.

У сярэдзіне лютага быў дадзены спэктакль, які, як ужо ўспамінаў раней, быў мой першы “тэатр”, і на які быў запрошаны з Вільні Іван Луцкевіч, і ён пасьля ў “Нашай Ніве” (№ 9, 1911 г.) пісаў: “Я дзіваваўся, гледзячы на артыстаў, як яны ўмелі падгледзець, падсьцерагчы характар вясковых сватаньняў, умелі наладзіць усё так, яно папраўдзе бывае ў хаце Беларусаў. Вынес я падзяку за прыемны вечар. Веру, што гродзенская беларуская моладзь родную справу пасуне ўперад”.

Спэктакль быў дадзены два разы ў Гродне, а пасьля ў Дубніцы ў паўночна-ўсходняй Сакольшчыне. Вечарына ўдалася вельмі добра. Сялянаў з суседніх вёсак прыйшло шмат, але цяжка было зьмесьціцца

ў вялікім пакоі. Шмат хто з іх першы раз пачуў, што яны – Беларусы і пабачыў тэатр у роднай мове. Задаваленьне было вялікае. Але гэтая падзея ледзь ня скончылася вельмі сумна для гуртка ды асабліва для некаторых сяброў.

Арандатар Дубніцы, якая была собскасьцю гродзенскага архірэя, даў ахвотна пакой і параіў папрасіць дошак на сцэну ў манаха з суседняга архірэйскага фальварку Малой Дубніцы. Манах таксама ахвотна дошак даў, але пры нагодзе пахваліўся архірэю, што ў Дубніцу прыехаў тэатр. Архірэй – да губэрнатара: “Хто даў дазвол?” Губэрнатар-жа нічога ня ведаў, сказаў, каб справу дасьледавала паліцыя ў Новым Двары й на станцыі Беляны. Там было ўстаноўлена, што прыяжджала моладзь з Гродна, былі ўстаноўленыя прозвішчы двух сяброў, што паходзілі спад Новага Двара. Гурток-жа быў арганізацыяй нелегальнай, і мог падпасьці пад сьледзтва, а сябры, чые прозьвішчы сталіся ведамыя (вучні апошніх клясаў), маглі бы выкінутыя са школы. На шчасьце, у канцылярыі губэрнатара працаваў бацька аднае зь сябровак гуртка, і ён пастараўся, каб “дзела” загінула.

Увесну 1911 г. па скончанай навуцы развітаўся з гуртком ягоны арганізатар і першы старшыня Адам Бычкоўскі.

Няспрыяльныя для гуртка нутраныя й вонкавыя абставіны склаліся ў школьным годзе 1911-1912-м. Унутры адбыліся няўдалыя выбары. За старшыню выбралі Казюка Калышку, мала энэргічнага, пасыўнага чалавека, а за сакратара – С.Більміна[7], які ня думаў, каб памагчы, а стараўся пашкодзіць. Калі ён адыйшоў у наступным годзе, выявіліся, што зьнішчыў усе пратаколы паседжаньняў, як ужо было сказана раней. Звонку пачаўся націск з боку вышэйшых касьцельных уладаў на кс. Грынкевіча, каб ён адыйшоў ад кіраўніуцтва ГГБМ і наагул ад беларускіх справаў.

Незважаючы на гэтыя няўдачы, работа ў гуртку пры помачы лепшых старэйшых сяброў працягвалася. Адбываліся лекцыі для сяброў малодшае й сярэдняе секцыяў гуртка. Нават увосені малодшыя сябры паставілі п’есу “Пастушка” (перапрацоўка з польскае Л.Сівіцкай), але старэйшым сябром спэктаклю не ўдалося даць. Праектавалася паказаць “Зімовым вечарам” Э.Ажэшка, пачаліся рэпэтыцыі, але дзеля малое падтрымкі з боку кіраўніцтва гуртка праект не ўдаўся.

Пастанавілі зарганізаваць калядную ёлку для дзяцей у якой-небудзь вёсцы. Выбралі вёску Серуцеўцы на Сакольшчыне,

паразумеліся з гаспадаром, які меў большую хату, зрабілі складчыну, купілі цукерак, пернікаў, арэхаў, яблыкаў і сьвечак. Нарабілі цацак на ёлку ды, узяўшы з сабою шмат газэтаў, календароў і кніжак, паехалі ў Бяляны, а адтуль пехатой вёрстаў 7 – у Серуцеўцы.

Гаспадар хаты ўжо прыгатаваў прыгожую ёлку. Прыбралі дзераўца, запалілі сьвечкі. Дзяцей і дарослых прыйшло поўная хата. Дзецям раздалі цукеркі, а дарослым – газэты й кніжкі, ды ўсе яны разам першы раз пабачылі, як Захад абходзіць калядныя сьвяты. Назад на станцыю гаспадар адвёз нас санямі.

На пачатку наступнага школьнага году (1912-1913) ізноў спаткала гурток няўдача: колькі малодшых сяброў пакінула гурток на жаданьне бацькоў.

У 1912 годзе Расія абходзіла юбілей “Отечественной войны”, перамогі над Напалеонам. У сувязі з гэтым паўстала ў Расейцаў шмат новых ідэяў. Прыкладам, перайменавалі гродзенскую гімназію із звычайнае ў гімназію імя графа Тормазава.

Адна з новых ідэяў была знаходка каталікоў-Беларусаў, якіх можна русыфікаваць. Да таго часу расейскі ўрад усіх каталікоў уважаў за Палякаў і пазваляў вучыць у школах рэлігію па-польску. Але ў 1912 годзе нехта, відавочна, у Віленскай навучальнай акрузе, пабачыўшы беларускі адраджэнскі рух, у якім брала ўдзел шмат каталікоў, дадумаўся да спосабу выдзяліць іх, каб русыфікаваць.

Вярнуўшыся зь летніх вакацыяў, мы знайшлі сьпіс прозвішчаў, каля 30 асобаў, і загад, што ня можам хадзіць на лекцыі рэлігіі ў польскай мове (старэйшых клясаў не чапалі, а з 360 вучняў прыгатавальнае й чатырох малодшых набралі іх каля 30). Гімназіяльны капэлян, Паляк выкарыстаў сытуацыю й застрашыў бацькоў некаторых сяброў гуртка, што небяспечна належаць да яго, і яны зажадалі выпісацца.

Я асабіста таксама быў на сьпісе Беларусаў, але мае бацькі ведалі, што я маю добрага апякуна (я жыў з А.Зянюком[8], які быў старшынём гуртка) і не прымаліся; прытым кс. Халецкаму не ўдалося пагаварыць з маймі бацькамі.

Незважаючы на ўсе няўдачы, работа гуртка працягвалася, бо група старэйшых сяброў падтрымала энтузіязм першых арганізатараў. У 1912-13-м школьным годзе далі спэктакль – ставілі “Міхалку” і “Варажбу цыганкі” (перапрацоўка з польскае Л.Сівіцкай). Праектаваная выстаўка хатніх вырабаў ня зьдзейсьнілася – можа таму, што гурток

быў арганізацыяй нелегальнай і дазвол на выстаўку мусіла-б прасіць арганізацыя залегалізаваная, якіх у Гродне не было.

Затое ўвесну 1913 году гурток пастанавіў выдаць аднаднёўку. Вось што піша Зоська Верас: “Рэдакцыйная калегія, у склад якой уваходзілі А.Зянюк, Я.Лявіцкі, Л.Сівіцкая, Ж.Бобрык і Ф.Лабенец, працавала шчыра і заўзята. Я.Лявіцкі (псэўданім “Юрка Снапко”) даў некалькі сваіх вершаў. А.Зянюк і М.Бобрык – апавяданьні. Адно апавяданьне апрацаваў Ф.Лабенец, а я напісала перадавіцу. Пазычылі шапірограф і позна ўвечары, завесіўшы вокны, узяліся за работу. А.Зянюк перапісваў (ён прыгожа пісаў), а Я.Лявіцкі адбіваў. Прасядзелі амаль да раніцы, адбілі 50 экзэмпляраў. Назва аднаднёўкі – “Колас беларускай нівы”. На вокладцы загаловак і рысунак каласоў.

Якая радасьць, можна сказаць, шчасце запанавала ў сэрцах ініцыятараў і рэдактароў, калі ўгледзелі рэзультат сваёй працы. Зьдзейснены праект, вылітыя на паперу думкі ажывілі ўсіх нас, дадалі веры ў свае сілы”.

Я добра памятаю аднаднёўку. Дастаў я пару экзэмпляраў, едучы на вакацыі. Адзін перахоўваў даўжэйшы час і ўжо падчас вайны чытаў зь яго на вуліцы на калодах сваім вясковым хлопцам апавяданьні. Ня думаю, што цяпер па 64-х гадох існуе хоць адзін экзэмпляр дзе-небудзь. Хоць бываюць і неспадзёўкі.

У адным з лістоў з сакавіка 1986 г. Л.Войцік піша: “Ізноў нечакана павеяла старым гуртkоўскім духам”. Адзін з менскіх пісьменнікаў, быўшы ў Ленінградзе, у нейкіх архівах натрапіў на кніжку, том працаў Карскага на якой напісаны верш Зоські Верас і стаяць даравальныя подпісы ад сяброў гуртка для першага старшыні Адама Бычкоўскага. Неяк сталася, што Бычкоўскі па скончаным унівэрсітэце не забраў кніжкі, а пакінуў яе ў Пецярбурзе.

Была ўжо вайна. Увесну 1913 году амаль уся дзейная група старэйшых сяброў пакідала Гродна па скончаных школах, а ўвосені выяжджае ў Варшаву Л.Сівіцкая Астаецца з нямногіх старэйшых А.Зянюк, які быў старшынём гуртка. Быўшы рэпэтытарам для чатырох пляменьнікаў францішканскага пробашча ды рыхтаваўшы сябе да матуры, ня шмат часу меў ён для гуртка. Я жыў зь ім у адным пакоі і памятаю, як ён часта наракаў, што некаторыя сябры ня хочуць прысвяціць больш часу для гуртка. Праграма лекцыяў адбывалася, але радчэй чымся гэта было раней. Вечарыны-спэктаклю апошнім школьным годам не было.

Увесну 1914 году моладзь разьехалася на летнія вакацыі, каб больш не вярнуцца. Пачалася вайна, і гурток сконьчыў сваё існаваньне, стаўся ахвяраю Першай Сусьветнай вайны. Бібліятэка, уся канцылярыі, запіскі й тэатральны рэквізыт загінулі падчас ваенных падзеяў.

## Яўстафій Арлоўскі ва ўспамінах Балеслава Грабінскага (1988)

17 лютага 1988 г.

Дарагая сяброўка Людвіка,

Адказваю на два вашыя апошнія лісты.

...Сумна пачуць ад Вас, што так шмат церпіце ад болі галавы і бязсонніцы, можа вясна з лепшаю пагодаю прынясе аблягчэньне ў вашым цяжкім 96 годзе.

Добра, што лісты з выразкамі з газэты дайшлі. Пісаў я ўспаміны, выкарыстоўваючы ваш артыкул з "Нівы", бо ж з памяці па стольках гадох немагчыма што-небудзь выціснуць. Памылка, якую зрабіў, ня змяняе сэнсу ўспамінаў, важна, што пра Г.Г.Б.М. прачыталі беларусы ўсюды, дзе даходзіць газэта, і ў Паўдзённай Амерыцы, і ў Аўстраліі, дзе толькі ёсьць расcеяныя па сьвеце сьведамыя беларусы.

Цешуся зьменаю вашага пэсымізму да больш аптымістычнага погляду на справу мовы. Як ужо калісьці пісаў Вам, забіць мову на цяперашняй ступені развіцьця і ведамасьці аб ёй лінгвістамі Захаду ніякая варожая сіла не патрапіць. Адраджэньне пачалося ў дзіцячых садкох, дэманстрацыі жадаюць пакараць тых, хто нішчыў нашую інтэлігенцыю, а гэта паўстрымае цяперашніх верхаводаў перад бязглузным праследам тых, хто жадае праўды. Вядучая беларуская інтэлігенцыя паходзіць з вёсак, і ўсе яны маюць карэньні ў нашай мове, трэба тады мець надзею, што ўсё зьменіцца на лепшае.

[…]

Еўстафій Арлоўскі быў маім вучыцелям гісторыі праз два гады. Старычок нявысокага росту, дабрадушны да касьцей, на яго лекцыях жульё ў клясе на задніх лаўках выраблялі, што толькі хацелі, але ён не натта зьвяртаў увагу, гаварыў да тых, хто яго слухаў. Быў ён закаханым архэалогам, летам зьбіраў на берагох Нёмана артэфакты на старых прадгістарычных селішчах і прыносіў у клясу,

паказваў, паясьняў розніцу паміж палеолітік і нэолітік перыядамі. Праафіцыяльнай гісторыі ня відаць было, каб быў надта зацікаўлены, магчыма, сам ня верыў Ілавайскаму, затое вельмі ажыўляўся як пач[ын]аў гаварыць аб селішчах над рэкамі перад прыходам славян “въ Северо-Западный Край”.

Помню адзін эпізод, калі жульё вывяло яго з цярпеньня. Было гэта ў 2-й клясе (1912). Прынёс Арлоўскі ў клясу каменьні, якія найшоў летам над Нёманам. Адзін камень у форме молата меў верчану дзіру, але не навылет, чамусь ня скончаны. Калі камень пайшоў ад парты да парты, каб пабачыць, нехта ў апошніх лаўках напляваў у дзіру. Як камень вярнуўся да кафедры, і А. пабачыў, знэрваваўся, пачаў лаяць клясу: “Хулиганы, уличные мальчишки”. Жаль было глядзець на яго.

Наколькі помню “Гродненская Старіна” была невялікая кніжыца, на якіясь 60 бачын, але нехта казаў мне, што “История Белорусіи” Арлоўскага была яго творам[9]. Калі гэта кніжка была пісана ім, то ясна, што ён ведаў, хто ён нацыянальна.

Ист[орию] Бел[орусіи] Арлоўскага я меў, мушу прызнацца, што прысабечыў яе нелегальна. На рагу Гараднічанскае і Палявое быў дом Фалендорфа. На 2-м паверсе ў гэтым доме была аграмадная куча кніжак, поўны вялікі пакой. Кніжкібылі прывезеныя з Гор. гімназіі немцамі падчас І С[усьветнай] В[айны]. Гімназія адзедзічыла бібліятэку Даміканскага кляштару, і там былі многія вельмі вартасныя рукапісы і старыя друкі, але шмат і навейшых кніжак з гімназіяльнае бібліятэкі.

Па вайне фарны пробашч дастаў дазвол ад польскіх уладаў забраць кніжкі ў фарную бібліятэку. Нас, вучняў польскае гімназіі паслалі памогчы перавезці кніжкі, і вось, носячы гэты цэнны тавар, я ўбачыў Ист[орию] Бел[орусіи]. Сумленьне не пазволіла аддаць гэту кніжку для Фары, і я ўзяў яе пад палу, а пасьля ўпісаў свой аўтаграф на каторуйсь з першых страніцаў.

Едучы на студ’я, забраў кніжку ў Вільню, але па пэўным часе кніжка знікла. Аднойчы, будучы ў памешканьні кс. Адама Станкевіча я аглядаў бібліятэку, усе кніжкі прыгожа апраўлены ў шэрыя палатняныя вокладкі і між імі Ист[ория] Бел[орусіи] Арлоўскага. Адкрыўшы вокладку, я пабачыў мой аўтограф. Пытаўся Адама, як кніжка папала да яго, але ён не хацеў мне сказаць. Магчыма, што Адам купіў кніжку ў Шылы, які прада[ва]ў кніжкі, але не купляў, а прысабечыў, дзе мог. Бедны патрабаваў на кілішак.

Цяпер Ист[ория] Бел[орусии] дзесь у Вільні. Беларусы пэўна ведаюць, што сталася з біліятэкаю Адама.

Аб адносінах Е.Арлоўскага да беларусаў не магу нічога сказаць. Калі ён і чуўся беларусам, то не прывязваў вялікага значэньня да нацыянальнасьці, бо чуўся міжнародным дасьледчыкам, археолагам, прытым нічога афіцыльнага беларускага ў Гродне ў тым часе не было.

[...]

Усяго Вам найлепшага, уцішэньня , боляў і добрага сну.

Ваш сардэчна зычлівы сябра Балеслаў.

*Заўвагі*

[1] Ксёндз Францішак Грынкевіч (1884-1933) – беларускі рэлігійны і культурны дзеяч. Скончыў духоўныя Віленскую семінарыю (1905) і Пецярбургскую Акадэмію (1907). З 1909 г. выкладаў Закон Божы ў гімназіях Горадні, пробашч пры кляштары брыгітак. Адам Станкевіч быў пэўны, што постаць ксяндза Ф.Грынкевіча ў Горадні напярэдадні Першай сусветнай вайны "была асобай "цэнтральнай і адзінай, якая будзіла і арганізавала там рух беларускі" (Станкевіч А. Беларускі хрысціянскі рух (гістарычны нарыс) // Станкевіч А. З Богам да Беларусі. Збор твораў. Вільня: Інстытут беларусікі, 2008. С. 477).

[2] Людвіка Антонаўна Войцік (псеўданімы: Зоська Верас, А.Войцікава ды інш) (1892-1991) – беларуская пісьменніца і грамадская дзяячка. Далучылася да беларускага Адраджэння падчас вучобы ў гімназіі К.Барткоўскай у Горадні. У 1915 г. працавала сакратаркай у Мінскім аддзеле Беларускага Таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны, Беларускім нацыянальным камітэце. У міжваенны час актыўна ўдзельнічала ў беларускім перыядычным друку, была рэдактаркай часопіса "Беларуская борць" (Вільня). Напрыканцы 1980-х гг., дзякуючы Арсеню Лісу, вярнулася да беларускай культурніцкай дзейнасці. Была першым гісторыкам Гарадзенскага гуртка беларускай моладзі (1909-1914).

[3] Адам Бычкоўскі (1889-1937) – беларускі грамадскі дзеяч. Пасля Горадні працягваў вучобу ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце на юрыдычным факультэце. Быў сябрам Пецярбургскага гуртка беларускіх студэнтаў. У міжваенны час адышоў ад актыўнай беларускай дзейнасці, але, маючы адвакацкую практыку ў Варшаве, ахвотна аказваў юрыдычную дапамогу суайчыннікам. Аўтар вершаў і п'есы "У сваты".

[4] Павел Аляксюк (1892-?) – беларускі палітычны дзеяч. Пасля Гарадзенскай гімназіі працягнуў навучанне на юрыдычным факультэце Санкт-Пецярбургскага універсітэту. Увесну 1917 г. – сябра Цэнтральнага Бюро Беларускай сацыялістычнай Грамады, намеснік Старшыні Беларускага нацыянальнага камітэту ў Менску, сябра Выканкаму Вялікай Беларускай Рады і Цэнтральнай Беларускай вайсковай Рады. Ёсць падставы сцвярджаць, што быў выключаны з апошняй за фінансавыя злоўжыванні. Адзін з ініцыятараў абвяшчэння БНР. З 1920 г. у Варшаве. Пасля Рыжскага міру (1921) належаў да паланафільскай плыні беларускага руху. З 1922 г. жыў у Наваградку, быў сябрам Таварыства Беларускай школы.

[5] Зыгмунт Абрамовіч (1892-1988) пасля Горадні распачаў акторскую кар’еру. Стаў адным з вядучых актораў Першай беларускай трупы Ігната Буйніцкага. У 1919 г. пераехаў у Польшчу. Працаваў педагогам. Аўтар апублікаваных успамінаў пра трупу І.Буйніцкага. Унук Францішка Багушэвіча.

[6] Янка Ляўковіч

[7] Паводле ўспамінаў Зоські Верас сакратаром гуртка быў Ст.Вільмін (Горадзенскі гурток беларускай моладзі (1909-1914) // Горад святога Губерта. Выпуск першы. Пад рэд. А.Ф.Смаленчука. Сейны, 2002, с. 94.)

[8] Адольф Зянюк (1895-1938) – беларускі грамадскі і палітычны дзеяч. Пасля Горадні працягваў навучанне на юрыдычным факультэце Санкт-Пецярбурскага універсітэту, належаў да Пецярбургскага гуртка беларускіх студэнтаў. У 1916 г. мабілізаваны на фронт. На пачатку 1920-х гг. вучыўся ў Віленскім універсітэце, быў сябрам Беларускага студэнцкага саюзу, рэдактарам “Студэнцкай думкі”. Пазней працаў суддзёй на Палессі, у Вільні.

[9] Даследчыкам невядомая “Гісторыя Беларусі” Я.Арлоўскага. Магчыма, што Б.Грабінскі меў на увазе “Кароткую гісторыю Беларусі” Власта (В.Ластоўскага). Прынамсі іншай гісторыі Беларусі ў тыя часы не існавала (заўвага рэд.).



Бернардынскія муры ў Гродне, тут адбываліся першыя паседжанні Гродзенскага гуртка беларускай моладзі.




Гродзенская мужчынская гімназія ў пачатку XX ст.



Гродзенскі гурток беларускай моладзі. У цэнтры ксёндз Францішак Грынкевіч.



Францішканскі кляштар, дзе ў пачатку XX ст. жыў Б. Грабінскі



Сябры Гродзенскага гуртка беларускай моладзі. Злева сядзіць Людвіка Сівіцкая (Зоська Верас).

# Успаміны пра стары Гродна

*Працягваючы добрую традыцыю, распачатую ў папярэдніх нумарах альманаха, друкуем некалькі ўспамінаў пра даваенны і ваенны Гродна. Запісаныя яны ў людзей, для якіх гісторыя Гродна сталася часткай асабістага жыцця. Такія ўспаміны маюць асаблівую каштоўнасць. Друкуюцца на беларускай мове.*

## Несцярэнка (Давідовіч) Клаўдзія Міхайлаўна. *(1926 г.н.). (Запісана ў чэрвені 2012 г.)*

Я нарадзілася ў Абухаве, але калі мне было шэсць год, то мае бацькі з Абухава пераехалі ў Гродна. Яны прадалі ў Абухаве ўсю сваю зямлю і купілі маленькі дамок на вуліцы Рэзніцкай (цяпер Камунальнай), які праіснаваў да 1936 г. Потым бацька яго раскідаў і пабудаваў вялікі дом. Тады нас было ўжо пяцёра дзяцей, і дом патрэбен быў значна большы. Старэйшы брат Пеця, сятра Ніна, я і яшчэ двое меншых. Адна з меншых – Ліля Давідовіч, жыла пасля ў Мінску і стала народнай артысткай БССР. Мой бацька Давідовіч Міхаіл Якаўлевіч паходзіў з Абухава і разам з дзедам (у таго было дзесяць дзяцей) выехаў пад час Першай Сусветнай вайны ў бежанства ў Сібір. Там бацьку забралі ў войска, аднак хутка адбылася рэвалюцыя, і яно развалілася. У Сібіры ён пазнаёміўся з маёй маці Жыгаленка Кацярынай Аляксееўнай. Тая была маладой і сімпатычнай дзяўчынай, і бацька быў ёй не пара, аднак чымсці ён ёй спадабаўся, і яны пажаніліся.

Прыкладна ў 1920 г. яны прыехалі ў Абухава. Мой бацька ўжо тады быў баптыстам, а бальшавікам не падабаліся веруючыя людзі, таму ён ужо паспеў пабываць у савецкай турме. З Сібіры наогул з’ехалі амаль усе нашыя сваякі. Толькі дзед там памёр, і адна сястра бацькі засталася, але і яна пасля Другой сусветнай вайны прыехала сюды з мужам і тут дажывала.

Дом пабудаваны бацькам захаваўся дасюль. Стаіць ён на вуліцы Камунальная, 18. Мая мама прадала яго перад смерцю. Пры доме дарэчы была невялікая крама, якой валодаў мой бацька а таксама ў вялікім пакоі пры паляках адбываліся малітоўныя сустрэчы

гродзенскіх баптыстаў. Наогул жа баптысцкая царква знаходзілася на вуліцы Антонава, раней Ерусалімскай.

Вучылася я да 1939 года ў “усэмцы” – ў школе № 8. Гэта цяпер школа № 4 на вуліцы Лермантава. Было шмат выдатных настаўнікаў. Найперш дырэктар пан Вевюрскі, які быў проста вельмі добрым чалавекам. Самым строгім пакараннем, якое ён прызначаў для хуліганістых хлопцаў – было паставіць іх “пад зэгар”. У нас гадзіннік перад уваходам акурат стаяў, куды ён хлопцаў ставіў. І гэта быў вялікі сорам. Вучоба кожную раніцу пачыналася так. Мы станавіліся на калідоры каля кабінетаў і вучаніца Бамбянка чытала малітву: “Духу Свенты, ктуры освенца сэрца і умыслы наше...” А потым уся школа спявала песню: “Kiedy ranne wstają zorze, Tobie ziemia, Tobie morze, Tobie śpiewa żywioł wszelki: Bądź pochwalon, Boże wielki!”

Дарэчы мы і дома ўжо пачалі гаварыць па-польску, хаця па-руску і па-беларуску таксама добра ведалі, але школа сваё рабіла. Напрыклад, мы з маці так гаварылі. Яна мне: “Клава, иди принеси мне воды!” А я кажу: “Мама, я не мам часу, я мушу робіць лекцыі”. Або калі я ўпіралась, то яна казала: “Я тебе сказала, иди! И не разговаривай”. А я: “Добже, мама, добже, я пуйде, я пуйде”. Мы адказвалі па-польску.

Настаўнікі нашай школы жылі недалёка. Дырэктар Вевюрскі жыў на тэрыторыі школы ў доміку з калонамі. Настаўнікі Бруновіч, Будрэвіч, Краеўская (выкладала польскую мову) жылі ў дамках на адну сям’ю на вуліцы Жвіркі і Вігуры. Дырэктар Вевюрскі жыў пасля на Чвартацкай вуліцы, яго немцы там арыштавалі.

У 1939 г. усіх нас направілі вучыцца ў рускую школу на вуліцы Батанічнай, там, дзе раней была гімназія каралевы Ядвігі. Мы асабіста ўмелі гаварыць па-руску, але ні чытаць, ні пісаць не ўмелі. Вось нас цэлы год вучылі адразу ўсяму. А калі прыйшлі немцы, то тыя адразу вучыцца забаранілі.

Мой бацька быў вельмі рэлігійным чалавекам. Пражыў 87 гадоў і ніколі не курыў і не піў. Наогул, баптыстаў у даваенным Гродне было няшмат, але гэта былі прадстаўнікі ўсіх нацый – палякі, беларусы і рускія. Я ж сама, неяк так выпадала, сябравала толькі з полькамі. У суседнім доме жыла такая Стася Матлоўская, дык гэта была мая лепшая сяброўка. Мы з ёй былі больш, чым сёстры. Яны былі з мясцовых палякаў, не прыезжыя. То калі нам было па шэсць год, мы выламалі дошку ў плоце і лазілі адна да адной. Пасля я разам з ёй хадзіла ў касцёл, а яна са мною на служэнні.

Даваеннае жыццё было цікавае. Гулялі мы па цяперашняй Савецкай вуліцы, тут сустракаліся, хлопцы куплялі нам білеты ў кіно. А на маёвае набажэнства мы школай хадзілі да вялікага крыжа і каменя, які стаяў там, дзе цяпер прыпынак "Фестывальная вуліца". Там быццам магіла была нейкага героя польскага. Мы высаджвалі кветкі навокал помніка. Добра памятаю Аляксандра-Неўскую царкву, яна такая зялёная была. Царкву шкадавалі, казалі, што касцёлаў і так шмат, а цэркваў мала, навошта яе разбіраць?

У верасні 1939 г. у горадзе былі невялікія баі, памятаю, як мужчыны хадзілі глядзець на спалены танк каля пошты. Рускіх салдат мы не баяліся. Яны ішлі калонамі, пілі ў нас ваду і рвалі грушы. Толькі маці Стасі сказала ёй да нас не хадзіць, бо палякі былі пакрыўджаныя. Янка сказала, што мы чакалі бальшавікоў і хацелі, каб яны прыйшлі, таму да нас хадзіць не трэба.

У 1941 г. было страшней. Памятаю мы думалі, што пачалася навальніца. Аднак прыйшоў бацька і сказаў маці, што вайна. Праз дзень мы пабачылі першага немца, які проста прыйшоў на нашу вуліцу.

Падчас вайны мяне хацелі забраць у Германію. Прыйшло шэсць павестак. А Стасі павестак не было. Тады яна сама пайшла і запісалася ехаць у Германію. Але нас не забралі, бо мы працавалі на багатага немца па прозвішчы Рык. Гэты Рык пасадзіў велізарны агарод у цяперашнім Каложскім парку, а прадукцыю адпраўляў у Германію. Раней агарод належаў габрэю Кальману, дык яго, натуральна, канфіскавалі. Рык жыў на цяперашняй вуліцы 17 верасня і каля яго дома высаджвалася рассада, якая пасля пераносілася на агароды. Рассада была самая розная – і кальрабі, і памідоры, і гуркі і шмат іншага. Рык быў страшны, ездзіў на кані і асабіста правяраў градкі. Калі было нешта не так, калі мог капусту за лісток выцягнуць з зямлі, то біў нас нагайкай. Працавалі мы з васьмі раніцы да васьмі вечара. Рык добра гаварыў па-польску і з'ехаў з Гродна, хіба, ў 1943 г.

Мая Стася неяк трапіла ў невялікі канцлагер, што знаходзіўся каля цяперашняга кінатэатра "Усход" каля гета. У яе памёр бацька, і яна дні тры не выходзіла на працу. За гэта яе Рык адправіў у лагер. Стася прасядзела там хіба з месяц. Ежу перадаваць было нельга, аднак я насіла ёй нелегальна. Пакладу у партфель і закідваю пад дрот. Дык адзін раз ахоўнік пабачыў мяне і стрэліў. Куля прасвісцела міма, а я ўцякла.

Шмат хто лазіў у гета, каб забраць габрэйскае дабро або выменяць яго ў габрэяў на ежу. Дык немцы злавілі двух такіх і павесілі на браме

гета па вуліцы Захарава, там дзе акурат доўга дом будавалі. Гэтыя два чалавекі тры дні правіселі. Пасля гэтага народ у гета лазіць перастаў.

Пасля таго, як Рык з'ехаў, мы пачалі хадзіць у швейную майстэрню. Стася, дарэчы, шыць не ўмела, то мы яе за ноч навучылі. А я шыла добра, бо мая маці была вельмі гаспадарлівая. Майстэрня знаходзілася ў раёне казармаў за могілкамі на вуліцы Антонава. Немцы здымалі са сваіх забітых акрываўленую форму, і мы яе перашывалі, прышывалі рукавы напрыклад. Сартавалі бялізну. Плацілі нам за гэтую працу вельмі мала.

У раёне цяперашняй Пралетарскай быў канцлагер для савецкіх ваеннапалонных. Мой бацька быў немцамі прымушаны там працаваць і вывозіў трупы на цяперашнія вайсковыя могілкі. Самыя палонныя капалі глыбокі роў, звальвалі трупы і перасыпалі іх хлоркай.

Немцы забаранілі ўсе сходы, у тым ліку і рэлігійныя служэнні. На майго бацьку нехта данёс, што ён камуніст. І немцы з паліцэйскімі прыйшлі майго бацьку арыштоўваць. Але ён ніколі не быў у партыі, а ў нас на сцяне віселі вышытыя словы ў рамачцы: "Krew Jezusa Chrystusa oczyszcza nas od wszelkiego grzechu". І вось немец звярнуў на гэта ўвагу і пытаецца, што гэта. А бацька яму кажа: "Я баптыст". Тады немец сказаў: "Baptist nicht Kommunist" ("Баптыст – гэта не камуніст") і сышоў. Вельмі сварыўся на паліцаяў.

Бацькава крама ў вайну не працавала, прадаваць не было чаго, таму бацькі цэлы тыдзень працавалі на зямлі ў Абухаве (зямлю яны не прадалі), а ў суботу вярталіся ў Гродна. Бацька канём вазіў людзям што ім трэба а мы былі на гаспадарцы ў Гродне з сястрой Верай. У падвале былі жарнава, якімі малолі збожжа, былі дзве свінні і карова, таму голаду мы не ведалі. Аднак працавалі амаль увесь час, бо днём прыходзілася працаваць на немцаў.

Гараднічанка яшчэ не была мяжой гета. Гета пачыналася ўверсе, у раёне Вялікай Траецкай, там, дзе раней быў Рыбны рынак. Да вайны на тым рынку былі такія вялікія акварыўмы, дзе рыба плавала. А мы з Верай збіралі на габрэйскіх могілках, там, дзе цяпер стадыён, суніцы, і прадавалі на рыбным рынку. У нас, праўда, пыталіся, ці яны не з могілак, але мы казалі, што не. Уваход у гета, брама, была на вуліцы Віленскай, там дзе цяпер банк. З другога боку раней стаяла лазня. Тым шляхам выводзілі габрэяў на працу.

На Камунальнай вуліцы, там дзе цяпер сталоўка, стаяла маленькая хатка пані Пілец, яна была немка і па мужу была Пілец,

а як нямецкае прозвішча не ведаю. Пілец быў звычайны мужык, працаваў даражкажам (возчыкам), і пані Пілец яму нават есці давала асобна ад сябе і сваіх дочак. Дык калі пачалася вайна і прыйшлі немцы, то пані Пілец выселіла з вялікага дома сваіх суседзяў Малевічаў і там пасялілася. Малевічам застаўся адзін пакойчык. Іх пасля вайны судзілі за гэта. Пані Пілец атрымала, здаецца, 20 гадоў лагера. Судзілі і яе мужа беднага, хаця той быў ні ў чым не вінаваты.

Даваенны Гродна быў вельмі розны. На Пярэселцы жыла галоўным чынам бедната. Людзі ноччу разроўнівалі кавалак гары і ставілі дом за ноч, галоўнае дахам накрыць. У Польшы нельга было разваліць ужо накрыты дахам дом, таму стараліся пабудаваць хоць нешта цягам ночы. А пасля неяк жылі сабе. У цэнтры горада быў вялікі Сенны рынак, а на плошчы Баторыя стаялі гандлёвыя рады, дзе гаспадарылі толькі габрэі, або жыды, як у нас гаварылася. Да Вялікадня бацька стараўся нам купіць па сукенцы, а нас было чацвёра дзяўчат. Габрэі заманьвалі ў свае крамы, казалі: “Нех Пан толькі забачыць тавар, як забачыць, то абавязкова яго набудзе для сябе”.

## Валканоўская Крысціна Станіславаўна (1932 г.н.). (*Запісана 17 чэрвеня 2011 г.)*

Мае бацькі паходзяць з Сельванавецкай парафіі каля Гродна. Маці – Габрыеля з Базукевічаў. Калі яны пажаніліся, то вырашылі ехаць у Гродна. У сярэдзіне 1920-х гг. набылі пляц на вуліцы Горкага (назвы вуліц даюцца і сучасныя і ранейшыя – *А.В.*) і пабудавалі там “времянку” – невялікі аднапавярховы домік з двух пакояў і кухні. Адзін пакой быў летні, і зімоў мы ўсе жылі ў адным пакоі. Бацька ўвесь час працаваў рабочым на Станіславоўскай цагельні на сучаснай вуліцы Дзяржынскага. Каля 1938 г. бацькі скончылі будаўніцтва новага дома па вуліцы Грандзіцкай, 22. Гэта быў дом з так званай “салькай” – другім паверхам, дзе былі тры пакоі. На першым паверсе было шэсць пакояў. Пасля, перад 1941 г. у нас нацыяналізавалі дом, на першым паверсе зрабілі 3-х, 2-х і 1-пакаёвую кватэру. Мы ж перасяліліся туды толькі ў 1938 ці 1939 гг. перад вайной таксама, да гэтага жылі ў ранейшым часовым доміку, а пакоі ў вялікім доме здавалі галоўнаму касіру польскага дзяржаўнага банка (цяпер на вуліцы Карбышава).

У доме № 24 была мясная крама пана Вашкевіча а наступны дом № 26 пабудаваў Юзаф Валканоўскі – родны брат майго бацькі. Ён

ажаніўся з дачкой жанчыны, якая была на заробках у Амерыцы, і таму яны мелі сродкі (з Амерыкі прывозілі нават залатыя долары), а мы жылі бядней. Мама мая казала, што калі кава з малаком, то можа быць і без цукру, але бацька казаў, што на дзецях эканоміць не варта. Дарэчы, ужо ў 1930-х гг. на вуліцах у межах горада нельга было ўзводзіць аднапавярховыя дамы, таму і будавалі іх з такім другім паверхам. Нават пан Вашкевіч дабудаваў сабе паверх.

У польскую школу (нашай школай была цяперашняя школа № 4) я павінна была ісці ў 1939 г., але не пайшла, хаця мы хадзілі яшчэ перад пачаткам вучобы на нейкія “клясувкі”. Памятаю дырэктара пана Вевюрскага. Ён пасля быў дырэктарам і беларускай школы, але мае бацькі вырашылі мяне пакуль туды не аддаваць.

Мой бацька памёр у ноч з 18 на 19 чэрвеня 1941 г. У яго быў моцны радыкуліт. Ён доўга ляжаў і пасля яго перавезлі ў Габрэйскі шпіталь, лічылася, што там лепшыя ў горадзе спецыялісты (недалёка ад нас, дзе цяпер бальніца № 1, быў гарадскі шпіталь). Але ў бацькі пачалося запаленне лёгкіх, праблемы з сэрцам, і ён памёр. Хавалі яго ў суботу 21 чэрвеня. Мужчыны мабыць ведалі, што будзе вайна, бо станавіліся на калені і прыкладалі вуха да зямлі, каб чуць кананаду. А ноччу пачалася вайна. Сваякі, якія прыехалі хаваць бацьку з Селіванаўцаў, не паспелі нават ноччу вярнуцца назад. Былі акурат на пароме праз Нёман і бачылі, як ўзарваліся склады з боепрыпасамі на адным з фартоў (ад бамбардзіроўкі?).

Калі ж пачалася бамбардзіроўка, маці сядзела і плакала, яна толькі пахавала мужа, і ёй было ўсё роўна. А ўсе суседзі пахаваліся ў лядоўню, якая была пад домам (капцільняй) пана Вашкевіча, і калі ўбачылі, што няма пані Валканоўскай (маёй мамы), то яны прыбеглі да нас (паштальён Вітэк і пан Дзюрдзь, які жыў на вуліцы Каліноўскага і працаваў ахоўнікам у Габрэйскім шпіталі), схапілі нас, у тым ліку каляску з маім малым братам, і таксама пабеглі да пана Вашкевіча.

Праз нейкі час пан Дзюрдзь паведаміў, што бачыў двух немцаў на плошчы Баторыя, якія ішлі ў бок Дамініканскай. Немцы сталі на скрыжаванні Горкага і Астроўскага, і калі даведаліся, што ў нас калектыўны кран, адкуль бралі ваду ўсе суседзі, то прыйшлі мыцца. Немцы зрабілі ўражанне выдатнай бялізнай і добрай вопраткай. Адносіліся да нас вельмі добра нават ласкава, частавалі ўсім, чым маглі. Немцаў мы не баяліся, больш баяліся іспанцаў, якія былі ў Гродне. Іспанцы былі наглыя, горш за немцаў. Старэйшыя нас папярэджвалі, каб мы не падыходзілі да іспанцаў. На нашае пытанне, як

адрозніць іх ад немцаў (усе былі ў аднолькавай форме), нам казалі, што іспанцы чорныя (смуглявыя).

Немцы ўвялі карткі, усіх замацавалі за крамамі. Больш таго, хто меў карову, а яе мелі на нашай вуліцы амаль усе, то за тымі замацоўвалі маці з малымі дзецьмі, і мая маці, напрыклад, кожны дзень павінна была даваць па 2 літры малака (да яе прыходзілі чатыры жанчыны з цэнтра, і кожнай яна давала па 0,5 літры).

Каля Фарнага касцёла амаль заўсёды стаяў пан Юзаф, які і фатаграфаў людзей насупраць аптэкі. Жыў ён на Рэзніцкай вуліцы.

Дом пана Яблонскага на куце Міцкевіча (№ 2 – *А.В.*) і Горкага (карычневы, злева як ісці з вуліцы Лермантава). Ён там зрабіў прыбудову і меў нешта накшталт цукерні. Там дасюль жыве ягоная дачка пані Галіна Рудніцка. На Вялікай Траецкай ёсць дом з выкладзеным з цэглы каталіцкім крыжам (цяпер вуліца Віленская, № 14 – *А.В.*). Гэта значыць, што ад гэтага дома пачыналіся дамы хрысціян, а далей па вуліцы былі так званыя яткі (Мясны рынак, Рыбны рынак), там жылі адныя габрэі.

Планавалася пабудаваць некалькі афіцэрскіх дамоў – пабудавалі два, адзін на сучаснай вуліцы Горкага (№ 47а – *А.В.*), другі на вуліцы Астроўскага (№ 4а – *А.В.*). Пад трэці (выходзіў на вуліцу Славацкага) заклалі фундамент. Магчыма яшчэ павінны былі быць дамы. Усё было абнесена плотам, а мы лазілі туды за яблыкамі. У савецкі час там была метэрэалагічная пляцоўка.

На месцы кінатэатра “Космас” была прадуктовая крама пана Русіна. Далей, дзе выходзіць вуліца Рэйманта, быў ларок з гароднінай пані Вазняковай. А далей пачыналася Станіславоўскае поле. З нашага боку захаваўся дом ксяндза Рыло (каля пошты), маці нам заўсёды казала, калі не хацелі далёка ісці ў касцёл: “Што вам дарожку замаўляць, нават ксёндз пешшу ходзіць.” Тамсама жылі пані Марыя і пан Рагульскі (у раёне вуліцы Паўліка Марозава). Прыкладна на вуліцу Катоўскага там выходзіць мураваны аднапавярховы дом пана Куяўскага, польскага чыноўніка, які меў двух сыноў. З тых дамоў што знеслі па Горкага насупраць стадыёна жоўты на куце належаў Зданцэвічам (№ 45. Знесены ў 2006 г. – *А.В.*), наступны Палканам (№ 43. Знесены ў 2006 г. – *А.В.*) (праваслаўным, з Шурай Палкановай сябравала мая маці), вялікі двухпавярховы – сям’і Цылько (№ 41. Знесены ў 2006 г. – *А.В.*). Дарэчы, маці нам заўсёды нагадвала, каб мы не забыліся пералсагнацца каля крыжа на вуліцы Міцкевіча.

Вучыцца пры немцах было нельга. Тады арганізавалі школку ў пані Гэлены Ражко. (Яна пасля вайны выкладала ў адной са школаў матэматыку ў старэйшых класах, пасля паехала ў Польшчу). Яе аднапавярховы дом стаіць на вуліцы Ватуціна насупраць кардыялагічнага дыспансэра (№ 7 або № 9 – *А.В.*). Вучыліся ў яе каля 12 чалавек у тры змены. Адзін стаяў на "шухеры". Калі з боку вуліц з'яўляліся нямецкія жандары (яны хадзілі разам з мясцовымі паліцэйскімі), то мы беглі на паддашша. Там стаялі перагорнутыя ванна, балея і іншыя вялікія рэчы, пад якімі мы павінны былі схавацца. Вучыліся так цягам некалькіх зімаў. Я пасля пайшла адразу ў 4 клас, але праседзела там два гады. Проста іншых бацькі дома рыхтавалі, а пані Гэлена правярала, а мне не было калі, трэба было глядзець брата малога. Маці працавала ў рэстаране Качынскага (?) на вуліцы Тэльмана, дзе цяпер міліцыя.

Я з габрэямі нават больш сябравала, чым з якімі іншымі дзецьмі. На куце вуліц Горкага і Камунальнай стаяў дом пані Чартковай з крамай, габрэйкі. Я сябравала з яе дачкой, і калі іх адправілі ў гета (а яны ведалі што іх адправяць), то я хадзіла на вуліцу Рабочую і горкай там падымалася, а там гулялі габрэйскія дзеці. І вось я гэтай сваёй сяброўцы давала кавалак хлеба. Маці пра гэта ніколі не ведала, бо, канешне, катэгарычна мне б забараніла гэта рабіць. Памятаю як немцы злавілі на могілках габрэя і вялі яго са звязанымі за спіною рукамі. Памятаю таксама вялізарныя прыгожыя помнікі на могілках з чорнага мармуру, проста як дамы. Немцы разбіралі гэтыя помнікі і вывозілі іх у Германію.

Немцы, наагул, забівалі 10 чалавек з той вуліцы, дзе маглі знайсці забітага немца. Ладзілі павешанні на плошчы Баторыя і зганялі туды людзей. Мая маці праседзела ў нямецкай турме два тыдні. Нашая карова ацялілася. Цялё не было чым карміць, і мы яго зарэзалі. А зарэзаць яго можна было толькі на мясакамбінаце (на вуліцы Камунальнай) і палову трэба было аддаць немцам. Маці мая паклікала пані Палканову і дала ёй два кавалкі мяса (ёй і яе сястры). Тая засунула яго пад мышкі пад хусту і панесла. Тут акурат на вуліцы аказалася паліцыя, якая яе спыніла і знайшла мяса. У выніку пані Палканова паказала на нас, а ў нас ў падвале была пячонка цяляці а пад ложкам тазік з мясам. Маці з пані Палкановай адправілі спачатку ў магістрат на вуліцы Дамініканскай (сучаснай) а пасля ў турму.

Да нас адразу прыехала бабуля, і суседзі параілі зрабіць вось што. На вуліцы Міцкевіча жыў пан Вайтатовіч (зараз вуліца 17 верасня №

19 – *А.В.*), які працаваў ветэрынарам на рэзні. Ён склаў нам даведку, што цяля было хворае і не магло дажыць да панядзелка (фактычна, моцна рызыкаваў жыццём). У немцаў у суботу ўсё працавала толькі да трох гадзін дня, а мы сказалі што цяля нарадзілася акурат у суботу.

А ў нас была знаёмая з Сапоцкіншчыны, якую павінны былі адправіць на працу ў Германію, і якую выбрала сабе за пакаёўку жонка нямецкага старасты, староста жыў на другім паверсе дома па вуліцы 1 мая (№ 2/1 – *А.В.*), а нам часам даводзілася катацца на санках у парку разам з ягонымі дзецьмі – сынам Пітэрам і дачкой Брыгітай (Пітэр быў крыху за мяне старэйшы). У двары дома таксама стаяў зялёны драўляны домік для дзяцей, мы там таксама з імі часта лазілі. І вось мабыць пакаёўка крыху памагла, і нас адправілі да гэтага старасты прасіць за маці. Было гэта ў старым будынку аблвыканкама. Пайшлі мы ўтрох з сястрой і братам. Старэйшыя нас падвялі, але засталіся ззаду. Перад дзвярыма старасты было два салдаты і сядзеў сабака. Унутры каля старасты быў перакладчык і таксама сабака (баксёр). Стараста выпытваў нас пра цяля, пытаў адкуль мы ведаем, што цялё хварэла. Я, падвучаная старэйшымі, сказала, што бачыла як маці насіла яму нешта гарачае ўвесь час. У выніку стараста сказаў дату, калі маю маму выпусцяць. Я той цэлы дзень сядзела пад турмою і чакала, але не дачакалася і пайшла. Бабуля вельмі засумавала, што я без мамы, але літаральна праз некалькі хвілін прыйшла і мама. Праз чатыры дні выпусцілі і пані Палканову.

Мы вырашылі аддзячыць старасце. Ведалі, што немцы любяць уручную зробленыя рэчы. Тады з Селіванаўцаў прывезлі вельмі прыгожы саматканы дыван і пайшлі на 1 мая да дому старасты дыван дарыць. Паднеслі яго ягонай жонцы, але тая не ўзяла, сказаўшы, што дзецям (тое значыцца нам) будзе больш патрэбна. У выніку дыван аддалі пану Вайтатовічу, той узяў.

Яшчэ адна гісторыя. У доме з драўлянымі калонамі па вуліцы Мядовай жыла нямецкая сям'я (№ 3 – *А.В.*). Была ў іх дзяўчынка Марта майго ўзросту. І вось аднойчы мы з сяброўкамі ішлі з касцёла, а Марта каталася там на санках. Я па нагавору сябровак паклікала Марту па-нямецку "Марта, ком хер", і яна падбегла да нас і пачала гаварыць па-нямецку. Я маўчала, паколькі нічога не разумела. Тады Марта ўдарыла мяне па шчацэ. Я вельмі хутка зрэагавала і таксама яе ўдарыла. Марта з плачам пабегла дадому. Дарослыя, якія выдатна разумелі, чым гэта для мяне можа скончыцца, падхапілі мяне

і пацягнулі да кузні (каля будынка сучаснага аграпрома) а пасля выцягнулі на вуліцу Міцкевіча і кругам прывялі дадому. Маці доўга думала, што рабіць са мной, пасля нарады з мяне вырашана было зрабіць хлопчыка. Мне састрыглі касічкі і далі брыдкае паліто, перашытае з коўдры. Таксама забаранілі хадзіць у парк і ў цэнтр. Больш я тую Марту і не бачыла.

У 1944 г. мы хаваліся на вуліцы Квітко (Чвартацкай) каля двух тыдняў, бо немцы папярэдзілі, што могуць быць цяжкія баі.

У 1944 г. адчынілі тры школы – беларускую (цяпер № 4), рускую (на вуліцы Кірава) і польскую ў былой гімназіі каралевы Ядвігі (вуліца Валковіча, № 1 – *А.В.*). Я там і правучылася да 1948 г., пакуль яе не перарабілі ў рускую. Я сама пайшла ў вячэрнюю школу.

Таксама прыкладна ў 1948 г. арыштавалі маму. Арыштавалі яе па даносу маёра МГБ Міцюхіна, родам з Іванава, якога да нас пасялілі. З нашага дома зрабілі чатырохкватэрны. Мы жылі ў трох пакоях на другі паверсе, а знізу былі 3-х, 2-х і 1-пакаёвая кватэры. Міцюхін займаў трохпакаёвую. Пасля ён угаварыў маю маці, каб яна аддала яму пакоі наверсе, а сама перасялілася ўніз. Пасля падсяліў да нас ў адзін пакой нейкую франтавічку. У выніку з дзевяці пакояў нашых засталося толькі два. Але арыштавалі маму пасля таго, як яна сказала пра Міхюхіна, што ён свіння і несумленны, калі той выпусціў на агульныя градкі сваю свінню, і тая там усё пакапала.

Маму 15 сакавіка (1949-га або 1950-га г.) судзілі на вуліцы Замкавай, далі 15 год па палітычнаму артыкулу. Міцюхін, праўда, казаў што на маму нагаварыў эмгбіст Віця, які таксама жыў у нас, але мама сказала, што ўсё ж такі Міцюхін, бо яна мела вочную стаўку ў пракурора. Восенню 1950 г. маму выпусцілі. Яна пасля працавала ў вайсковым і шпіталі і Доме дзіцяці. Выселіўшы з вуліцы Горкага далі кватэрку на вуліцы Пушкіна. Памерла мама ў 1994 г.

## Шпак Яўгенія Леанідаўна (1934 г.н.). (*Запісана 13 мая 2012 г.)*

Мая маці паходзіла з вёскі Тупічаны, што каля Воўпы, а вось па лініі бацькі ўсе былі гродзенцамі як мінімум на працягу некалькіх пакаленняў і  на старых могілках па вуліцы Антонава засталося шмат магілаў маіх продкаў. Бабуля – Дашута Ядвіга Ігнацьеўна, была каталічкай, дзед – Шпак Іван Адамавіч – праваслаўным. Да Першай сусветнай вайны ён быў вайсковым пісарам ў Масалянах (накшталт

супрацоўніка ваенкамата), а ў гады вайны разам з жонкай і сынамі Жэнем і Леанідам (маім бацькам) эвакуяваўся ў Тулу, дзе сям'я пражыла шэсць гадоў і вярнулася ў Гродна ўжо ў пачатку 1920-х гг.

Бацька мой працаваў электрыкам на воданасоснай станцыі, і ўжо пасля майго нараджэння мы пераехалі на вуліцу Гарбарскую да бабулі. Той дом быў пабудаваны незадоўга да нашага пераезду, і стаіць насупраць атэльє індывідуальнага пашыву на цяперашнім скураным заводзе. Бадай усе нашыя суседзі (апрача пані Шкуцьковай) былі габрэі, а вышэй, на частцы тэрыторыі цяперашняй бальніцы №1, быў габрэйскі малітоўны дом. Мы чулі як габрэі маліліся і спявалі.

Перадваенны час памятаю слаба. Памятаю, як ляжала з бабуляй у інфекцыйнай бальніцы (цяпер будынак былога кардыялагічнага дыспансэра па вул. Ватуціна). Таксама памятаю свайго хроснага бацьку – пана Дзюрдзя, які жыў у доме № 5 па вуліцы Каліноўскага. Ён пасля вайны выехаў у Польшчу, а мы нават нейкі час жылі ў ягоным доме, пакуль там не пасялілі чыноўніка з Гродзенскага абкама партыі Бурава.

Падзеі 1939 г. запомніліся тым, што падчас страляніны на вуліцы быў ранены мой бацька. А вайна 1941 г. для мяне пачалася з ранішняй бамбёжкі. Бабуля думала, што надышла навальніца і сказала сястры: "Гандзя, замкній фурткэ". Аказалася, што гэта не навальніца, а на горад падаюць бомбы. Было страшна. Запомніліся таксама і савецкія бамбардзіроўкі 1944 г. Мы хаваліся ў падвале, але неяк бачылі, як бамбардзіроўшчыкі скідвалі бомбы на іншыя месцы горада. Як ад самалёта аддзяляецца адразу пяць кропачак, і як яны падаюць на горад адна за другой.

Падчас акупацыі ў будынку цяперашняй школы № 4 размясцілася нямецкая жандармерыя. Немцы спявалі і часам ганялі людзей да сябе чысціць бульбу і займацца іншымі гаспадарчымі справамі, але пасля адпускалі. Там жа недалёка працавалі гарбарня і прадуктовая крама (тая самая, што і цяпер на вуліцы Лермантава).

Я жыла сваім дзіцячым жыццём і мяне мала зачапілі падзеі вайны, напрыклад, перасяленне габрэяў у гета. Памятаю толькі, што дамы іх доўга стаялі пустыя, а лесвіцу на Завершчызну будавалі менавіта падчас вайны. На вуліцы Мядовай жыў нейкі нямецкі капітан з жонкай і дзвюма дочкамі. Я там каталася на каньках, і адна з іх клікала мяне да сябе, што, маўляў, яна таксама хоча навучыцца

катацца. Але я ўжо тады ведала, што з немцамі лепш не звязвацца, і ўцякла. Праўда з-за матэрыяльных праблем, асабліва з харчаваннем, працаваць прыходзілася і мне. Напрыклад, мы хадзілі да заможнага селяніна Аніські ў Пярэселку капаць яго бульбу, за што атрымлівалі харчаванне. Так, дарэчы, рабілі многія гродзенцы.

Пайсці ў школу ў савецкі час я не паспела, і бацькі вырашылі аддаць мяне на хатняе навучанне жонцы царскага палкоўніка Аксанавай Яўгеніі Пятроўне, якая жыла ў Веры Гуменнай па вуліцы Ватуціна № 6. Да яе сабралі таксама і другіх дзяцей – Юрку Крука, Веру (дачку гаспадыні), Ігара Мінючыца (пасля быў урачом у Еўпаторыі), Данару Агаян. Апошняя была дачкой савецкага афіцэра, які пайшоў на фронт у 1941 г. Данара з маці пражыла ўсю вайну на вуліцы Ажэшка і немцы яе не чапалі, хаця гэта была сям'я савецкага афіцэра. Немцы ведалі пра нашае навучанне, наведваліся да нас, але паколькі Яўгенія Пятроўна вучыла нас нямецкай мове, то яны прэтэнзій не мелі. Нашыя веды былі настолькі грунтоўныя, што пасля вызвалення летам 1944 г. мы змайглі пайсці адразу ў трэці клас.

Перад гэтым былі баі за горад. Мне запомніўся паранены салдат, які ляжаў у агародзе пані Жмійковай (жыла насупраць нас). Іншыя савецкія салдаты стараліся яму дапамагчы, але ён неўзабаве памёр.

Пасля вайны я вучылася ў школе № 7 (цяпер № 10), якую скончыла ў 1952 г. Сярод нас, дзесяцігодак, было шмат падлеткаў па 15 і нават 17 гадоў. Першым дырэктарам школы быў Абрам Рыгоравіч Машэвіцкі, якога мы вельмі любілі і паважалі.

Бабуля памерла ў 1970 г., а ў 1972 г. знеслі наш дом. Тагачасны галоўурач бальніцы Міранчык выступіў з ініцыятывай яе пашырыць і разам з нашым знеслі яшчэ некалькі дамоў, праўда, нічога добрага там так і не пабудавалі.

*Запіс успамінаў і падрыхтоўка да друку*
*Таццянай Касатай і Андрэем Вашкевічам.*



Сям'я Давідовічаў,
1920-я гг



Вучні школы №8 па вуліцы Базыльянскай. Стаіць справа дырэктар школы Вевюрскі.



Дом дырэктара школы №8 Вевюрскага



Частка вуліцы Горкага (Грандзіцкай), знесеная ў 2006 годзе



Гасцініца 'Беларусь' у 1968 г. Каля яе яшчэ бачна мясная крама Вашкевіча



Вуліцы Горкага, Рэйманта і Пушкіна ў 1968 годзе. Бачна старая забудова вуліцы Горкага, знішчаная ў 1970-х гг.



Дом па вуліцы Мядовай №3, дзе ў гады вайны жыла нямецкая сям'я




Парк Жылібера перад Другой Сусветнай вайной

# Змест